# ВАСІЛЬ ГАРБАЦЭВІЧ

# ЧЫРВОНЫЯ КВЕТКІ БЕЛАРУСІ

## П'ЕСЫ

МІНСК
„МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА"
1983

ББК 84 Бел 7
Г 20

Пад рэдакцыяй К. Л. Губарэвіча

Гарбацэвіч В.
Г 20 Чырвоныя кветкі Беларусі: П'есы.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 192 с., 1 л. партр.
У пер.: 80 к.

Васіль Гарбацэвіч — адзін з заснавальнікаў беларускай савецкай драматургіі. У 20—30-я гады яго п'есы ставіліся на прафесійных і клубных сцэнах па ўсёй Беларусі і выклікалі вялікую цікавасць гледачоў.
Малады вясковы настаўнік, В. Гарбацэвіч добра ведаў народнае жыццё і народныя звычаі, і таму такімі жывымі і сёння паўстаюць перад намі героі яго драматычных твораў.
У зборнік увайшлі п'есы «Вяселле», «Чырвоныя кветкі Беларусі», «Песні нашых дзён», «Максім Саравітан» і драматычны абразок «Яраслаўскі вечар» — пра сустрэчу аўтара з Максімам Багдановічам.

Г $\frac{4702120200-116}{М 302(05)-83}$ 99—83 ББК 84Бел7

## ПРА ТЫЯ ГАДЫ

Толькі-толькі сышла з Беларусі крывавая аблона белапольскай акупацыі, і душа спакутаванага народа ўздыхнула шырока і вольна насустрач радасці свабоднага жыцця. Пачаўся ўсяго трэці год беларускай дзяржаўнасці, і трэба было яшчэ шырэй азірнуцца і паглядзець, што мы за народ, з якім набыткам уваходзім у дзяржаўную сям'ю братніх рэспублік. Што страцілі, што зберaглі, з чым пойдзем далей?

А зберaглі свае песні, звычаі, традыцыі — душу, без якой няма народа. Пра багаты духоўны скарб яго склалі паданні, песні, паэмы Янка Купала, Якуб Колас, Цётка, Максім Багдановіч... Іх творы паклікалі да жыцця новыя парасткі літаратурнай моладзі, зарунела першае пакаленне паслярэвалюцыйных літаратараў. І, бадай, першым з іх заявіў пра сябе малады дукорскі настаўнік Васіль Гарбацэвіч, сёння — ветэран Айчыннай вайны, пісьменнік, заслужаны настаўнік БССР.

З юнацтва ўлюбёны ў народную творчасць, ён піша п'есу «Вяселле», глыбока прасякнутую багатым беларускім вясельным фальклорам, для якога знайшоў надзвычай выразную сцэнічную форму. І сам па сабе беларускі вясельны абрад — дзівосны спектакль са сваёй завязкай, развіццём і кульмінацыяй. Але аўтар

не абмежаваўся простай ілюстрацыяй яго ў дзейных асобах, а ўсё падначаліў драматургічнай задуме. У яе аснове тыповая для свайго часу жыццёвая сітуацыя, калі бацькі выдавалі часам дачку за багатага ды нялюбага. У аснове была драма чалавечага лёсу, і вясельны абрад з яго вясёлымі і сумнымі песнямі, музыкай ярка кантраставаў з душэўным станам дзяўчыны.

Гэта ўжо была не інсцэнізацыя абрада, а мастацкі драматургічны твор, які адразу зацікавіў адзіны на той час прафесіянальны тэатр — Беларускі дзяржаўны тэатр (сённяшні купалаўскі). У 1921 годзе і пачала жыццё першая п'еса Васіля Гарбацэвіча.

На вачах Васіля Гарбацэвіча дымілася кроў шаснаццаці дукорскіх партызанаў-падпольшчыкаў, расстраляных белапалякамі. Як такое можна было забыць ці прапусціць міма сэрца?.. Ён піша драму — першую гераічную драму ў беларускай савецкай драматургіі — аб першых беларускіх партызанах. Гэта пасля ўжо будуць «Лясная быль» Чарота, «Хвоі гамоняць» Вольнага — на экране, «Дрыгва» Коласа — на сцэне, а пакуль — «Чырвоныя кветкі...» Гарбацэвіча. Першая запеўка вялікай, невычарпальнай тэмы беларускай літаратуры і мастацтва і па сённяшні дзень. Ды ці толькі па сённяшні?

Не дзіва, што Беларускі дзяржаўны тэатр адразу ж уключыў «Чырвоныя кветкі Беларусі» ў свой рэпертуар, а часопіс «Полымя» — у чарговы нумар.

Прафесіянальных тэатраў тады яшчэ было мала, і п'еса шырока пайшла ў драматычнай самадзейнасці, якая значна апераджала развіццё прафесіянальных тэатраў. Помню, з якім поспехам праходзіў гэты спектакль у пастаноўцы драмгуртка магілёўскага педтэхнікума (рэжысёрам быў сам В. Гарбацэвіч). Свайго тэатра ў Магілёве тады яшчэ не было, і спектакль неаднаразова паказвалі на сцэне гарадскога тэатра, на клубных сцэнах Магілёва і падшэфных вёсак.

І сучасная крытыка не забывае п'есу. У навуковых працах У. Няфёда, А. Сабалеўскага, Н. Перкіна, С. Пятровіча п'еса неаднойчы даследавалася і аналіза-

валася. А на сцэнах некаторых народных тэатраў «Чырвоныя кветкі...» не вянуць і па сённяшні дзень.

У 1930 годзе ў Белдзяржвыдавецтве асобным выданнем выйшла п'еса Васіля Гарбацэвіча «Песні нашых дзён». А пісалася ж, пэўна, у 1929 годзе. У першы год калектывізацыі. У самыя гарачыя дні вялікага пералому, калі ўсё яшчэ было так востра, супярэчліва... Нават сёння, калі прайшло больш чым паўвека, не кожнаму пісьменніку пад сілу ўзняцца над абсягам тых падзей і дзён, што ж хацець ад пісьменніка, які знаходзіўся ў самым віры іх... А Васіль Гарбацэвіч быў захоплены і паланёны тым вірам, пісаў па гарачым следзе падзей, пра тое, што сам перажыў і на свае вочы бачыў.

Канечне, у віры падзей не ўсё відаць, але аўтар убачыў, як агалілася класавая прырода кулацтва, як цяжка было самому селяніну пераадолець псіхалагічны бар'ер аднаасобніка. А на першым этапе калектывізацыі гэты бар'ер быў, бадай, з самых цяжкіх — і аб гэтым п'еса. Яна ішла ў асноўным на самадзейнай сцэне, бо тагачасны прафесіянальны тэатр, як вядома, не адразу асмеліўся рашаць тэму калектывізацыі. Але ў беларускай драматургіі п'еса Васіля Гарбацэвіча таксама была першай ластаўкай на гэтую тэму.

За што яшчэ можна падзякаваць аўтару зборніка, дык гэта за драматычны абразок «Яраслаўскі вечар». Ён дарагі не столькі, можа, як мастацкі твор, а як літаратурны дакумент пра Максіма Багдановіча. Жыццё Гарбацэвіча ў маладосці склалася так, што ў гады імперыялістычнай вайны ён апынуўся ў Яраслаўлі, дзе на тым часе жыў і вучыўся Максім Багдановіч. Яны пазнаёміліся, сустракаліся, успаміналі сваю Беларусь. Пра адну такую сустрэчу і літаратурны вечар з удзелам Багдановіча і напісаў Васіль Гарбацэвіч амаль з дакументальнай дакладнасцю гэты драматычны абразок.

Пісьменнік пісаў пра тое, што сам бачыў, перажыў. Вобразы яго твораў жывіліся рэальнай рэчаіснасцю ў пэўнай меры роднай Дукоркі, лёсам яе людзей,

блізкіх і дарагіх яму. Ён хацеў ведаць не толькі іх сённяшняе жыццё, а і як жылі іх бацькі, дзяды і прадзеды. Далёкая мінуўшчына Дукоркі. Яна не забылася. Даволі было зірнуць на мясціну ля парку, дзе калісьці ўзвышаўся палац дукорскага пана Лявона Ашторпа, каб народная памяць перагарнула самыя чорныя старонкі мясцовай гісторыі. Вывучаючы дакументы, успаміны, былі і паданні пра жорсткага, крывавага абшарніка, Васіль Гарбацэвіч надаў той гісторыі форму драматычнага твора, назваўшы яго «Максім Саравітан» па імю галоўнага героя п'есы, кіраўніка сялянскага паўстання.

П'есы гэтага зборніка напісаны даўно. Яны належаць свайму часу, тагачаснай эстэтыцы, тагачаснаму ўзроўню беларускай драматургіі, калі мець на ўвазе не класікаў нашай літаратуры, а маладых драматургаў.

П'есы Васіля Гарбацэвіча, як і п'есы Галубка, Васіля Шашалевіча і некаторых іншых драматургаў,— першыя старонкі маладой беларускай савецкай драматургіі. Нам, сённяшнім драматургам, нельга забываць, што і з чаго пачалося. Таму вельмі ашчадна і ўважліва трэба паставіцца да драматургічнай спадчыны 20-х гадоў і выдаць яе ці то асобнымі зборнікамі, ці анталогіяй. Пры захаванні яе тагачаснай адметнасці, хоць яна, можа, і не ва ўсім будзе адпавядаць нашым сённяшнім крытэрыям. Але гэта — наша гісторыя, і яе трэба шанаваць.

*Кастусь Губарэвіч*

# МАКСІМ САРАВІТАН

Драма ў 2-х дзеях

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Пан Лявон Ашторп, 70 год.
Пан Радзівіл, 60 год.
Княгіня, яго жонка, 50 год.
Граф Тышкевіч, 45 год.
Графіня, яго жонка, 40 год.
Пан Скірмунт, 35 год.
Яго жонка, 30 год.
Ксёндз Дамінік, 50 год.
Войт, 45 год.
Кацярына, яго дачка, 22 гады.
Лявон, старшы гайдук, 23 гады.
Юзэф, Францішак — лакеі Ашторпа.
Максім Саравітан, 35 год.
Лірнік; ён жа скрыпач Даніла.
Андрэй.
Адась.
Анэта, пакаёўка.
Змітрок, конюх.
Вацлаў, салдат.
Васілёк, Барыс, Алесь — вясковыя хлопцы.
Фроська, Алена, Параска, Таццяна — вясковыя дзяўчаты.
Тодар, Ягор, Сідар, Куліна — сяляне сярэдняга ўзросту.
Сяляне.
Гайдукі.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Перад заслонай Лірнік.

Лірнік.
То не казка будзе з маіх вуснаў ліцца.
Праўду-матку толькі паведаю, людцы.
У маёнтку Ашторп лютаваў уладарна.
Не было паблізу яму паноў роўных.
Маткі сваіх дзетак яго імем страшаць.
Вызваліць ад здзекаў яны бога просяць.
Але бог не чуе стогнаў тых народу,
З ім паны-магнаты наладзілі згоду,
Пакуты народа ліюцца ракою,
Ад крыві кат Ашторп не мае спакою,
Больш і больш усё бракне яго цела ёю,
Пачакай, Ашторпе, заплаціш сваёю.

Лірнік змаўкае і выходзіць. Адкрываецца заслона. Палац Ашторпа, перад ім газон. Поўдзень. Страшэнная спякота. На балкон з палаца хутка выходзіць Ашторп.

Ашторп. Душна!.. Паветра мне, паветра!.. Я задыхаюся!.. *(Пагражае кулаком сонцу.)* Смелае, што высока! Дабяруся! Душна! Мне душна!!!

Падае ў крэсла і цяжка дыхае. Цішыня. У расчыненым акне, якое выходзіць на балкон, з'яўляецца Юзэф. Ён чакае загаду пана, але Ашторп у забыцці, нават грудзі перасталі ўздымацца.

Юзэф *(выходзячы на балкон)*. Што з ім? Ці жывы?

Ціха падыходзіць да пана і прынікае вухам да яго грудзей. Раптам закукаваў зязюляю гадзіннік. Ашторп расплюшчыў вочы, усхапіўся так імкліва, што Юзэф падае.

Ашторп *(крычыць)*. Людзі, сюды!

З'яўляюцца два гайдукі.

Гайдукі. Што загадаеце, яснавяльможны?

Ашторп. Вось гэта быдла хацеў мяне задушыць. Спусціць на яго сабак.

Юзэф *(на каленях)*. Ясна...

Ашторп. Чаго стаіце?

Гайдукі схапілі Юзэфа і павалаклі з балкона.

Я ўладар гэтых бязмежных абшараў! Ніхто хай не важыцца ісці супроць мяне! *(Застывае ў позе, выражаючай усеўладства.)*

Раптам цішыню прарэзвае брэх сабак і пакутны чалавечы крык.

Хто асмеліўся маіх сабак трывожыць? Закатую! Францішак!

З'яўляецца Францішак.

Францішак. Што загадаеце, яснавяльможны пане?

Ашторп. Чаго сабакі брэшуць?

Францішак. Яснавяльможны пане, іх спусцілі на Юзэфа.

Ашторп *(хутка падыходзіць да рашоткі)*. Зараз жа спыніць! Чуеце, забраць сабак!

Наступае цішыня.

Паклікаць гайдукоў!

Францішак знікае.

Мой любімы лакей!

Уваходзяць гайдукі.

Ашторп. Дзе Юзэф?

Гайдукі. На двары, яснавяльможны пане.

Ашторп. Каб зараз жа быў тут!

Гайдукі. Яго разарвалі сабакі.

Ашторп. Што?! *(Паўза.)* Як жа вы да гэтага дапусцілі?!

Гайдукі. Мы выконвалі загад яснавяльможнага пана.

Ашторп. Мой загад вам — зараз жа адсячы па пальцу на левай руцэ!

Гайдукі. Слухаем, яснавяльможны пане!

Ашторп. Францішак!

З'яўляецца Францішак.

Францішак. Што загадаеце, яснавяльможны пане?

Ашторп. Каб быў тут музыка Даніла.

Францішак выходзіць. На балконе з'яўляецца гайдук Лявон.

Лявон. Яснавяльможны пане, бяда!

Ашторп. Кажы хутчэй, быдла!

Лявон. Атаман нагу зламаў.

Ашторп. Як?

Лявон. Зміцрок на вадапой вёў.

Ашторп. Паклікаць сюды!

Лявон бяжыць, у дзвярах налятае на Данілу. Ад сутычкі загаманілі струны скрыпкі.

Даніла. Што загадаеце, яснавяльможны пане?

Ашторп. Зайграй так, каб гэта праклятае сонца астыла!

Даніла. Не маю такой сілы, каб сваёй ігрою прымусіць сонца не грэць.

Пачынае граць. У яго ігры чуецца і боль чалавечага сэрца, і стогн маці па сыну, і галасы абурэння і нянавісці да катаў. Твар Ашторпа наліваецца крывёю. Ён ускоквае і крычыць.

Ашторп. Гэй ты, быдла! Што за ігру ты для мяне выдумаў сёння?! Ад яе ў маім сэрцы нараджаецца трывога.

Даніла. Гэта ігра майго сэрца, а я не ўладар над ім.

Ашторп *(у шаленстве)*. Дык я ўладар над ім!.. Над табой!.. Над тваімі думкамі!

Даніла *(спакойна)*. Не, яснавяльможны пане, ніхто не ўладар над маімі думкамі.

**А ш т о р п.** Маўчы, смярдзючы хлоп! А то гэтай скрыпкай раскрою табе галаву і вызвалю з яе брудныя думкі. Іграй па душы мне! Пра маю магутнасць, пра тое, што я ўладар не толькі над людзьмі, але і над прыродай, пра маю моц, якой не будзе канца!

Прыбягае гайдук Л я в о н.

**Л я в о н.** Яснавяльможны пане, конюх Змітрок збег!

**А ш т о р п.** Знайсці!.. Злавіць!.. Прывесці да мяне!.. А не — скуру з усіх спушчу!

Уваходзіць ксёндз Д а м і н і к.

**Д а м і н і к.** Ды ніспашле ўсявышні шчадроты свае на галаву тваю, вяльможны пане, ды свеціць ярчэй сонца ў жыцці тваім.

**А ш т о р п.** Шчадрот і так у мяне хапае, а сонца хай прападзе са сваім цяплом!

**Д а м і н і к.** О, якія словы я чую з вуснаў вяльможнага пана! Гардыня і непаслушэнства запаведзям гасподнім гучаць у іх. Змірыся, сын мой.

**А ш т о р п** *(Данілу і Лявону).* Вы чаго вушы развесілі? Прэч адсюль!

Л я в о н амаль пабег, а Д а н і л а выходзіць не спяшаючыся, з горда паднятай галавой.

А ты не каркай! Ведаю я тваё паслушэнства запаведзям гасподнім і смірэнне. За салодкую ежу і хмяльное пітво з майго стала ты прадаеш іх!

**Д а м і н і к** *(узвёўшы вочы да неба і склаўшы крыжам рукі на грудзях).* Няхай даруе гасподзь рабу божаму Лявону яго праграшэнні, вольныя і нявольныя, і ніспашле яму мір і супакаенне.

**А ш т о р п.** Сядай, айцец Дамінік. Растлумач мне — ты ж дыпламатам лічышся,— што

рабіць з гэтым непаслухмяным быдлам? У мяне такое ўражанне, што ўсе яны дыхаюць нянавісцю да мяне, гатовы накінуцца і перагрызці горла.

Д а м і н і к. Адзін выпрабаваны сродак у руках панства: больш унушаць страху хлопам.

А ш т о р п. А хіба я літасцівы да іх? Маім імем маткі пужаюць сваіх малых дзяцей, хіба не толькі што мае сабакі разарвалі хлопскае цела Юзэфа. Але нішто не дапамагае.

Д а м і н і к. Пачаў муціцца народ. *(Знізіўшы голас.)* Вось і сёння я дазнаўся ад надзейных людзей, што ўчора ў Забалоцці быў нейкі Максім Саравітан, беглы салдат. Падбухторваў народ супроць шаноўнага панства. Перадаваў, што на Віленшчыне вялікія мужыцкія хваляванні. Паляць маёнткі, забіваюць іх уладарных гаспадароў.

А ш т о р п. А чаму яго не схапілі?! Чаму не прывялі да мяне?! Вось дзе выяўляецца «вернасць» вашай службы!

Д а м і н і к. Дарэмна, вяльможны пане, крыўдзіце мяне. Я ўсё зрабіў для таго, каб схапіць крамольніка. Але прыбеглі гайдукі, а ад яго ўжо пыл улёгся — уцёк.

Уваходзіць Ф р а н ц і ш а к.

Ф р а н ц і ш а к. Яснавяльможны пане, князь Радзівіл.

А ш т о р п. Прасі.

Ф р а н ц і ш а к выходзіць.

Вось адзіны чалавек, роўны мне. Толькі з ім я супакойваю сваё сэрца.

Уваходзіць Р а д з і в і л. Ашторп ідзе яму насустрач.

Р а д з і в і л. Нех бэндзе пахвалёны.

А ш т о р п. Навекі.

Вітаюцца.

Сядай, князь. Добрым ці злым ветрам цябе занесла сюды?

Радзівіл *(выціраючы потную лысіну).* Думаю, пану Ашторпу вядома, якія зараз ветры дзьмуць, асабліва з усходу.

Ашторп. Яшчэ якія навіны?

Радзівіл. Дзеля гэтага і прыехаў да пана.

Ашторп *(бліжэй прысоўваецца да князя, які вачыма паказвае на Дамініка).* Айцец Дамінік — наш шчыры аднадумец, і яго прысутнасць хай не выклікае ў князя трывогі.

Радзівіл. У пана Уладзімірскага, як табе вядома, каля Чэрыкава ёсць маёнтак. Учора адтуль прыбыў яго сын са страшнай весткай: разбэшчанае быдла чыніць нечуваныя расправы над панствам. Прысланыя войскі пакуль што не асабліва загараюцца гэтай справай, а чакаць, пакуль яны загарацца, дык згарацъ усе маёнткі разам з іх гаспадарамі.

Ашторп *(з вялікім хваляваннем).* Дык чаго ж сядзець склаўшы рукі? Трэба нешта рабіць. Зараза не сёння-заўтра можа перакінуцца і сюды. Наш хлоп таксама стаў ненадзейным. Глядзіць воўкам. Выдумалі моду некуды ўцякаць.

Радзівіл. Не некуды, а ў пушчы. Дакладна ўстаноўлена, што нашых мужыкоў муцяць «госці» з Расіі і нашы малойчыкі, якія нахапаліся атрутных ідэй Герцэна.

Ашторп. Яго «Звон» гучнейшы, чым царкоўны і касцельны.

Радзівіл. Праўда, айцец Дамінік?

Дамінік. Я ў палітыку не ўмешваюся.

Радзівіл *(з'едліва).* А якая вам тады цана?!

Ашторп. Я прапаную, князь, неадкладна з'ехацца хоць мясцоваму панству і параіцца, як быць, якія прыняць сродкі супроць небяспекі.

Радзівіл. За гэтым я і прыехаў. Панства лічыць за лепшае прыехаць сюды.

Ашторп. Я палічу за вялікі гонар для сябе прыняць шаноўнае панства.

Радзівіл. Толькі гэта трэба трымаць у вялікім сакрэце. Ёсць думка наладзіць банкет. Сродкі для гэтага ўжо сабраны.

Ашторп. Што? З якога гэта часу сталі лічыць мяне, Ашторпа, уладара чатырох маёнткаў, жабраком?

Радзівіл. Выбачай, пане Ашторп, але гэта агульная святая справа, і кожны сапраўдны патрыёт гарыць жаданнем быць яе непасрэдным удзельнікам.

Ашторп. Сабраныя грошы будуць патрэбны для больш важнай справы. А я не дазволю, каб у маім доме банкетавалі за нейчы кошт.

Радзівіл. Хай будзе так. Схіляю галаву перад высакародным тваім патрыятызмам.

Ашторп. А як айцец Дамінік глядзіць на гэту справу?

Дамінік. Я, шаноўныя, раздаўлены ўсім пачутым. Такая гасподняя кара можа зваліцца на галовы панства.

Ашторп. А твая грэшная душа ўжо ў пятках апынулася?

Панеслася песня «Кацiўся вяночак з поля», якая ўсё ўзрастае.

Радзівіл *(трывожна)*. Што гэта?

Усе пільна прыслухоўваюцца. Песня ўсё бліжэй.

Ашторп. А, гэта сёння ў мяне дажынкі. Хлопы ідуць славіць мяне і павесяліцца. Прашу пана застацца і паназіраць.

Радзівіл. Зараз, пане Ашторп, не да ідылій, якія нечакана могуць скончыцца трагедыяй. Я еду. Да хуткага пабачэння, панове.

Ашторп і Дамінік устаюць і праводзяць Радзівіла. Да ганка палаца падыходзяць дажынальнікі, жанчыны і мужчыны. Усе ў святочных вопратках. У дзяўчат на галовах вянкі з палявых кветак, на плячах сярпы. Уперадзе Фроська са снопам, упрыгожаным кветкамі.

Фроська *(пяе)*.
Пусці, пані, да пакоя,
Бо я ў полі настаяўся,
Буйных ветраў наслухаўся,
Дробным дажджом намачыўся.

Ашторп выходзіць на ганак і апускаецца ў крэсла. Фроська становіцца на калені перад панам.

Фроська *(пяе)*.
Мы панава жыта жалі,
Сярпы нашы не ляжалі —
Дарма.
Мы ўсе жнейкі руплівыя,
На работу хаплівыя —
Вельмі.
Колькі ў снопе каласочкаў,
Столькі пану жыць гадочкаў —
Многа.
А за працу цяжэнькую
Пан дасць гульню хмяльненькую —
Дужа.

Ашторп *(да Францішка)*. Чыя гэта, што славіць?

Францішак. Тодара мулера дачка. У наступную нядзелю яе вяселле з Васільком Чубам.

Ашторп. У суботу ўвечары яна павінна быць у палацы. Ідзі.

Францішак выходзіць. Збягае з ганка і Фроська, адчуўшы нешта нядобрае. Сяляне рассыпаюцца на газоне перад палацам, куды ўжо выкочваюць бочкі з мёдам, расстаўляюць на разасланыя доўгія палотны закуску. Шумна, весела. Усе садзяцца на траву. Пачынаецца частаванне. Вяселле нарастае.

Чутны воклічы.

— Браты, вып'ем за лепшую долю мужыцкую!

— За яе, матухну!

— За волю-вольніцу!

На газоне з'яўляецца Даніла са скрыпкаю. Воплескамі сустракаюць яго.

Фроська. Дзядзечка, родненькі, сыграйце! Вы сваёй ігрой хапаеце за сэрца.

Усе. Просім!

Даніла. Так, браты і сёстры, з вялікай шчырасцю сыграю вам, бо апрыкрала ўжо іграць тым, хто лічыць цябе за быдла.

Усе сціхаюць, Даніла пачынае іграць. Спачатку льецца мелодыя журботная. Тут і журчанне ручайка, і празрыстасць чыстых крыніц, і павевы ласкавага ветру, і пошчакі салаўіныя. Тут і стогн пакутуючых людзей. Жанчыны рагамі хустак выціраюць слёзы, чуюцца цяжкія ўздыхі мужчын. Раптам музыка нібы абудзіўся, горда ўзняў галаву, вочы яго загарэліся агнём, задыміліся гневам. З-пад смычка яго вырвалася, як бушуючы шквал, бурная мелодыя. У ёй вуха кожнага ўлавіла і гнеўны пратэст супроць гвалту, і нянавісць да крыўдзіцеляў, і жаданне вольна ўздыхнуць. Гэта перадаецца і людзям. Пасуровелі твары, сцяліся зубы, наліліся новай сілай мазалістыя кулакі. Даніла скончыў. З-за дрэва выходзіць Максім Саравітан і спыняецца пад каштанам. Яго не заўважаюць.

Фроська *(падносячы Данілу кубак мёду)*. Прыміце ад усіх, каму вы дарагі, дзядзька Даніла.

Падае яму кубак, той выпівае.

Саравітан *(падыходзячы да Данілы)*. Шчыра цісну руку, якая так цудоўна валодае смычком, ад імя тых, хто ўжо становіцца на шлях барацьбы супроць няпраўды і насілля.

Некаторыя пазнаюць Саравітана, але большасць са здзіўленнем глядзяць на незнаёмага. Гайдукі падбягаюць і хапаюць Саравітана. Хлопцы кідаюцца абараняць яго, але Максім цвёрдым, спакойным голасам спыняе іх.

Саравітан. Браты, не трэба. Поўны спакой.

Гайдукі вядуць Саравітана на ганак.

Ашторп. Ты што за чалавек?

Саравітан. А ты хто такі, што такім тонам пытаеш мяне?

Ашторп *(у шаленстве)*. Я той, хто зараз жа можа аддаць загад, каб мае сабакі разарвалі на дробныя кавалкі тваё смярдзючае цела.

Саравітан. Чуў, чуў, што пан — аматар на такія «забавы». Але панскія сабакі не крануць, бо прывыклі толькі да мужыцкай крыві. На мне ж наліпла многа панскай.

Ашторп. О, гэта цікавая асоба!

Саравітан. Чым жа мая асоба так зацікавіла шаноўнага пана? Ці не тым, што мы навучыліся пускаць кроў вашаму брату?

Ашторп. Узяць яго!!! Закатаваць на стайні да смерці!

Саравітан. Паспрабуйце! *(Выхоплівае вялізны нож.)* Вось гэта напрактыкаваная на панах рука не памыліцца!

Дамінік палез пад стол, гайдукі стаяць у нерашучасці. Сяляне ў вялікім напружанні.

Ашторп *(шалеючы)*. Што, здрада?! *(Да гайдукоў.)* І вы?!

Саравітан. Да хуткага пабачэння, пан! А зараз лавіце Максіма Саравітана!

Знікае ў кустах. У сялян вырываецца крык радасці. Ашторп хапае крэсла і кідае ў гайдукоў.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Перад заслонаю зноў Лірнік. Пад мелодыю народнай песні «Ой ляцелі гусачкі цераз сад» ён працягвае.

Лірнік.

У Тодара заўтра бяседа, збярэцца радня і суседзі.

Але ж музыкі не зайграюць
і дружкі не заспяваюць.
Не, не пеці птушцы песень, як прымусяць
у клетцы жыць.
Не вясна ёй тут, а восень,
і гняздзечка недзе звіць.
А былі, былі дзянёчкі, што расталі,
як дымок.
Былі месячныя ночкі, быў і шызы галубок.
Толькі буркавалі мала: вораг шчасцейка
разбіў.
Галубка так і не стала,
яе ж у клетку пасадзіў.

Адкрываецца заслона.

Вясковая вуліца. Вугал Тодаравай хаты. Вароты на двор. Направа ад варот высокі паркан, за ім садок. Ля паркана лавачка і бярвенні, на якіх сабралася вясковая моладзь.

Антоля. Дзевачкі, скажыце, як адчувае сябе маладая перад сваім вяселлем?

Алена. Будзеш ісці замуж, тады і адчуеш.

Антоля. А я замуж ніколі не пайду, бо збіраюся ў манастыр.

Барыс. З якога гэта часу цябе пацягнула ў манастыр?

Параска. Знаць, з таго, як з Алесем пачалі грашыць?

Антоля. Так, Алесь — вялікі грахаводнік: такое гаворыць, калі застаёмся адны, што вушы вянуць.

З двара выходзіць Фроська.

Антоля. Фроська, як ты сябе адчуваеш перад сваім вяселлем?

Фроська. І радасна на сэрцы, і страх нейкі бярэ.

Барыс. Што, не асвоілася яшчэ з Васільком? Нічога, ён хлопец рахманы.

Т а ц ц я н а. Выкінь, Фроська, з галавы ўсё дрэннае. Хоць сёння і заўтра аддайся свайму шчасцю. Такія дні для нас, для дзяўчат, адзін раз у жыцці бываюць. Дзяўчаткі, спяём Фросьцы песню.

Д з я ў ч а т ы. Якую?

Т а ц ц я н а. «Ой знаці, знаці на вяселлейку...»

Дзяўчаты спяваюць.

Ф р о с ь к а *(плача)*.
Ой знаці, знаці на вяселлейку,
што Фросечка сіраціна.
А двор вялікі,
збор невялікі, не ўся яе радзінaчка.
Ой каго наняць, ды каго паслаць
на Украіну на радзіму,
на той свет па мамачку.
Салавей ляціць — не далятае,
а мамачка адказвае:
— Не магу ўстаці к свайму дзіцяці
ды парадачку даці.
Сырая зямля дзверы залягла,
акенечка засланіла.

А н т о л я. Ціха. Ідзе крыўляка войтава.

Усе пазіраюць у канец вуліцы.

Б а р ы с. Пудзіла гарохавае.

А л е н а. Сціхні, Барыс.

Уваходзіць К а ц я р ы н а.

К а ц я р ы н а. Чаго вылупіліся на мяне?

Б а р ы с. Ты спачатку прывітайся.

К а ц я р ы н а. З вамі вітацца? Фі, хамы.

А л е н а. Бач, якая яснавяльможная пані аб'явілася.

А н т о л я *(падбягае да Кацярыны)*. Паненачка, дайце ручку пацалаваць.

Кацярына працягвае руку, Антоля плюе на яе.

К а ц я р ы н а. Быдла! Будзеш помніць!

А н т о л я. Баюся я цябе, як сонца Ашторпа.

К а ц я р ы н а. Як скажу Лявону!..

А н т о л я. Баюся яго, як і цябе!

Т а ц ц я н а. Будзе ўжо вам кусацца. Скажы лепш, Каця, калі тваё вяселле.

К а ц я р ы н а. Не цікаўся — не паклічу. А тваё, Фрося, заўтра?

Ф р о с я. Не цікаўся — не паклічу.

К а ц я р ы н а. Дурніца! Нічога, памякчэеш у Ашторпа.

Хутка пайшла.

Ф р о с ь к а. Што гэта яна сказала? Можа, дазналася аб чым ад свайго выжла?

А л е н а. Кінь, Фроська, выдумляць. Ляпнула, вар'ятка, сваім кастрывым языком.

Падыходзіць А л е с ь.

А л е с ь. Добры вечар.

Б а р ы с. Добра білі, добра енчыў. Адкуль, Алесь?

А л е с ь. З маёнтка. З бацькам падлогу ў палацы папраўлялі.

П а р а с к а. Можа, навіны якія прынёс?

А л е с ь. Нешта гайдукі ўзрушаны. Кудысьці збіраюцца. Ці не задумаў што стары грахаводнік?

Фроська туліцца да Антолі.

А н т о л я. Што з табою, Фроська?

Ф р о с ь к а. Дзевачкі, чуе маё сэрца бяду. Тады, калі я славіла, Ашторп так глядзеў на мяне, што ўсярэдзіне, здаецца, усё абарвалася.

П а р а с к а. Кінь, золатка. Ён мог ужо і забыць.

Д з я ў ч а т ы. Вядома. Не думай аб гэтым.

Т а ц ц я н а. Заўтра ж тваё вяселле.

А л е с ь. У тым і справа, што заўтра вяселле.

Дзяўчаты робяць знакі, каб Алесь змоўк.

А н т о л я. Алеська, пойдзем, я скажу табе нештачка на самае вуха.

Пайшлі.

Ф р о с ь к а. І Васілька нешта няма.

Б а р ы с. Напэўна заняты. Заўтра такі дзень...

П а р а с к а. Вось і Васілёк!

Уваходзіць В а с і л ё к.

В а с і л ё к. Добры вечар.

У с е. Добры вечар.

Пільна ўглядаюцца ў Васілька.

В а с і л ё к. Не пазналі?

Б а р ы с. Дзе ты сёння ўвесь дзень прападаў?

В а с і л ё к. Там мяне ўжо няма.

Б а р ы с. Нешта да цябе сёння не прыступіцца.

В а с і л ё к. Прабачце. Дазвольце нам з Фроськай застацца адным.

М о л а д з ь выходзіць. Васілёк горне да сябе Фроську.

Кепскія справы, Фроська.

Ф р о с ь к а. Не тамі, кажы.

В а с і л ё к. Зараз я з пушчы. Хадзіў, каб сустрэць Максіма Саравітана.

Ф р о с ь к а. А навошта ён табе?

В а с і л ё к. Чорная хмара збіраецца над нашымі галовамі.

Ф р о с ь к а. Васілёк, мне страшна!

В а с і л ё к. Нам да ўсяго трэба быць гатовымі.

Ф р о с ь к а. Кажы!!!

Васілёк. Ад Анэты, пакаёўкі пана Ашторпа, сёння я даведаўся, што пан даў загад гайдукам, каб цябе схапілі і прывялі ў палац.

Фроська. Васілёк! Няўжо гэта можа быць?!

Васілёк. Не! Ты будзеш толькі маёй. Вось чаму я і да Саравітана хадзіў.

Фроська. Што ён табе сказаў?

Васілёк. Абяцаў не даць нас у крыўду. І я яму веру.

Фроська. Хто ён, гэты Саравітан?

Васілёк. Беглы салдат. Разумны, адважны. За народ гатоў жыццё аддаць.

З'яўляецца Даніла са скрыпкай.

Даніла. Добры вечар, галубкі!

Васілёк і Фроська. Добры вечар, дзядзька Даніла.

Даніла. Зарана я да вас на вяселле прыйшоў.

Васілёк і Фроська. Калі ласка. Мы вельмі рады.

Даніла. Ужо тры дні мяне шукаюць панскія гайдукі, ад самых дажынак.

Фроська. Дзядзька Даніла, Васілёк сёння ў маёнтку даведаўся, што ўвечары панскія гайдукі хочуць мяне схапіць і адвесці да Ашторпа.

Даніла. Гэта праўда, Васілёк?

Васілёк. Праўда, дзядзька Даніла.

Даніла. І што ж маеце рабіць?

Васілёк. Бараніцца.

Даніла. А хопіць сілы?

Васілёк. Пабачым.

Фроська прынікае да Васілька.

Фроська *(пяе)*.
Не, не пеці птушцы песень,
Як прымусяць ў клетцы жыць.

Не вясна ёй тут, а восень,
І гняздзечка недзе звіць.
А былі, былі дзянёчкі,
Што расталі, як дымок,
Былі й месячныя ночкі,
Быў і шызы галубок.
Толькі ж буркавалі мала:
Вораг шчасцейка разбіў,
Галубка так і не стала,
Яе ж у клетку пасадзіў.

Даніла падыгрывае на скрыпцы. Ціха збіраецца моладзь. Калі Фроська і Даніла скончылі, выходзіць войт.

Войт *(да Данілы)*. А, і ты тут? А цябе шукаюць.

Даніла. Сумна пану Ашторпу без мяне. Дык скажы яму, пан войт, каб шукаў сабе другога музыку.

Войт. Скажу, скажу, ягамосце, усё скажу.

Даніла. Што і мяне тут бачыў? Кажы... Зарабляй.

Выходзяць са сваіх двароў Тодар і Куліна.

Войт. Вось добра, Тодар, што прыйшоў. Ёсць панскі загад: з'явіцца табе з дачкою да двара.

Усе як громам аглушаныя.

Тодар. Уночы? Пабойцеся бога.

Войт. Я толькі загад пана перадаў.

Фроська бяжыць да бацькі і туліцца да яго.

Фроська. Татачка, барані мяне!

Тодар *(гладзячы па галаве дачку)*. Але ж панскі загад, дачушка.

Войт. Ніхто яшчэ не важыўся пярэчыць Ашторпу.

Васілёк. Я першы плюю на панскія загады!

В о й т. О, дасканала сказана, зусім дасканала. Так і перадам яснавяльможнаму пану.

В а с і л ё к. Дык ідзі хутчэй! Ідзі, кажу!

Сунуўся да войта.

В о й т. Ага, я пайшоў.

К у л і н а. Пан войт, зайдзі дамоў бялізну змяніць.

В о й т хутка выходзіць.

Т о д а р. Дык хадзем, добрыя людзі, у хату, што ўжо будзе.

К у л і н а. Дзяўчаткі, каравай пара пячы. Цеста ўжо недзе паднялося.

Заспявалі песню.

А на небе месячык узышоў,
А ў дзяжы каравай падышоў...

І ўсе ідуць на Тодараў двор. Уваходзяць С і д а р і Я г о р.

С і д а р. І чаму я цябе так люблю, Ягор? Ну дай бусю. *(Цалуе.)*

Я г о р. Не падлізвайся. Ведаю цябе. Замазваеш вочы, каб не бачылі, як ты да маёй Тэклі падлабуньваешся?

С і д а р. Няхай бог скарае, калі гэта праўда. Хай мне мая Аўдуля пойдзе не ў смак. Табе, Ягор, злыя языкі наплялі, каб пасварыць нас.

Я г о р. Я ўжо даў сваёй паранкі. Не заглядайся на іншых, калі свой, можна сказаць, першы прыгажун на сяле.

С і д а р. Вось іменна прыгажун... І чаму я цябе так люблю, сусед? Дай яшчэ бусю ў гэту кірпусю. *(Цалуе ў нос.)*

Я г о р. Адчапіся! Што ты да мяне, як да бабы, прыстаеш?

С і д а р. А як ты думаеш, Ягор, завалае пан да сябе на ноч Тодараву дачку? Заўтра ж вяселле.

Я г о р. Хіба Апторп упусціць такую ягадку, як Фроська?

С і д а р. Але ж Васілёк можа заварыць кашу. Дзівак хлопец, хіба яны першыя ці апошнія. Мы вось жывём са сваімі кабетамі. Праўда, крыўдна, але што ты зробіш?

Я г о р. Добрыя людзі даўно ўжо зацуглялі сваіх паноў. Не прыгонныя шапкуюць перад панамі, а прыгоннікі перад халопамі.

С і д а р. Гэта ты сніў у мінулую ноч?

Я г о р. Кажуць, і сны збываюцца.

З канца сяла даносіцца конскі тупат, брэшуць сабакі.

С і д а р. Здаецца, з боку двара?

Я г о р. Сідар, гэта ўжо не сон.

Тупат зусім блізка.

Хаваймася на Тодараў двор.

Знікаюць. На вуліцу хутка выходзіць П а р а с к а. Убачыўшы на конях гайдукоў, яна варочаецца на двор.

П а р а с к а. Гайдукі! Ратуйце Фроську!

На двары шум, устрывожаныя г а л а с ы: «Закрыць і добра падперці вароты!»

Вароты зачыняюцца. Выбягаюць узброеныя г а й д у к і.

Л я в о н *(стукае ў вароты)*. Гаспадар, адчыні! Лепш будзе!

Д р у г і г а й д у к. Тодар, гэта бунт?

Т р э ц і г а й д у к. Што рабіць?

Л я в о н. Ламаць вароты! Прыналяжам! Дружна!

Вароты трашчаць.

Яшчэ раз!

Адна палавіна варот падае, за ёю валіцца і гайдук. Па ім замалацілі палкі. Гайдукі ўрываюцца на двор. Шум, крыкі, трэск платоў, стрэлы. Лявон цягне на вуліцу Ф р о с ь к у. Яна адбіваецца, кусае. Увесь твар гвалтоўніка ў крыві.

Фроська. Людзі, ратуйце!

Выбягае з двара Куліна.

Куліна. Васілёк, сюды! *(Хапае Фроську і не пускае.)*

Лявон б'е кулаком па галаве Куліну, якая выпускае Фроську і асядае на зямлю.
Гайдук хапае на рукі Фроську і выбягае з ёю. Зараз жа пачуўся конскі тупат у бок двара. З суседняга двара выбягаюць Саравітан і яго хлопцы. З двара Тодара выбягае Васілёк.

Васілёк. Усё прапала, Максім!

Саравітан. Дзе Фроська?

Куліна. Схапіў Лявон і павёз у маёнтак. Я паспрабавала абараніць, але панскі гіцаль так дзеўбануў, што я — з усіх капытоў.

Саравітан. Даўно?

Куліна. Яшчэ конскі тупат не сціх.

Саравітан *(да аднаго з хлопцаў)*. Андрэй, садзіся на любога каня — і наўздагон! Ні разу яшчэ ты не падвёў.

Андрэй выбягае. Пачуўся конскі тупат.

Хлопцы, за мною!

Бягуць на Тодараў двор. Васілёк апусціўся на бервяно, абхапіўшы рукамі галаву. На двары працягваецца бойка. Потым усё сціхае. На вуліцу выводзяць са звязанымі рукамі гайдукоў. Яны ў крыві. У некаторых хлопцаў таксама кроў на тварах. Збіраецца народ.

Тодар. А Фроська?! Дзе мая дачушка?

Саравітан. Яе схапілі... Паслана пагоня.

Тодар. Схапілі?! Дзіцятка маё!

Васілёк *(усхапіўшыся)*. Максім, пойдзем у маёнтак. Яе трэба вызваліць!

Саравітан. Не губляй галавы, Васілёк. Пачакаем Андрэя. Тады будзем нешта рабіць. А зараз наладзім суд над гэтымі пачварамі.

*(Паказвае на гайдукоў.)* Старэйшыя, за вамі слова.

Параска. Едзе!

Усе пазіраюць у бок маёнтка.

Саравітан. Пазнаю Андрэя.

Антоля. З ім Фроська!

Тодар. Што ты кажаш, дачушка?

Уся моладзь. Фроська! Фроська! Яна!

Васілёк бяжыць насустрач. Моладзь радасная, толькі старэйшыя скупа падзяляюць агульную радасць. Выходзіць успацелы Андрэй, за ім, узяўшыся за рукі, ідуць радасныя Васілёк і Фроська.

Андрэй. Вось і мы! *(Падыходзіць да Саравітана.)* Мой атаман, загад выканан.

Саравітан. Маладзец, Собаль!

Андрэй. Такім буду заўсёды!

Дзяўчаты снуюць каля Фроські.

Саравітан. Дакладвай, Андрэй.

Андрэй. Ды вельмі проста. Калі я выскачыў у поле, а конь папаўся агонь! вецер! — дык убачыў перад сабой толькі слуп пылу. Прыналёг я на варанога, і ён панёсся, як птушка. Толькі вецер каля вушэй свішча. Эх, добры конь! Бачу — даганяю мярзотніка. Праўду сказаць, дзяўчына папалася — казак. Усю дарогу ваявала з ворагам.

Усе глядзяць на Фроську.

З размаху я ўдарыў гайдука ў патыліцу так, што ён — стрымгалоў на зямлю. Я на ляту падхапіў вось яе і — назад. Я казаў, што вельмі проста.

Саравітан. А з табой яна не ваявала?

Андрэй. Дзе там... Усю дарогу абнімала.

Фроська *(падбягае да Андрэя)*. А зараз і пацалую *(цалуе)*, як брата.

Саравітан. Ну, пажартавалі, і годзе. Дык, старэйшыя, за вамі слова: што будзем рабіць з гэтымі ваякамі?

Ягор. Хай едуць да Ашторпа ды хваляцца сваёю «перамогаю».

Саравітан. Яны не паедуць, а пойдуць.

Другі гайдук. А нашы коні?

Саравітан. Праваявалі вы свае коні, панскія халуі.

Сідар. Што ж нас чакае? Прапалі нашы галовы!

Куліна. Заныў... А яшчэ мужчына. Паслухаем, што разумныя людзі скажуць.

Усе. Просім.

Саравітан. Маё слова будзе кароткае. Праўда, гэтых гіцляў трэба адпусціць. Хопіць з іх на першы раз і таго, што тут атрымалі, а ў маёнтку Ашторп яшчэ дабавіць. Хлопцам няма чаго тут заставацца: іх дарога з намі. Старэйшыя мужчыны, жанчыны і дзеці застануцца дома. Баяцца няма каго. Хай паспрабуюць паны крануць каго-небудзь хоць пальцам — не ўзрадуюцца. І супроць іх ёсць сіла. А Ашторп аб гэтым будзе папярэджаны.

Даніла. Вазьміце і мяне — спатрэблюся.

Фроська. І мяне.

Саравітан. Цябе абавязкова.

Адзін з гайдукоў. Няма чаго і мне варочацца ў маёнтак. Прыміце ў сваю хэўру.

Саравітан. Не, ты вернешся яшчэ да Ашторпа. Калі ж сумленне тваё падкажа табе ўсю агіднасць твайго халуйства, тады паспрабуй знайсці дарогу да нас.

Фроська *(абнімае бацьку)*. Татка, не сумуй адзін. Будзем бачыцца.

Васілёк. Фроська, па дарозе зойдзем да маіх старых. Яны ўжо і твае. *(Падыходзіць і цалуе Тодара.)* Бывайце, тата, Не забывайце маіх бацькоў. Мацуйцеся,

Т о д а р. Васілёк, глядзі яе. Цяпер ты яе абаронца. *(Плача.)*

С а р а в і т а н. Дык у дарогу, сябры. Забяжыце дадому ўзяць чаго-небудзь з сабою, а мы за вёскай пачакаем вас. Хлопцы, вазьміце коней.

Н е к а л ь к і х л о п ц а ў выбягаюць.

Вам, бацькі і маткі, сёстры і дзеці, шчасліва заставацца. Памятайце, што Ашторп ужо не ўсемагутны.

К у л і н а. Чалавеча добры, скажы, ці не той ты самы, што на дажынках быў з намі? Дык скажы, хто ты?

С т а р э й ш ы я. Скажы!

С а р а в і т а н. Зараз некалі. Мы ў небяспецы. Скажу толькі, што я такі ж гаротны мужык, як і вы. А завуць мяне Максім Саравітан. Яшчэ раз бывайце!

М о л а д з ь імкліва рушыла за вёску з песняй.

Ой, канава, ты канава,
Ты, канавачка мая,
Праз цябе, мая канава,
Ехаў мілы на кані...

Жанчыны хрысцяць адыходзячых. Выбягае К а ц я р ы н а.

К а ц я р ы н а. Дзе мой Лявон?! Конь прыбег у маёнтак адзін! *(Да гайдукоў.)* А вы чаго стаіцё?! Бізунамі іх.

П е р ш ы г а й д у к. У нас звязаны рукі.

Кацярына развязвае гайдукам рукі. Сяляне шчыльней самкнуліся і глядзяць на гайдукоў.

К а ц я р ы н а. Біце іх! Страляйце!!!

Д р у г і г а й д у к. Стрэльбы нашы забралі.

К а ц я р ы н а. А вы вось так...

Кідаецца на Куліну і хоча схапіць яе за валасы, але тая злаўчылася і ўдарыла Кацярыну.

Куліна (*папраўляючы хустку на галаве*). Яшчэ з такой смаркухай спраўлюся! Во, гадзюка насатая.

Гайдукі пайшлі, за імі Кацярына.

Ягор. Не даруе ўсяго гэтага Ашторп.

Куліна. А я веру Саравітану. Ён не дасць нас у крыўду.

Тодар. Будзем верыць і спадзявацца.

Куліна. Памятаеце, на дажынках Саравітан сказаў Ашторпу, што такія, як ён, навучыліся пускаць кроў панам. Гэта ж і я сёння паспрабавала заняцца гэтым. Шкада, пачала з паўпанкаў.

Крыкі.
Малайчына, цётка Куліна!
Але ж табе трэба ў пушчу ўцякаць!

Куліна. Як пачну сапраўдных паноў трушчыць, тады дарогу знайду і ў пушчу!

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Перад заслонаю Лірнік. Ён іграе на ліры.

Лірнік.
Зашумела грозна пушча векавая,
яна стала цяпер зусім не такая. Ад паноў,
ад катаў пушча тых схавала,
хто не хоча болей мірыцца з навалай.
Ад крыўды на панства гараць сэрцы
помстай.
Не стрымаць ім гневу,
трэба браць нож востры, точану сякеру,
малаты ў рукі,
каб ведалі паны, дзеці іх і ўнукі.
Пушча-маці кліча на расправу з катам,
тапіць у рацэ іх, быць цвярдзей з іх братам.

Кіньце, паны, енчыць і богу маліцца.
Не паможа й боска, як народ памсціцца.

Адкрываецца заслона.
Глухая пушча. Каля тоўстых старадрэвін шалашы. Цішыня. Час ад часу ўпадзе яловая шышка. Дзяцел спрабуе моц дрэў і свайго носа. А д а с ь са стрэльбай на плячы выходзіць з-за дрэў.

А д а с ь. Нават у такім гушчары даймае. *(Выцірае потны лоб.)* Бялізна да цела прыстае. Парыць — будзе дождж. Стой! Хто ідзе? *(Хапае ў рукі стрэльбу.)* А, гэта ты, Фроська.

Выходзіць Ф р о с ь к а.

Ф р о с ь к а. Як ты мяне перапалохаў!
А д а с ь. А табе пара ўжо прывыкнуць да нашых парадкаў, Фроська. *(Доўга ўглядаецца ў яе.)*
Ф р о с ь к а. Чаго так утаропіўся ў мяне?
А д а с ь. Прыгожая ты.
Ф р о с ь к а. Хаця не закахайся.
А д а с ь. Спазніўся — вакансія занята.
Ф р о с ь к а. Што гэта нашых хлопцаў доўга няма? Хаця б усё добра было.
А д а с ь. Дзе Саравітан, там заўсёды будзе ўдача.
Ф р о с ь к а. Пасябраваў з ім мой Васілёк. Мне пачынае здавацца, што Васілёк пахаладзеў да мяне.
А д а с ь *(круціць галавою)*. Ну і бабы... Што ж ты думаеш — ён дзьмухаць будзе на цябе, хаця б муха ці камар не селі на яго Фроську? У яго больш важныя справы.

Гром.

Ф р о с ь к а. Я баюся грому, асабліва маланкі.
А д а с ь. А чаго баяцца? Вось залезеш у шалаш, і ніякая маланка да цябе не дабярэцца.

Ф р о с ь к а. Мне абы галаву схаваць.

Гром, ужо бліжэй.

А д а с ь *(глядзіць угору)*. Хмара бокам пойдзе.

Ф р о с ь к а. Ды ўжо ж дождж капае.

А д а с ь. Тады залазь у шалаш і хавай куды хочаш сваю галаву.

Ф р о с ь к а хаваецца ў шалаш, А д а с ь ідзе за дрэвы. Навальніца сапраўды пайшла бокам. Развітваючыся з пушчай, яна ружова-зялёным святлом працізала яе, і такі аглушальны трэск здрыгануў абшары, што, здавалася, раскалолася неба. Ф р о с ь к а выскачыла з шалаша і прыпала да тоўстай елкі. З-за дрэў, аглядаючыся, выходзіць г а й д у к, што прасіўся ў пушчу разам з хлопцамі. Ён не заўважае Фроські.

Г а й д у к. Дык вось дзе іх гняздо. Сам сахаты паломіць ногі, пакуль прадзярэцца сюды. Нідзе-нідзе нікога. Няўжо бяруць і Фроську, калі ідуць на свае крывавыя справы? А страшна тут. Хаця б вытрымаць экзамен.

А зыркае вока Адася пільна сочыць за няпрошаным госцем.

А д а с ь. Ні з месца!

Гайдук аж падскочыў.

Ты хто такі і адкуль узяўся?

Г а й д у к. Я гайдук з маёнтка пана Ашторпа.

А д а с ь. А чаго ты сюды забрыў?

Г а й д у к. Надаела быць панскім халуём. Хачу стаць чалавекам.

А д а с ь. Дык, кажаш, з маёнтка пана Ашторпа?

Г а й д у к. Ага.

А д а с ь. Чым жа табе не дагадзіў пан?

Г а й д у к. Усім.

А д а с ь. Смачнай ядой?

Гайдук. Яна папярок горла стаіць.

Адась. Мяккай пасцеллю?

Гайдук. Лепш на голай зямлі спаць.

Адась. А як абыходзіцца Ашторп з вамі?

Гайдук. Б'е няшчадна.

Адась. Дык чаму ж ты раней не ўцякаў ад пана?

Гайдук. Цярпеў.

Адась. А зараз цярпець няма сілы?

Гайдук. Ага. Скажыце, тут у вас і жанчыны ёсць?

Адась. Што, ужо да жанчыны пацягнула? Мала вас біў Ашторп.

З лесу выходзяць хлопцы. Наперадзе Саравітан і Васілёк.

Саравітан. У нас госць?

Гайдук. Добры дзень, атаман.

Саравітан. Уга, як ты мяне хутка ў атаманы вывеў. Ды ці не той ты гайдук, які ў пушчу прасіўся да нас?

Гайдук. Той самы.

Саравітан. Што, надакучыла халуём быць?

Гайдук. Я прыйшоў да вас.

Змітрок *(выступіўшы наперад)*. Чаго?

Гайдук збялеў, убачыўшы Змітрака.

Дык я пытаюся: чаго ты прыпоўз, гадзюка, сюды?

Гайдук. Я ўцёк ад пана... Няма больш сілы цярпець.

Змітрок. Глядзі мне ў вочы... Смялей, смялей, калі прывяло цябе чыстае сумленне. А, не можаш? Брэшаш, юда! Я ведаю, чаго ты прыйшоў!

Усе затаілі дыханне. Падыходзіць да Васілька Фроська.

Вам вядома, што я былы панскі конюх. Уцёк

ад Ашторпа, бо было б тое самае і са мною, што з лакеем Юзэфам. А гэты вось — самы верны і адданы халуй Ашторпа. Колькі нашага брата загінула ад яго! Зараз ён прыйшоў да нас па загаду пана: высачыць нас і данесці яму, а той ужо выклікаў з Мінска жандараў, каб усіх нас схапіць.

Саравітан. Адкуль табе гэта вядома, Змітрок?

Змітрок. Уночы я быў у маёнтку.

Саравітан. Што ты там забыў?

Змітрок. Мне абавязкова трэба было. Аб усім паведаміла мне панская пакаёўка Анэта.

Саравітан. А-а-а... Табе абавязкова трэба было пабачыцца з Анэтай. А ў каго ты прасіў дазволу?

Змітрок. Я думаў, што можна.

Саравітан. Што ж будзе, калі ўсе мы ўздумаем пайсці хто да Анэты, хто да Праксэды, хто да Мальвіны, хто да Куліны?

Змітрок. Даруйце, больш гэтага не будзе.

Саравітан. Што скажа грамада?

Васілёк. Трэба дараваць. Гэта першы раз.

Адась. Змітрок сам прызнаў сваю памылку.

Барыс. Малады яшчэ, а сэрцу не загадаеш.

Саравітан. Уга, колькі абаронцаў. Добра. Змітрок, глядзі, каб зарасла сцежка да Анэты. Пакуль што насі яе ў сваім сэрцы. Ну, а ты што скажаш? Будзеш выкручвацца?

Гайдук. Змітрок усё выдумаў... з-за Анэты.

Саравітан. І ты туды ж. Што там ужо за Анэта?

Васілёк. Наш чалавек. Яна і мяне па-

пярэдзіла аб тым, што Ашторп загадаў быў Фроську схапіць.

Ф р о с ь к а. Калі пачалася навальніца, я залезла ў шалаш. Але як трэснуў пярун, я ад страху выскачыла з шалаша і прытулілася да гэтай вось елкі. Бачу — з-за дрэў, крадучыся, вылазіць ён *(паказвае на гайдука)* і кажа сам сабе: «Хаця б добра вытрымаць экзамен».

С а р а в і т а н. Экзамен перад Ашторпам? Кажы... Не адпірайся!

Г а й д у к. Праўда. *(Падае на калені.)* Пан атаман, злітуйся! Мяне пан паслаў. Хіба я мог яго не паслухаць?

С а р а в і т а н. Хлопцы, за вамі слова.

У с е. Павесіць сабаку!

С а р а в і т а н. Зараз жа выканаць агульную пастанову.

Г а й д у к а схапілі і павалаклі ў лес, ён лямантуе.

А д а с ь. Астатнія хлопцы вяртаюцца.

С а р а в і т а н. Нясуць што-небудзь?

А д а с ь. Не нясуць, а на падводах вязуць.

С а р а в і т а н хутка выходзіць, за ім А д а с ь. Сярод хлопцаў ажыўленне.

Чуюцца асобныя г а л а с ы.

— Напэўна панскія прысмакі вязуць!

— Пакаштуем заморскага вінца!

Выходзяць С а р а в і т а н, А л е с ь і іншыя х л о п ц ы.

С а р а в і т а н. Дзе вы ўзялі гэтага хлопца? *(Паказвае на Вацлава.)*

А л е с ь. На дарозе з Мінска ў маёнтак Ашторпа.

С а р а в і т а н. Як гэта было?

А л е с ь. Сядзім мы, аж чуем — бяжыць нехта. Мы ўсхапіліся і бачым — па лесе стралой ляціць незнаёмы. Мы перахапілі яго. Спачатку ён спалохаўся, а потым пасмялеў, калі даведаўся, хто мы.

С а р а в і т а н. Як цябе зваць?

Незнаёмы. Вацлаў.

Саравітан. Слухаем цябе, Вацлаў.

Вацлаў. Естэм жолнеж. Наша вайскова часць накіроўвалася ў маёнтак пана Ашторпа для аховы яго і навакольных паноў ад сялянскіх паўстанцаў. Па дарозе, калі атрад спыніўся на адпачынак і жалнежы пачалі купацца, я ўцёк у лес.

Саравітан. А для чаго ты гэта зрабіў?

Вацлаў. А для таго, што я ест такі ж хлоп.

Саравітан. А бацькі ў цябе ёсць?

Вацлаў. Бацьку пан на паляванні застрэліў, а маці з гора памерла.

Саравітан. І ты жадаеш з намі быць?

Вацлаў. Бардзо прошу. Я жадаю помсціць панам.

Алесь. А ён нам вельмі дапамог. Калі мы пазнаёміліся з Вацлавам бліжэй, ён і кажа: «А зараз, хлопцы, можна пажывіцца. Зараз будзе праходзіць невялікі абоз у маёнтак Ашторпа. Вязуць многа каштоўнага». Мы нечакана напалі на абоз. Падводчыкі разбегліся. Мы за падводы — і сюды.

Саравітан. То добра, што і палякі супроць сваіх паноў. Тады, можа, пойдзеш у найміты да пана Ашторпа? Нам трэба мець там свайго чалавека...

Вацлаў. Жалнежы пазнаюць мяне.

Васілёк. Пашліце мяне.

Саравітан. Не падыходзіш. Цябе таксама ведаюць у маёнтку.

Васілёк. А вы падштукуйце мяне, каб не пазналі.

Саравітан. Гэта ненадзейна.

Адась. Браточкі, я больш за ўсіх падыходжу. Не будзь я, калі не абдуру Ашторпа.

Саравітан. А цябе не ведаюць у маёнтку?

А д а с ь. Ці мала сарок на белым свеце?

С а р а в і т а н. Што, грамада, згодзімся?

У с е. Згодны! Адась абуе Апіторпа ў лапці.

А д а с ь. А перад вячэрай дазвольце павесяліцца, бо пасля вячэры цяжка будзе, пад'еўшы прысмакаў панскіх!

В а с і л ё к. Гарманіст і дзядзька Даніла, проша сюды. Вось на гэтыя мяккія крэслы і сядайце. *(Паказвае на два пянькі.)*

С а р а в і т а н. Фроська, ідзі сюды і займай самае пачэснае месца. *(Садзіць яе каля музыкаў.)* Васілёк, ідзі сядай поплеч з Фроськай. Вось мы сёння і зробім вяселле Васілька і Фроські.

Б'е ў ладкі. Хлопцы выносяць прыгожыя скрынкі і ставяць іх. Дастаюць з адной з іх доўгія дывановыя дарожкі і рассцілаюць на траве. Потым з другіх скрынак дастаюць бутэлькі, закуску і расстаўляюць на дарожках. Адась у руцэ трымае букецік незабудак.

А д а с ь. Маеш, Фроська! *(Падае кветкі.)* Маладая — і без кветак, так нельга.

С а р а в і т а н. Фроська, дазволь мне незабудкі. Што за маладая без вянка. *(Бярэ і прымацоўвае, зняўшы хустку, у валасах Фроські.)* Вып'ем за здароўе маладых!

А н д р э й. Заморскае віно горкае!

У с е. Горка! Горка!

Васілёк і Фроська цалуюцца, потым яна падбягае да Андрэя і цалуе яго.

А л е с ь. Фроська, па парадку ўсіх.

С а р а в і т а н. Папросім дзядзьку Данілу сыграць вяселле.

У с е. Просім!

Даніла іграе насадную песню «Ой ляцелі гусачкі цераз сад!». Ціпіыня. Хто-ніхто цяжка ўздыхае. Фроська плача.

С а р а в і т а н. Браточкі, каб не было цяжка.

Б а р ы с. Правільна! Хлопцы, хвацім «Канаву»!

Музыкі іграюць.

Х л о п ц ы *(спяваюць).*
Ты, канава, ты канава,
Ой, канавачка мая!
Праз цябе, мая канава,
Ехаў мілы на кані.

Праз цябе, мая канава,
Ехаў мілы на кані,
Ехаў мілы на кані,
На сярэбраным сядле.

Ехаў мілы на кані,
На сярэбраным сядле,
На сярэбраным сядле,
Сядзіць Фрося ў акне.

Сядзіць Фрося,
Вельмі просіць:
— Прывярні, Васіль, каня.
— Прывярну тады каня,
Як не будзе ўжо агня.

А л е с ь. Хітры, упацёмачку!

А д а с ь. Фроська, праспявай што-небудзь.

У с е. Просім!

Фроська спявае «Купалінку», Даніла акампануе.

В а с і л ё к. А зараз «Юрачку»!

Танцуюць. Раптам з'яўляюцца А н э т а і З м і т р о к.

А л е с ь. Анэта! Ты?!

«Юрачка» абрываецца. Усе згрудзіліся каля Анэты.

С а р а в і т а н. Дык гэта і ёсць тая самая Анэта?

З м і т р о к. Яна.

С а р а в і т а н. Што ж ты нам прынесла, Анэта?

А н э т а. Зараз жа ўцякайце адсюль. Гайдукі пранюхалі, што вы тут, і Ашторп пасылае супроць вас узброеную сілу.

С а р а в і т а н. Дзякую... *(Моцна цісне ёй руку.)* А куды ж ты зараз? Можа, з намі застанешся?

А н э т а. Думаю, што жывучы ў палацах, яшчэ вам спатрэблюся. Шчаслівай вам долі, браткі! *(Ідзе ў лес.)*

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Перад заслонаю Л і р н і к.

Л і р н і к.
У палацы Ашторпа паны баль спраўляюць.
Як звесці крамолу — на ўвазе маюць.
Як ні патаемна саймуюць магнаты —
Але ўсё вядома, што рыхтуюць каты.
Ад людскога вока не схаваеш праўды.
Так было спрадвеку, і так будзе заўжды.

Адкрываецца заслона.

У палацы пана Ашторпа вялікі, пышна ўбраны пакой. Хоры для аркестра. Старасвецкая стыльная мэбля з родавымі гербамі. На сценах дарагія дываны, карціны. Расстаўлены сталы з дарагімі вінамі і закускамі.

Ф р а н ц і ш а к. Адась, ідзі далажы пану, што хутка госці пачнуць з'язджацца.

А д а с ь. Загадана разбудзіць а шостай гадзіне, а зараз толькі палова шостай.

Ф р а н ц і ш а к. Скажы, Адась, чым гэта ты прычараваў да сябе пана?

А д а с ь. Яснавяльможны пан бачыць у маёй асобе вернага слугу, якім я сапраўды і з'яўляюся.

Ф р а н ц і ш а к. Гэтым ты хочаш сказаць, што мы няверныя.

А д а с ь. Я не меў гэтага на ўвазе.

Францішак. Адкуль жа ты з'явіўся сюды?

Адась. З неба зваліўся.

Францішак. Ой, хлопча, не дзяры нос, шчасце зменліва.

Адась. А я пад шчаслівою зоркаю нарадзіўся.

Францішак. Часам, каб яна хутка не закацілася.

Адась. Гэта твая хутка закоціцца, бо ты ўжо стары, а мая разгараецца ўсё ярчэй, таму што мне толькі дваццаць.

Францішак. А скажы, чаго цябе пан уночы кліча да сябе?

Адась. Гэта вялікі сакрэт.

Францішак. Людзі чорт ведае што плятуць.

Адась. Што?! Упэўнены, што ты плявеш першы. Сёння ж паскарджуся яснавяльможнаму пану.

Францішак *(перапалоханы)*. Адась, ды я пажартаваў. Калі ласка, злітуйся над маёй сівой галавой.

Адась. Толькі і шкадую яе.

Францішак. Дзякую, дзякую, Адасю. Я пайду, а ты глядзі разбудзі пана.

Выходзіць. З другіх дзвярэй з'яўляецца Анэта.

Анэта. Мы адны?

Адась. Адны. Якія навіны?

Анэта. Хлопцы зараз знаходзяцца на Дубовай градцы.

Адась. Як ты даведалася?

Анэта. Была ў пушчы і налучыла на разведку, у якой знаходзіўся і Змітрок. Ён мне паведаміў.

Адась. Дубовая градка — надзейнае месца. Толькі слухай, Анэта, трэба аб гэтым умець маўчаць.

Анэта. Ведаю. Ну як у цябе з лакействам?

Адась. Проста прырос да мяне стары слімак. Не маю вольнай хвіліны. Толькі, як спіць, вызваляюся ад гэтай пачвары.

Анэта. Дык гэта ж добра. У цябе будуць усе навіны.

Адась. А як іх перадаваць хлопцам?

Анэта. Я гэта буду рабіць.

Адась. Лепшага нічога і не прыдумаеш. Сёння асабліва трэба быць уважлівым... не прапусціць ніводнага слова.

Анэта. А як загадаюць табе выйсці ў самы цікавы і адказны момант?

Адась. Гэтага я і баюся.

Анэта. Тады табе трэба будзе тут схавацца.

Адась. Дзе? Я ж, можа, не камар?

Анэта бяжыць да дзвярэй і расхінае надзвычай шырокія парцьеры.

Анэта. Ідзі сюды.

Адась падыходзіць.

Глядзі, хіба дрэнна?

Адась хаваецца за парцьеры.

Хай хто здагадаецца, што ён тут.

Адась *(вылазячы)*. Добра.

Голас *(сонны)*. Адасю, ідзь до мне.

Адась выбягае ў адны дзверы, а Анэта — у другія. Уваходзяць войт і Францішак.

Войт *(шэптам)*. Яшчэ не ўставаў?

Францішак *(таксама шэптам)*. Відаць, з палюбоўніцаю.

Войт. І чым ён так улез у душу пана?

Францішак. Без нячыстай сілы тут не абышлося.

Войт. Францішак, а не падроблена тут што?

Францішак. А як сказаць пану?

Пачуліся крокі. Войт і Францішак замерлі.

Ашторп *(да войта).* Аховы дастаткова?

Войт. Мыш не праскочыць, яснавяльможны пане.

Ашторп. Глядзі, каб не прасунулася якая гадзюка. *(Да Францішка.)* А на сталах парадак?

Францішак. Усё, як загадана яснавяльможным панам.

Ашторп. Адасю, час апранацца. Хадзем, мой каханы.

Выходзяць. Войт і Францішак ціха смяюцца.

Войт. Мой каханы...

Францішак. Трэба было яшчэ пад ручку ўзяць.

Войт. Можа, госці пачынаюць ужо з'язджацца? Пайду прымаць коней.

Францішак. А я сустракаць гасцей.

Выходзяць. На хорах з'яўляюцца музыканты. Яны спрабуюць скрыпкі, трубы. Уваходзіць Адась.

Адась. Аркестр, марш!

Уваходзіць Ашторп у парадным адзенні, з лентамі цераз плечы. Ён важна апускаецца ў крэсла з гербам Ашторпаў.

Ашторп. Адась, стань у мяне ззаду.

Адась становіцца. Уваходзіць Францішак.

Францішак. Князь і княгіня Радзівілы.

Ашторп. Прасі.

Францішак выходзіць. Уваходзяць Радзівілы. Ашторп ідзе ім насустрач. Аркестр іграе марш.

Княгіня. Нех жые пахвалёны.

Ашторп. Навекі. *(Цалуе руку ў княгіні.)* Княгіня, проша. *(Паказвае на крэсла. Вітаецца з князем.)* Князь, проша. *(Паказвае на крэсла каля княгіні.)*

Княгіня. Пан Ашторп, у вас такая ахова строгая. Ледзь прапусціла нас.

Какетліва смяецца.

Князь. Пан Ашторп нагадвае Чарнагора.

Ашторп. Затое смела можна будзе весяліцца і гаварыць аб важных справах.

Князь. Геніяльна прыдумана.

Княгіня. Мы будзем адчуваць сябе, як у Езуса за пазухай.

Уваходзіць Францішак.

Францішак. Граф і графіня Тышкевічы.

Ашторп. Прасі.

Францішак выходзіць.

Княгіня. Пан Ашторп, як вам падабаецца графіня Ядзвіга?

Ашторп. Мілая асоба.

Княгіня. Не кажыце, гэта анёл з неба. Я ёй сімпатызую.

Князь. За тое, што часта ёй грошы пазычаеш?

Княгіня. Князь, як гэта не гжэчна.

Уваходзяць Тышкевічы, аркестр іграе марш. Ашторп ідзе ім насустрач.

Графіня. Нех жые пахвалёны.

Ашторп. Навекі. *(Цалуе руку графіні.)*

Графіня. Княгіня, як доўга я не мела гонару вас бачыць! *(Цалуюцца.)*

Княгіня. Для гасцей у князя Радзівіла вароты не зачынены.

Графіня. А ў вас новы брыльянт!

Княгіня. Князь з Варшавы прывёз. Дзесяць тысяч злотых каштуе.

Графіня. Цудоўны. Якая вы шчаслівая, княгіня.

Княгіня. Я, графіня, адзін вам прэзентую.

Графіня. Што вы, княгіня? Мне так няёмка.

Княгіня здымае брыльянт і дорыць графіні.

Княгіня. Беднасць не парок.

Графіня. Але ж і не гонар. Мой Міхал такі непрактычны.

Княгіня. Яго трэба трымаць у руках, графіня.

Графіня. Вёрткі — не магу ўтрымаць.

Ашторп. Адась, будзь пры мне. Панове, вось мой новы лакей. Без яго, ягамосці, я не магу кроку зрабіць. Такая пакорлівая, такая пяшчотная істота!

Князь *(да графа)*. Пан Ашторп казаў, што твае хлопцы за цябе палезуць на ражон, а яны ўцякаюць у лес, забіваюць тваіх верных слуг, захопліваюць абозы.

Ашторп. Адась, выйдзі. Паклічу, калі патрэбен будзеш.

Адась ідзе да дзвярэй і хаваецца за парцьеры.

Таксама паклічу, калі спатрэбіцеся. *(Махае рукою ў бок музыкантаў.)*

Хоры пусцеюць. Мужчыны пачынаюць размаўляць пацішу.

Графіня. Княгіня, звярніце ўвагу на пана Ашторпа. Які ён яшчэ ладны мужчына.

Княгіня. А можа, ладна багацце Ашторпа, а не сам ён?

Графіня. А хіба гэта не тое самае?

За ўваходнымі дзвярыма крык: «Ай, ратуйце, паміраю!..»

Графіня. Што гэта?! Кагосьці рэжуць!

Княгіня. Фі, якая графіня трусіха. З намі мужчыны.

Граф. Панове, замкнуць трэба дзверы!

Ашторп *(разгублены)*. Адась! Францішак! Войт!!!

Выскоквае Адась.

Адась. Я тут, яснавяльможны пане.

Ашторп. Што там? *(Паказвае на дзверы.)*

Адась. Пан паню валачэ, і абое крычаць.

Адчыняюцца дзверы. Пан Скірмунт на руках нясе жонку. Усе здзіўлены. Адась выходзіць.

Пан Скірмунт. Панове, дапамажыце! Яна памірае!

Кладзе на канапу жонку, якая б'ецца ў істэрыцы.

Графіня. Ах, пані Скірмунт, што з вамі?

Княгіня *(налівае кубак вады)*. Графіня, менш ажытацыі, дайце ёй вады. Граф, падайце. *(Аддае графу, той перадае жонцы.)*

Графіня. Пані, мілая, выпіце.

Князь. Панове, хай жанчыны ўвіхаюцца каля пані, а пан Скірмунт паведае, у чым справа.

Пан Скірмунт. Выехалі мы з дому на змярканні. Пані была ў рамантычным настроі. Я захапляўся ёю. Сталі пад'язджаць да Рагавіцы. Пані, жартуючы, і кажа: «Ясю, а раптам разбойнікі» — і прыціснулася да мяне. І што ж вы, панове, думаеце? У гэты ж час з лесу выскачыла некалькі чалавек. Крык «стой!» — і свісткі. Але вы, панове, ведаеце маіх вараных. Калі фурман ляснуў бізуном ды нацягнуў лейцы, яны, як ільвы, рынуліся з месца. Ззаду раздаліся стрэлы. Ноч выратавала.

Пані Скірмунт. Дзе мой Ясь? Ясю!

Пан Скірмунт *(падбягае)*. Я тут, мая каханая! *(Цалуе руку.)*

Пані Скірмунт. Ты жывы... Мой дрогі...

Гладзіць яго па галаве.

Ашторп. Пані Скірмунт, вам зараз не пагражае ніякая небяспека. Ведайце, вы знаходзіцеся ў палацы пана Ашторпа. Панове, дарагія госці, проша за стол. Княгіня!.. Графіня!.. Пані Скірмунт! Проша!

Садзяцца за сталы.

Княгіня, прашу быць гаспадыняй.

Княгіня. О, не, пан Ашторп, да такой ролі я не здатна. Хай графіня.

Ашторп. Графіня, проша.

Графіня. Я не ганарлівая, як некаторыя. Я згодна. *(Княгіня з пагардаю глядзіць на графіню.)*

Князь *(устае і азірае пакой)*. А часам сцены вушэй не маюць, пан Ашторп?

Ашторп. Панове, будзьце спакойны.

Уваходзіць Дамінік.

Дамінік. Нех бэндзе пахвалёны.

Ашторп. Навекі. Сядай за стол, ойча.

Князь. Я прапаную выпіць за тое, каб вярнуліся залатыя часы Рэчы Паспалітай!

Княгіня. Ад можа і да можа!

Граф. Віват!

Пані Скірмунт. Я танцаваць хачу!

Княгіня зняважліва глядзіць на яе, мужчыны перасмейваюцца.

Графіня. Незразумела: істэрыка — і зараз жа танцы.

Пані Скірмунт. А чаго мы тады сюды

выбраліся? Каб толькі піць і есці? Як гэта нудна!

А ш т о р п. Пан Скірмунт павінен быў растлумачыць пані, чаму мы сёння тут сабраліся.

П а н С к і р м у н т. Пані Ядзвіга тады зусім не паехала б.

К н я г і н я *(з выклікам).* Добра б зрабіла.

П а н і С к і р м у н т. Княгіня за князя баіцца! Панове, я прапаную выпіць за прыгожых мужчын.

Глядзіць у вочы князю.

К н я г і н я. Гэта пахабна і цынічна!

П а н С к і р м у н т. Ядзя, супакойся! Панове, прабачайце, калі ласка, гэта ў яе ад вялікага перапалоху.

П а н і С к і р м у н т. Сам ты перапалохаўся і ў карэце за мяне хаваўся. А я нават не думала палохацца. Наадварот, калі вараныя панеслі, я была ў захапленні.

Г р а ф і н я. Тады вашы істэрыка і слёзы — прытворства?

П а н і С к і р м у н т. Я хацела пераканацца ў тым, ці кахае мяне мой Ясь.

П а н С к і р м у н т. Ядзя, суніміся! Гэта нікуды не варта!

П а н і С к і р м у н т. Што? Ты на мяне крычыш? Ты забараняеш мне гаварыць? Ты наважыўся мяне ганьбіць пры такіх людзях? Ах, мне дрэнна! *(Істэрыка.)*

Усе абураны.

К н я з ь. Панове, хіба мы сабраліся сюды, каб слухаць дзікія сямейныя сцэны паноў Скірмунтаў? Пані Скірмунт, пакіньце сваю дурную гульню. Не перашкаджайце нам аб важных справах гаварыць.

А ш т о р п. Я прашу вас як гаспадар.

Пані Скірмунт сціхае.

Князь. Панове, да чаго мы дажылі? Што чуем і што бачым? У нас страляюць нашы хлопы. Нам хутка нельга будзе выйсці з палацаў.

Ашторп. Трэба нешта рабіць, і зараз жа, а то позна будзе.

Граф. Але што рабіць?

Ашторп. Вось аб гэтым і трэба пагаварыць. Князь, ты лічышся ў нас неператузойдзеным палітыкам і дыпламатам. Якія твае меркаванні?

Князь. На маю думку, трэба нам, усяму панству, зараз жа паслаць прадстаўнікоў у Мінск хадайнічаць перад адпаведнымі інстанцыямі аб абароне нас ад раз'юшанага быдла. Па плану паўстання супроць рускага панавання мы спадзяваліся абаперціся на сялянства, але зараз мы бачым, што гэты наш козыр біты: яно не саюзнік наш, а самы заядлы вораг. Нам не ўдалося яго абдурыць. Дык вось мы і павінны на нейкі час паказаць, што адданы рускаму самадзяржаўю і ў той жа час тачыць нож супроць яго. Калі нахабны зброд, смярдзючае быдла, будзе абяскрыўлена царскімі войскамі, мы падымем паўстанне супроць Масквы разам з польскім панствам.

Дамінік. Геніяльна! Гэтыя меркаванні сіяцельнага князя павінны быць упісаны залатымі літарамі ў гісторыю барацьбы панства з ненавіснымі нам расіянамі.

Княгіня. Мы, жанчыны, таксама не павінны сядзець склаўшы рукі. Хто зможа са зброяй, хай бярэ ў рукі зброю, хто не здолее са зброяй, хай дапамагае сваім багаццем.

Пані Скірмунт. Я толькі са зброяй у руках! Мужчыны, вы павінны нас, жанчын, вучыць страляць.

Графіня. А я і страляць баюся, і багацця ў мяне няма. Чым жа я магу быць карыснай?

А ш т о р п. Пойдзеце працаваць у шпіталь. Там таксама патрэбны будуць людзі, асабліва жанчыны.

К н я з ь. Панове, я прапаную выпіць за поспех задуманага намі.

Усе наліваюць, устаюць і выпіваюць.

А зараз абярэм прадстаўніка ад нашай групы. Я прапаную пана Ашторпа.

У с е. Просім!

Ашторп кланяецца.

К н я з ь. Паслязаўтра, пан Ашторп, і паедзеце. Толькі вазьміце надзейную ахову.

А ш т о р п *(важна)*. Князь лічыць мяне баязліўцам. Прашу пераканацца ў адваротным. Аховы я браць не буду.

К н я з ь. Дарэмнае самавыхваленне.

А ш т о р п. Я ведаю, што кажу. Аркестр!

На хорах з'яўляюцца м у з ы к а н т ы.

Мазурку!

П а н і С к і р м у н т. Брава! Брава, пан Ашторп.

К н я з ь. Пані Скірмунт, дазвольце вас запрасіць.

А ш т о р п. Княгіня, ашчасліўце. Запрашаю.

Г р а ф. Графіня, проша.

Тры пары танцуюць мазурку. Пані Скірмунт зззяе ад захаплення. Мазурка скончана.

К н я з ь. Панове, у час мазуркі я думкамі перанёсся ў залаты век Рэчы Паспалітай. Мне ўяўляўся прыдворны бал, бляск, раскоша, а пані Скірмунт — прыдворнай фрэйлінай.

К н я г і н я. Калі, калі прыйдуць тыя часы?!

П а н і С к і р м у н т. Панове, танцы — мая стыхія. У іх я забываюся аб усім на свеце!

Г р а ф. Нават аб сваім мужу.

П а н і  С к і р м у н т *(падбягаючы да мужа)*. Ах, мой мілы Ясь! Ты сумаваў? Хіба я вінавата ў тым, што табе не было дамы?

П а н  С к і р м у н т. Не, Ядзя, я не сумаваў. Я больш п'янеў, гледзячы, як ты танцуеш. *(Пані Скірмунт цалуе мужа.)*

А ш т о р п. «Абэрак!»

Аркестр іграе. Мужчыны танцуюць са сваімі жонкамі. Ашторп выходзіць, але хутка вяртаецца ўстрывожаны.

Панове, пажар!

Аркестр абрывае ігру. Усе спыніліся, як громам аглушаныя.

К н я з ь. Дзе пажар? У маёнтку пана?

А ш т о р п. Бог крыў ад такога няшчасця. Дзесьці недалёка.

Усе кідаюцца да вокнаў, у якія з заходу ўліваецца крывавае зарыва.

Г р а ф. Панове, гарыць маёнтак пана Харэвіча.

А ш т о р п. Прошу на балкон, адтуль лепш відаць.

Выходзяць.

П а н і  С к і р м у н т *(крычыць)*. Ясю, дадому! Дадому! Гэта блізка ад нас!

На двары трывога, б'юць у звон.

К н я г і н я. Вешаць быдла! Звесці нават племя!

У пакоі нікога, апусцелі хоры. Уваходзіць А д а с ь. З другіх дзвярэй з'яўляецца А н э т а.

А д а с ь *(шэпча)*. Паслязаўтра Ашторп едзе ў Мінск. Без аховы.

А н э т а *(таксама шэпча)*. Абавязкова паведаміць хлопцам.

Адась. Мяне, вядома, возьме з сабою. Дзейнічай ты, Анэта.

Анэта. Заўтра ж аб усім даведаюцца хлопцы.

Адась. Ідуць! *(Знікаюць.)*

Уваходзяць з балкона паны.

Графіня. Вось пан Харэвіч і жабрак.

Княгіня. У яго яшчэ два маёнткі.

Князь. Справа не ў маёнтках, а ў іх гаспадарах. Можа, разам з маёнткам перастала біцца і сэрца пана Харэвіча? Гэта страшна.

Пані Скірмунт *(прытулілася да мужа і ўся калоціцца)*. Ясю, я баюся.

Графіня. Так, панове, гэта трагічна.

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Перад заслонаю Лірнік. Іграе на ліры.

Лірнік.

І паўстаў народ пакутны на паноў тых смела.

Імкне помсты вал магутны,
Нішчыць катаў умела.
То не сонечныя косы засвяцілі ўночы,
Забрыльянціліся росы — не адарваць вочы.
Шуганулі зырка к небу панскія палацы,
Няма межаў таму гневу,
Што ўзрастаў з працы.
І рака да помсты кліча, хвалі свае зброіць,
І хвіліны тыя лічыць, калі пана зловіць.

Адкрываецца заслона.
Цёмная ноч. Перад світаннем. Хвалі Свіслачы палошчуцца аб высокі бераг. Густыя кусты алешніку і крушыннiку, аблытаныя хмелем. Выходзяць Саравітан і Васілёк.

Саравітан. Сябры, яшчэ раз давайце праверым усё. Васілёк, слухаем цябе.

Васілёк. Дарога, па якой будзе вяртацца з Мінска Ашторп у сваёй славутай карэце, запрэжанай васьмёркай стаеннікаў, праходзіць праз Свіслач. Моста ім не мінаваць. На тое, каб падпілаваць палі, спатрэбіцца мала часу. Падрыхтавана дзесяць чаўноў, на каторых будзе па тры чалавекі: два з пілою і адзін — з вяслом. Перашкодзіць ніхто не здолее, бо па гэтай дарозе, апрача пана, не ездзяць і не ходзяць. Яна так і завецца Панскі гасцінец. Але на ўсякі выпадак выстаўлена ахова. На самым высокім дрэве сядзіць дазорны, які паведаміць, калі будуць ехаць. Ашторп паехаў з пыхай.

Саравітан. А прыедзе з ліхам. Які настрой у хлопцаў?

Васілёк. Гатовы з усімі панамі расквітацца за адзін раз.

Саравітан. Гэта добра. А Фроська табе не перашкода?

Васілёк. Наадварот, яна пры мне, і я спакойны, упэўнены ў сабе.

Саравітан. Умоўны знак — конь заржэ.

З'яўляюцца хлопцы, сярод іх Фроська.

Саравітан. Усе?

Алесь. Нават на аднаго больш.

Саравітан. Жартуеш?

Алесь. Якія жарты, калі з намі сам пан войт.

Саравітан. Дзе ён?

Алесь. Уваходзь, пан войт, не саромейся.

Войт уваходзіць.

Саравітан. Што, пан войт, у разбойнікі пайшоў?

Маўчанне.

Не жадаеш з намі размаўляць? Войтаўскі гонар паказваеш? Гавары, мы не гордыя.

В о й т. Я па сваіх справах хадзіў.

С а р а в і т а н. Ого, так далёка і так рана?

В о й т. Калі хачу, тады і іду. Можа, вы забароніце?

С а р а в і т а н. Уга, колькі пыхі! Ад Аштарпа набраўся?

В о й т. Але чаго вы тут уночы?

С а р а в і т а н. Будзем яснавяльможнага Аштарпа купаць.

В о й т. Як гэта купаць?

С а р а в і т а н. Які ж пан войт не дагадлівы. Скажу, каб адразу зразумеў ягамосць. Будзем тапіць пана.

У войта аднялася мова. Ён нешта мармыча, паказваючы рукой угору.

Не, Аштарп пойдзе не на неба, а на дно Свіслачы. *(Паказвае на войта.)* Звязаць яго і палажыць у кустах. Паставіць вартавога. Трэба, каб войт усё чуў і бачыў.

А л е с ь. Пайшлі, пан войт, у кусты.

Выходзяць.

С а р а в і т а н. Хутка будзе світаць. Пара, браты.

В а с і л ё к. За мною!

Знікаюць у кустах, адкуль хутка пачуліся вёсельныя ўсплескі.

Ф р о с ь к а. Максім, абваліцца мост?

С а р а в і т а н. З вялікім трэскам!

Даносіцца мернае шорханне піл.

Чуеш? Пачалося. Страшна, Фроська?

Ф р о с ь к а. Чаго?

С а р а в і т а н. Малайчына! Паважаю такіх!

З кустоў выходзяць З м і т р о к і А н э т а. Яны не заўважаюць Саравітана і Фроські.

З м і т р о к. Назаўсёды, Анэта?

А н э т а. Назаўсёды, Змітрок.

З м і т р о к. Як добра!

А н э т а. Змітрок, а дзе зараз Фроська?

З м і т р о к. Тут недзе. Пажадала паглядзець на смерць ката.

А н э т а. Гэтага жадаю і я. Хаця б удалося?

З м і т р о к. Што задумаў Саравітан, тое ўдаецца.

А н э т а. Трохі боязна. З панскіх палацаў ды ў пушчу.

З м і т р о к. З табою ж буду я.

А н э т а. Таму і пайшла. Змітрок, мне трэба бачыць Саравітана.

С а р а в і т а н. У чым справа, Анэта?

А н э т а. Ай! Як я спалохалася.

С а р а в і т а н. Прыйшла жыць у лес, трэба забываць палохацца.

А н э т а. Ашторп паехаў, як вам вядома, без аховы. Узяў толькі Адася.

С а р а в і т а н. Хаця б ён не папаў у карэту.

А н э т а. Вой, што вы кажаце? Калі ехалі ў Мінск, Адась сядзеў поплеч з фурманам. Я на свае вочы бачыла. Без Адася пан не можа пабыць мінуты. Толькі і чуеш: «Адасю, ідзь до мне», «Адасю, будзь тутай».

С а р а в і т а н. Будзем спадзявацца на лепшае.

Пачынае світаць. Густы туман спавіў усё. Выходзяць х л о п ц ы. Анэта падбягае да Фроські і цалуе яе. Яны стаяць, прытуліўшыся адна да адной.

С а р а в і т а н. Гатова?

В а с і л ё к. Пастараліся як мае быць.

С а р а в і т а н. Сёння панства страціць яшчэ аднаго зубра. Яны заб'юць трывогу. Наедуць, магчыма, карнікі. Застацца нам тут не-

бяспечна. Вось чаму сёння ж мы павінны падацца на поўдзень, у дрымучыя лясы і непраходныя балоты, бліжэй да ўкраінскіх братоў, каб разам змагацца за вольнае, светлае жыццё. А вораг у нас адзін. Сябры, можа, хто хоча застацца тут, бліжэй ля дому? Можа, каго палохаюць тыя цяжкасці, якія сустрэнуцца на шляху нашай заўзятай барацьбы? Няволіць не будзем нікога.

Васілёк. Максім, хіба мы цябе калі падвялі, не падначаліліся? Ці калі скардзіліся табе на сваё жыццё? Не, Саравітан, хто стаў на шлях барацьбы з панамі, той не зверне з яго. Праўду кажу, хлопцы?!

Усе. Праўду, Васілёк! Смерць панам!

Уваходзяць Барыс і Тодар. Усе здзіўлены.

Фроська. Татулька! *(Кідаецца да бацькі.)*

Саравітан. Барыс, дзе ты яго ўзяў?

Барыс. Па дарозе сюды.

Саравітан. Дзядзька Тодар, куды вы ішлі?

Тодар. Да вас.

Саравітан. А адкуль вы даведаліся, што мы тут?

Тодар. Па сяле пайшлі чуткі, што вы недалёчка. Я і пасунуўся з надзеяй у сэрцы, што ўбачу Фроську.

Саравітан. А ўсё ж, хто вам сказаў?

Тодар. Суседка Куліна.

Саравітан. А Куліне?

Тодар. Сідарава Грышына.

Саравітан. А Грышыне?

Тодар. Войтава Кацярына.

Саравітан. Гэта нам і трэба. Бачыце, сябры, куды яно ідзе? Войтава Кацярына, жонка начальніка гайдукоў. А мы ходзім, як на кірмашы на Іллю. Дзядзька Тодар, збірайцеся

дадому. Пабачыліся з Фроськай, з Васільком. Хопіць.

Т о д а р. Хіба вы зараз куды пойдзеце?

С а р а в і т а н. Далёка пойдзем.

Т о д а р *(паказвае на дачку)*. І яна?

С а р а в і т а н. Запытайцеся ў яе.

Ф р о с ь к а. Родны мой! Шкада мне пакідаць цябе аднаго, старэнькага, нядужага. Але ж не будзе мне тут жыцця. Жыўцом з'ядуць, зняславяць. Я з імі звязала сваю долю.

В а с і л ё к. Татуля, не крыўдуйце на Фроську. Так трэба. Перадайце маім старым нізкі паклон.

Т о д а р. То я пайду... Я зараз... Так, дамоў... У парожнюю, старую хату. Бывай, дачушка, і ты, сынок.

Фроська абсыпае бацьку пацалункамі.

Бывайце, сынкі! Хай ясная доля спадарожнічае вам!

У с е. Бывайце, дзядзька Тодар! Фроську ў крыўду не дамо!

Б а р ы с праводзіць Т о д а р а.

С а р а в і т а н. Хлопцы, галоў не вешаць! Не забывайцеся, хто мы і дзе знаходзімся. Вось ужо і сонейка ўсміхнулася нам. Паўзірайцеся, якое яно светлае, ласкавае! Быць удачы!

Прыбягае Б а р ы с.

Б а р ы с. Гайдукі! Сюды ідуць!

С а р а в і т а н. У кусты!.. Замерці... Алесь, заткні рот войту яго ж шапкаю.

Усе знікаюць. Напружаная цішыня. Чуваць гаворка. Яна ўсё набліжаецца. Уваходзяць п я ц ь г а й д у к о ў.

Л я в о н. Стой. Паўглядайцеся, папове. Чаго гэта трава памята?

П е р ш ы г а й д у к. Начлежнікі ляжалі.

Лявон. А чаму няма паблізу вогнішча?

Другі. Бо ноч цёплая.

Трэці. Лявон, табе хочацца сустрэцца з мяцежнікамі, вось табе яны і здаюцца на кожным кроку.

Чацвёрты. Яму не дае спакою той, што ссадзіў яго з каня і адабраў Фроську.

Лявон. Эх, папаўся б ён мне ў рукі — вот пацешыўся бы! А потым — у расход!

Першы. Няўжо так і будзем поўзаць па зямлі? Не дасць Ашторп коней?

Лявон. Праваявалі ў Тодара на двары.

Другі. Разам з намі і ты.

Лявон. Аднолькава аддзякаваў Ашторп. Давайце пашукаем у кустах.

Трэці. Вяртаемся ў маёнтак, а то пан прыедзе.

Чацвёрты. Трэба ж сустракаць.

Лявон. Праўда. Пайшлі.

Выходзяць. З'яўляюцца хлопцы.

Саравітан. Ну, прынесла.

Андрэй. Як гэта ім пан аддзякаваў?

Анэта. На стайні па пяцьдзесят розаг усыпалі кожнаму.

Саравітан. Андрэй, ускоч на хвойку, паглядзі, дзе яны.

Андрэй выбягае.

Васілёк. Загасцяваў Ашторп у Мінску.

Саравітан. Прычакаем, Васілёк. Анэта, точна сёння прыязджае пан?

Анэта. Сёння, уранку.

Прыбягае Андрэй.

Андрэй. Гайдукі ўжо каля маёнтка.

Васілёк. Бяжыць Рыгор!

Рыгор. Едзе!

Усе. Едзе!!!

Здалёк даносіцца мерны тупат конскіх ног. Ён усё нарастае. Тупат падказвае, што першая парка ўжо на мосце.

Першы голас. Яснавяльможны пане, мост трашчыць!

Другі голас. Дурню, трашчыць, бо ведае, хто едзе.

Першы голас. Яснавяльможны пане, мост ходарам ходзіць.

Другі голас. Глядзі, каб мая палка не пахадзіла па тваёй спіне! Паганяй!

Аглушальны трэск скалануў паветра.

Голас. Карэта пайшла на дно! Ратуйце пана!

З'яўляецца Адась, ён увесь мокры.

Адась. Вось і я!

Вацлаў. Адась, ты ўвесь мокры.

Адась. А ты хацеў быць у рацэ і не замачыцца?

Вацлаў. Ідзі на сонца, абсохні.

Адась. Нічога, пакуль князя Радзівіла тапіць — абсохну. Максім, Ашторп не выплыве. Каб акно карэты было зачынена, ён мог бы адсядзецца і яго маглі б выратаваць. Але я перад самым ад'ездам непрыкметна адкінуў зашчапку.

Саравітан. Малайчына, Адась! Сваю работу ты выканаў бліскуча.

Адась. А Ашторп дарэмна ездзіў у Мінск.

Андрэй. Не, недарэмна: ён жа ездзіў па сваю смерць.

Саравітан. Што ты хочаш сказаць, Адась?

Адась. Я даведаўся, што хадайніцтва паноў не задаволена: выставілі ім дулю. Сказалі, каб разлічвала панства толькі на свае мясцовыя сілы.

С а р а в і т а н *(радасны)*. Сябры, вы ведаеце, што гэта значыць? Гэта значыць, што з Дубовай градкі мы нікуды не пойдзем. Будзем трымаць у страху паноў. Не асмеляцца і пальцам крануць нашых бацькоў, сясцёр і дзяцей.

Панеслася конскае ржанне.

Сігнал!

Усе павярнулі галовы ў бок маёнтка. Напружанае чаканне. Праходзіць некаторы час.

Д а н і л а. Гарыць! Правы вугал!
У с е. Гарыць! Гарыць!

З боку маёнтка — званы і крыкі: «Пажар!.. Ратуйце!»

З а с л о н а.

1927

# ВЯСЕЛЛЕ

**Драма ў 2-х дзеях**

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Ц і м о х, селянін, 56 гадоў.
М а т р у н а, яго жонка, 50 гадоў.
Г р ы п і н а, іх дачка, 20 гадоў.
А р х і п, кулак, 58 гадоў.
З о с я, яго жонка, 53 гады.
Л я в о н, сын Архіпа, 25 гадоў.
С я м ё н, старэйшы сын Архіпа, паліцэйскі, 30 год.
А н т о н, старэйшы сват, 57 гадоў.
В а с і л ь, бруснік Лявона, 23 гады.
П о п Д а р м і д о н.
М і к а л а й, музыка.
Я з э п.
М а р ы л я.

П р у з ы н а
П а р а с к а
А л е н а
Е в а
М а р ц э л я
} вясковыя кабеты сталага ўзросту.

Д з я ў ч а т ы, дружкі Грыпіны.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Хата Цімаха. У хаце Цімох, Прузына, Матруна.

Цімох *(глядзіць у акно)*. Ужо каля поўдня, а заручнікаў не чуваць. Хаця б не нарабілася ў маладога чаго? Мо Лявон занатурыўся? Ён хлопец фанабэрысты.

Прузына. Няма куму чаго казаць. Мала што магло затрымаць заручнікаў? Пакуль Лявон збярэ радню, пакуль выправяць яго ў дарогу, ці ж мала часу трэба.

Матруна. А я як падумаю, што трэба з дачушкаю расставацца, дык нават рада, што заручнікі позняцца.

Прузына. Кінь, кума. Не забывайся, Грыпіне ўжо дваццаць гадоў. А з малым пасагам нават прыгажуня можа засядзецца ў дзеўках. А тут трапіўся хлопец і прыгажун, і багаты.

Цімох. А як нажывалася гэта багацце, куме вядома? Парабкоў Архіп голадам марыў, ад цямна да цямна яны рвалі жылы на гаспадара. Ганна Ціхонава цэлы год пяклася, а як аддзякаваў ёй Архіп? Прагнаў з хаты, як бяздомніцу якую. Дзяўчына ў рачным віры знайшла сабе прытулак.

Маўчанне.

І Лявон, кажуць, вінен у яе смерці. Насмяяўся з дзяўчыны, а як трэба было прыкрыць грэх — адвярнуўся.

Прузына. Прымаўка ж кажа: у голад намруцца, а перад вяселлем налгуцца. А як багацце Архіп набываў — што вам да таго?

Цімох. Каб часам праз бакі не вылезла яно.

Уваходзіць **Грыпіна**.

**Матруна.** Дачушка, чаго такая маркотная?

**Грыпіна.** Сэрца маё нешта ные. *(Горнецца да маці.)* Родныя мае! Хутка зазвіняць званкі, зайграюць музыкі. Яны скажуць, што блізка, блізка тая часіна, калі нам трэба будзе разлучыцца назаўсёды.

Маці і дачка плачуць, Цімох пазірае ў акно.

**Прузына** *(спявае).*
Мамачка мая родная,
Аддаеш, а не ведаеш,
Аддаеш, а не ведаеш,
Які мой мужык будзе:
Ці гультай, ці п'яніца?
Ці гультай, ці п'яніца,
Ці вялікі нядбайніца?
Ці вялікі нядбайніца.
Дзень пры дні п'е, гуляе,
Дзень пры дні п'е, гуляе,
Вечарам ў карты йграе,
Карчомкі ды не мінае.

**Цімох.** Чаго гэта дзеці бягуць?

**Голас** з вуліцы. Дзядзька Цімох, заручыны едуць!

**Прузына.** Вось і едуць.

**Цімох.** Жанчыны, вы ж глядзіце тут, а я пайду на двор сустрэну.

Выходзіць, за ім **Грыпіна**. Матруна і Прузына засцілаюць сталы, кладуць хлеб, ставяць талеркі з закускаю. На вуліцы званкі, гармонік залівaецца маршам, гоман, смех. Кабеты пазіраюць у акно. У хату ўваходзяць **Цімох**, **старэйшы сват**, у якога на плячы біклага, **Лявон**, **Васіль**, бруснік Лявона, гарманіст **Мікалай** і яшчэ **мужчыны**.

**Старэйшы сват.** Дзень добры вам. Ці рады вы нам?

**Цімох.** А хто вы будзеце? І чаго ад нас патрабуеце?

**Старэйшы сват.** Быў я ў вас улетку, бачыў пекну кветку. Каб вы яе мне не прадалі, а дарам аддалі.

**Цімох.** Наша кветка-ружа і прыгожая дужа, а цана ёй не чырвонец, а ўдалы малоец.

**Старэйшы сват** *(паказвае на Лявона)*. Вось малоец той удалы, хлопец здатны, дужы, сталы. Кветка ваша, кветка-ружа будзе мець не зломка-мужа.

**Цімох.** Дык прашу за сталы, сватове, калі ласка.

Заручнікі садзяцца за стол. Старэйшы сват налівае гарэлку з біклажкі ў бутэлькі, потым з бутэлькі ў чаркі.

**Старэйшы сват.** Ну, сват, гарэлка мая, а закуска твая. Давайце вып'ем па чарцы ды закусім па скварцы.

**Цімох.** А так, сватка, купец твой, а тавар мой. Давай трохі пахмелімся, тады, можа, лепш асмелімся.

Усе п'юць, апрача Лявона.

Добрая гарэлка!

**Старэйшы сват.** А які ў свата сёлета ўраджай? Чаго больш: агуркоў ці дынь?

**Цімох.** Добрыя агуркі, але лепшыя дыні. Асабліва ёсць адна дыня: будзе з яе добрая гаспадыня.

**Старэйшы сват.** А ў нас, сват, ладныя агуркі. Асабліва ёсць адзін агурок: будзе з яго добры гаспадарок.

Усе глядзяць на Лявона, той чырванее.

**Цімох.** Чаго чырванееш, зяцька? Я ж табе буду бацька. Пакінь чырванець — трэба сокалам глядзець.

С т а р э й ш ы   с в а т. Чаму ж гэта не віддаць вашай кветкі? Малады сядзіць маркотны, як той бездамак гаротны. За гарэлку не бярэцца — ці ж парадак то завецца?

М а т р у н а. Зараз, сватка, будзе маладая. *(Да Прузыны.)* Кумка, пакліч ты яе.

П р у з ы н а выходзіць.

С т а р э й ш ы   с в а т. А зараз, Цімох і Матруна, пагаворым аб галоўным: які пасаг дасцё за дачкою?

Ц і м о х. Аб гэтым ужо была размова з бацькамі Лявона. Да чаго ўсё гэта зараз?

С т а р э й ш ы   с в а т. Так загадалі Архіп і Зося. Калі ў чым не дамовімся, дык сказалі не ехаць да вянца, а вяртацца дадому.

Ц і м о х. Як ты, Лявон?

Л я в о н. Як тата і мама.

В а с і л ь. Цікава, на кім ты, Лявон, жэнішся: на Грыпіне ці на яе пасагу?

Л я в о н *(сярдзіта)*. Гэта ўжо я ведаю!

С т а р э й ш ы   с в а т. Дык кажы, сват.

Ц і м о х. Даю самую лепшую карову, паросную свінню, дзве авечкі, а маці повен куфар усякага дабра.

Л я в о н. А жарабка?

Ц і м о х. З чым жа тады мы застанемся?

Л я в о н. Без жарабка я не паеду да вянца.

В а с і л ь. Памаўчаў бы ты, Лявон. Слухаць агідна.

Л я в о н. Тады буду маўчаць, як усё будзе па-нашаму.

Ц і м о х. Матруна, што будзем рабіць?

М а т р у н а. Галава не ўбірае ўсяго таго, што вушы пачулі. Багатыя — яны хітрыя. Раней маўчалі пра жарабка. Падабралі часіну, калі нельга ўжо спрачацца — і давай ім жарабка. Гэта ж будзе вялікая ганьба для Грыпіны, калі заручнікі ўцякуць дадому.

Цімох. Тады бярыце і жарабка. Няма ў вас сэрца.

Старэйшы сват. Дык памятай, Цімох: пры людзях гаварылася.

Васіль. А я нічога не чуў. Як ты, Мікола, і вы, дзядзькі?

Мікалай. Я глухі на абодвы вухі. З гарматы стралялі блізка, а я рот не разявіў.

Заручнік маўчаць. Уваходзяць Грыпіна ў вянчальным убранні, Марыля і яшчэ некалькі дружак, Прузына, Зяноўя і Ева.

Старэйшы сват. Ідзіце сюды, дзяўчаты, а то сумуюць хлапчаты.

Грыпіна падыходзіць да стала і цалуе старэйшаму свату ў руку, астатнім кланяецца, тыя адказваюць тым жа.

Старэйшы сват. Ну, Грыпіна, выпі да дна ды садзіся ля акна. І вы, дружкі, проша да стола, дзе і наш музыка Мікола.

Грыпіна не п'е, а дружкі не падыходзяць.

Лявон, прасі маладую, а ты, Васіль, дружак.

Хлопцы вылазяць з-за стала і запрашаюць дзяўчат. Дружкі падыходзяць да Грыпіны і абступаюць яе, за стол не садзяцца. Лявон і Васіль займаюць свае месцы. Старэйшы сват дае дзяўчатам гарэлку, пачынаючы ад маладой. Тыя, таройкаючыся, п'юць.

Старэйшы сват. Можа, яшчэ прыгубіце? Тады і сорам згубіце.

Марыля. Ого, чаго свату зажадалася. Колькі ж сват гэта думаў, каб такое глупства вылепіць?

Цімох. Што, сваток, наскочыў?

Старэйшы сват. І не кажы, сваце, аж горача стала ў хаце. Дзяўчаткі, давайце гадзіцца, не прыстала нам сварыцца.

Марыля. А мы і не сварыліся, толькі за свой гонар заступіліся.

З я н о ў я прыносіць вядро вады і конаўку, а Е в а кавалак даматканага палатна. Грыпіна бярэ конаўку, чэрпае ваду, падыходзіць да старэйшага свата, той выстаўляе рукі, Грыпіна лье на іх ваду, Ева падае яму кавалак палатна, сват выцірае ім рукі і завязвае каля сярэдзіны. Тое ж Грыпіна прарабляе з іншымі мужчынамі. Потым яна ставіць конаўку, падыходзіць да Лявона, прыколвае яму кветку з левага боку і дае вышытую хустку. Марыля і яшчэ адна дружка прыколваюць кветкі Васілю і Мікалаю з правага боку. Трэцяя дружка прыколвае кветку маладой з левага боку. Лявон дае Грыпіне сярэбраны рубель, а Васіль і Мікалай дружкам — цукеркі. Як пачалося дарэнне заручнікаў, жанчыны спяваюць.

Ж а н ч ы н ы *(спяваюць).*
Не крыўдуйце, маршалкі,
Што кароткі падаркі.
Што кароткі падаркі,
Па ігрышчах хадзіла,
Кудзеля не ўрадзіла,
Кудзеля не ўрадзіла.
Шчэ к таму ды драмалася,
Шчэ к таму ды драмалася,
Не тонка папралася.
Не тонка папралася,
Нядобра паткалася.
Ц і м о х. Дзяўчаткі, лезьце за сталы.

Грыпіна садзіцца на покуце поплеч з Лявонам, дружкі каля Васіля і Мікалая. Кабеты каля іншых заручнікаў.

Ц і м о х. Зараз ужо і гарэлка будзе мая. *(Налівае чаркі, падымае сваю.)* Дай жа, божа, каб усё было гожа. Каб нашым маладым жылося-былося, у кублах сала вялося, у хляве скацінка, у свірне збажынка, у доме ўнучаты: хлапцы і дзяўчаты.

Смех. Грыпіна апускае вочы.

С т а р э й ш ы с в а т. Калі пойдзе на тое, хай будзе й па двое.

Зноў рогат.

Дык за такое пажаданне вып'ем усё дазвання ды закусім лустай хлеба, каб рабіць далей, што трэба.

Усе п'юць, дзяўчаты адмаўляюцца, хлопцы насядаюць. Тое самае ў жанчын і мужчын. Шум, гоман, смех. Мікалай іграе.

Жанчыны і дружкі *(спяваюць).*
А сягоння ды заручыны
бог нам даў,
То таму, то сяму па падарачку
бог нам даў.
То таму, то сяму па падарачку
бог нам даў,
Нашаму Лявонку тры падарачкі
бог яму даў.
Нашаму Лявонку тры падарачкі
бог яму даў,
Першы падарак — залаты персцень
бог яму даў.
А другі падарак — шаўковую хустку
бог яму даў,
Трэці падарак — маладу Грыпінку
бог яму даў.
Трэці падарак — маладу Грыпінку
бог яму даў.
Залаты персцень заручаціся
бог яму даў,
Залаты персцень заручаціся
бог яму даў.
Шаўковую хустку выціраціся
бог яму даў,
Шаўковую хустку выціраціся
бог яму даў,
Маладую Грыпінку вянчаціся
бог яму даў.

У хату найшло многа людзей пацікавіцца вяселлем.

Старэйшы сват. Сват і свацц累, давайце рабіць усё па звычаях дзедаўскіх, бо пара ўжо выпраўляць маладых да вянца. Калі спознянцца, дык яшчэ поп занатурыцца. Усім добра вядома, што гэта за цаца.

Усе вылазяць з-за сталоў. Кутні стол адсоўваюць ад лаў. Ціт, хросны бацька Грыпіны, які зайшоў нядаўна ў хату, бярэ ручнік за адзін канец, а другі падае маладой.

Ціт. Будзем заводзіць маладую на пасад.

Ідзе вакол стала, за ім ідзе Грыпіна і плача.

Айцец і маці, добрыя людзі, благаславіце маладую на пасад!

Усе. Благаслаўляем!

Ціт *(вядзе другі раз)*. Другі раз!

Усе. Благаслаўляем!

Ціт *(вядзе трэці раз)*. Трэці раз!

Усе. Благаслаўляем!

Дружкі *(спяваюць)*.

Ды ляцелі гусачкі цераз сад,
Час табе, Грыпінка, на пасад.

Грыпіна *(кідаецца ў ногі Цімаху і прычытае)*. Татачка родны, благаславі на пасад.

Цімох падымае дачку і цалуе яе, потым благаслаўляе караваем хлеба.

Дружкі *(спяваюць)*.

Ці мяне на пасад вядзіце,
Ці вы маю мамачку знайдзіце.

Грыпіна *(кідаецца ў ногі Матруне і прычытае)*. Мамачка, родная, благаславі на пасад.

Маці падымае дачку, і яны, апчаперыўшыся, плачуць. Усе плачуць.

Прузына *(стараючыся разняць іх)*. Матруна, кумка, годзе. Што гэта ты, як па нябож-

чыцы. Грыпінка, дзіцятка, ты ж на новую жыццёвую дарогу ступаеш.

Грыпіна *(да дзяўчат прычытае)*. Дзявачкі сястрыцы, апошні дзянёчак, апошні часочак!

Жанчыны *(спяваюць)*.
Маладая Грыпінка,
Усё тваё мінаецца.
Усё тваё мінаецца:
Дзявоцкае пагуляннейка,
Хлапецкае жартаваннейка.
Хлапецкае жартаваннейка.
Годзе табе ў мамкі жыці.
Годзе табе ў мамкі жыці
Ды вяночкі ўсё віці,
Ды вяночкі ўсё віці,
Ды таночкі вадзіці,
Ды таночкі вадзіці,
Йдзі свякрусе служыці.

Усе выходзяць на двор, адкуль чуваць званкі, музыка, тупат коней, выгукі «тпру».

Жанчыны *(спяваюць)*.
Ехала Грыпінка да вянца,
Забылася хустачкі, грабянца.
— Падай, мамачка, грабянец,
Расчасаць косачкі пад вянец.

Паехалі. Поступова заціхаюць званкі, музыка, песня. Уваходзяць Цімох, Матруна і старэйшы сват.

Цімох. Што ж гэта, сват Архіп надумаў надзець на нас торбы?

Старэйшы сват. А вы не давайцеся.

Цімох. Як цябе зразумець, Антон? Архіп жа твой швагра.

Старэйшы сват. А хоць бы і родны брат.

Цімох. Не жартуеш?

С т а р э й ш ы  с в а т. Якія тут жарты, калі акула чалавека праглынае.

Ц і м о х. Ты прасцей скажы, Антон: як бы ты зрабіў?

С т а р э й ш ы  с в а т. Не мяне ж бяруць за гарляк.

Ц і м о х. А каб бралі?

С т а р э й ш ы  с в а т. Я кусаўся б.

Цімох задумаўся.

М а т р у н а. Аддай дачку і амаль усю гаспадарку.

Ц і м о х. Не аддам жарабка!

С т а р э й ш ы  с в а т. Правільна зробіш.

М а т р у н а. Ды Лявон ад Грыпіны адмовіцца.

С т а р э й ш ы  с в а т. І чаму ваша адзіная дачка стала вам цеснай? Чаму вы стараецеся як мага хутчэй выжыць яе з роднага дома?

М а т р у н а. Трэба ж яе замуж аддаць, а тут трапіўся хлопец прыгожы, багаты.

С т а р э й ш ы  с в а т. Які хоча зрабіць вас старцамі. Цімох, а ці задумаўся ты над тым, што ідзеш па дарозе Архіпа?

Ц і м о х. Я?!

С т а р э й ш ы  с в а т. Ты. Вось слухай. Вы аддаяце Грыпіну за Лявона толькі таму, што ён багаты. Не відаць, каб ваша дачка вельмі гарнулася да яго. А чаму б не зрабіць так: даць поўнае права Грыпіне распарадзіцца сваім лёсам. Знайшоўся б малады чалавек па сэрцу, а не па кішэні. Жылі б вы разам і на старасці год гадавалі б унукаў. Скажаце, дзе ўзяць такога? І шукаць доўга не трэба. Чым дрэнны Васіль Дрозд? Адзін час, наколькі памятаю, Грыпіна мілым вокам глядзела на яго. А Васіль і зараз уздыхае па ёй. Для яго гэта вяселле — мука. Што ж, Васіль галяк, не пара. Ой, глядзіце, не раз пакаецеся, але позна будзе.

Матруна. Ужо позна.

Цімох. Антон, як у цябе ўсё проста і ясна выходзіць. Дзе ты быў раней са сваёй разумнай галавой?

Старэйшы сват. І ў цябе такая ж галава, толькі яна стала схіляцца ў бок Архіпавай. Ну, я пайшоў. Скора павінны прыехаць і вянца. *(Пайшоў.)*

Цімох *(б'е кулаком па стале)*. Жарабка не аддам!

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

У хаце Архіпа. Архіп, Зося, Параска, старэйшы сват.

Зося. Я прачакалася ўжо сваёй нявехны. Кажуць, ганарлівая. Хаця б патрапіць гаварыць з ёю.

Параска. І як гэта так гаварыць пра чалавека, якога яшчэ добра не ведаеш. Мала чаго набрэшуць людскія языкі. Вядома, кожнаму хацелася б мець Лявона сваім зяцем. Пазнаёміцеся бліжэй, тады будзеш і гаварыць.

Старэйшы сват. Мне вельмі спадабалася Грыпіна. Прыгожая, здаровая, ветлівая. І жне, і косіць, і за плугам ходзіць.

Архіп. Во, нам такая і трэба, каб усю гаспадарку цягнула.

Старэйшы сват. Узрадаваўся... Думаеш замяніць ёю ўсіх сваіх парабчанак?

Зося. А што ж, пасадзім яе, як ляльку, на покуце ды будзем любавацца? У нас дармавога хлеба няма. Хай ведае, што свякруха — не родная маці, а свёкар — не родны бацька.

Старэйшы сват. Эх, не зайздрошчу я Грыпіне.

Параска. І я не жадала б быць на яе месцы.

Архіп. Вас паслухаць — дык да Архіпа і цераз парог не пераступай.

Старэйшы сват. З гэтым жарабком вы нарабілі прыкрасці.

Архіп. Якой?

Старэйшы сват. Калі Лявон патрабаваў у пасаг і жарабка, Цімох і Матруна быццам громам былі аглушаны. З якім болем вырвалася ў Цімаха з грудзей: «Няма ў вас сэрца!»

Архіп. Цімох так і сказаў?

Старэйшы сват. А што? На яго месцы я мацней сказаў бы.

Зося. Смачан жабе гарох, ды зубоў бог не даў.

Старэйшы сват. Хоць ты мне і сястра родная, але скажу: не вельмі трывалыя і твае зубы, бо вельмі хутка і няпраўдаю нажываліся.

Архіп. Як гэта няпраўдаю? Хіба ўсё мне з неба звалілася? Альбо крадзенае? Нарабаванае сярод белага дня?

Старэйшы сват. Так, нарабаванае... І сярод белага дня, і сярод цёмнай ночы, і на золаку, і на змярканні.

Архіп. Ты гэта што, швагра? Ці не задумаў ворагам маім стаць?

Зося. Антон, ты звар'яцеў? Мала мы табе дапамагаем?

Старэйшы сват. Дзякую, сястра, але гэта дапамога ваша ў тры столкі мне абыходзіцца. Лепш не дапамагайце.

Архіп. Ад каго ж гэта і калі ты такога розуму набраўся?

Старэйшы сват. Само жыццё вучыць. Няўжо вялікая навука патрэбна, каб бачыць, як чалавек з худой гніды паступова ператвараецца ў тлустую вош. Чужыя сокі гэтаму спрыяюць. Яны жывяць вош, якая ўпілася ў чужое цела.

Архіп. Э-э, ды цябе не зразумець.

Старэйшы сват. Скажу прасцей: тлустая вош — гэта ты, а чужыя сокі — гэта пот і праца тваіх парабкаў, загубленай Ганны, а хутка нявесткі Грыпіны ды, можа, і свата Цімаха і сваццi Матруны.

Архіп. А хіба сам я і мая сям'я не працуем?

Старэйшы сват. Вы толькі камандуеце і спажыву падлічваеце. Нябось нашы сыны на фронце немаведама за што кроў праліваюць і вошай кормяць, а твае пад бацькавым крылом песцяцца. Вяселле спраўляеце, а скажыце, дзе вашы госці?

Архіп. На полі жнуць.

Старэйшы сват. На чыім полі?

Архіп. Ну, на маім.

Старэйшы сват. Спужаўся, што задарма вып'юць па чарцы і закусяць кавалкам хлеба?

Зося. А хто іх пасылаў? Я толькі пабедавала, што збожжа сыплецца.

Старэйшы сват. І хітранька падшапнула, ці не пажалі б, пакуль частавацца?

Параска. Некаторыя госці зусім уцяклі.

Зося. І няхай едуць. Толькі і бяды. *(Глянула ў акно.)* Вось і госці з'яўляюцца. Пайсці даць ім памыцца.

Архіп і Зося выходзяць.

Старэйшы сват. Чым там у Цімаха сёння скончыцца?

Параска. Чаму?

Старэйшы Ды ўсё з-за жарабка.

Параска. Няўжо аддасць?

Старэйшы сват. Будзем бачыць.

Параска. Цікава.

Уваходзяць Архіп і Зося.

З о с я. Кума, давай закуску насіць на сталы!

А р х і п. А мы, швагра, гарэлку расстаўляць.

Ставяць на сталы бутэлькі і чаркі.

С т а р э й ш ы с в а т. Ды трэба спяшацца, бо ў Цімаха прачакаюцца.

З о с я. Не вялікія шышкі.

Уваходзяць Л я в о н, В а с і л ь і М і к а л а й з гармонікам.

З о с я *(ціха да Лявона)*. Многа нажалі?

Л я в о н *(таксама ціха)*. Дзесяць коп.

З о с я *(радасная)*. Архіп, кліч з двара гасцей.

А р х і п выходзіць.

В а с і л ь. Лявон, трэба цукерак хунты два.

Л я в о н. Гэта твая справа.

В а с і л ь. І тут хочаш прыбытак мець?

Уваходзяць А р х і п, Ц і т, н е к а л ь к і м у ж ч ы н і н е к а л ь к і ж а н ч ы н.

З о с я. Сядайце, госцікі, за сталы. Пара ўжо сілкавацца.

Усе садзяцца за сталы.

А р х і п *(да старэйшага свата)*. Антон, вядзі парадак.

С т а р э й ш ы с в а т. Госцікі, хлеб-соль на стале, рукі свае, налівайце, піце і закусвайце на здароўе. Не саромейцеся, усё, што на сталах, вамі зароблена.

Усе выпіваюць, закусваюць. Робіцца шумна.

Ж а н ч ы н ы *(спяваюць)*.

Маладзенькі Лявонка
У дарожку выбіраецца,
У дарожку выбіраецца,

У мамачкі ды пытаецца,
У мамачкі ды пытаецца:
— Мамачка мая родная,
Ці мне там начаваці?
Ці мне там начаваці?
Ці дадому прыязджаці?
Ці дадому прыязджаці?
— Дзіцятка маё маладое,
Дзіцятка маё маладое,
Не рабі няславаньку,
Не рабі няславаньку,
Прыязджай ты дадоманьку
Хоць уночы, упаўночы.
Хоць уночы, упаўночы,
Хоць ды к беламу свету,
Хоць ды к беламу свету,
К майму познаму абеду.

Мікалай грае марш. Уваходзяць поп Дармідон і Сямён.

Дармідон. Мір дому сему.

Сямён. Добры дзень.

Архіп *(кідаецца да папа)*. Просім, просім, айцец Дармідон.

Зося. Чаго ж спазніўся, сынок?

Дармідон *(сеўшы за кутні стол)*. Вып'ем малую таліку за здароўе маладых. І пажадаем, каб яны размножыліся, акі пясок зямны.

П'юць.

Сямён. А я, мамаша, не мог раней прыбыць. Знаходзіўся пры выкананні службовых абавязкаў.

Старэйшы сват. Дзе-небудзь скуру спускаў з нашага брата?

Сямён. Дзядзька Антон не памыліўся. Рабілі аблаву на дэзерціраў. Узялі моду з фронту ўцякаць. Пяцёх злавілі. Эх, і пацешылі

рукі! *(Пацірае рукі.)* Накіравалі ў франтавы трыбунал.

Д а р м і д о н. Якая разбэшчанасць! А прысягалі за цара-бацюхну і Русь-матухну ваяваць.

С т а р э й ш ы с в а т. Калі служыў матросам на Балтыйскім флоце, нам разумныя людзі казалі, што ёсць дзве Расіі: Расія цара, капіталістаў, памешчыкаў, паноў і Расія працоўных. Дык не варта за вашу Расію нам галовы сваё класці.

Д а р м і д о н. О, што вушы мае чуюць?! Ды гэта ж крамола!

С я м ё н *(ускочыў на ногі, увесь дрыжыць)*. Дзядзька Антон, я павінен цябе арыштаваць.

С т а р э й ш ы с в а т *(устае)*. Рукі кароткія, небажок. Спачатку смаркачы сабе вытры, а потым дзядзьку Антона арыштоўвай.

Сямён накіроўваецца да Антона. Васіль і Мікалай устаюць і становяцца па баках старэйшага свата.

В а с і л ь. Тады прыйдзецца амаль усю вёску арыштаваць, бо дзядзька Антон выказаў агульную думку народа.

Л я в о н. Папрашу дзядзьку ў нашай хаце рэвалюцыі не разводзіць.

С т а р э й ш ы с в а т. А, і вы тут... Аднаго поля ягадкі.

З о с я. Сыночкі, супакойцеся! Дайце вяселле дагуляць.

А р х і п. Давайце вып'ем. Налівайце.

С я м ё н. Толькі з-за павагі да бацькоў...

Садзяцца. Усе п'юць.

П а р а с к а. Пара ўжо Лявона падстрыгаць ды ў дарогу выпраўляць. Вылазь, Лявонка, з-за стала.

Лявон выходзіць на сярэдзіну хаты, дзе ставяць дзяжу, пакрытую кажухом шэрсцю наверх. На дзяжу садзіцца Лявон. Параска бярэ тры звязаныя поясам свечкі — грамніцы, запальвае іх, абносіць вакол Лявонавай галавы.

Параска. Бацька і маці, добрыя людзі, благаславіце маладога падстрыгаць!

Усе. Бог благаславіць!

Параска *(выразаючы паймінку валасоў).* Другі раз!

Усе. Бог благаславіць!

Параска *(робячы тое самае ).* Трэці раз!

Усе. Бог благаславіць!

Параска трэці раз выразае валасы.

Жанчыны *(спяваюць у час падстрygання).*

Падстрыгайся, Лявонка,
Пры родзе, пры племені,
Пры родзе, пры племені,
Пры трайчастай свячыцы.
Пры трайчастай свячыцы.
Ды пры роднай сястрыцы,
Ды пры роднай сястрыцы.
Годзе табе хлопцам быці,
Годзе табе хлопцам быці,
Пара гняздзечка звіці,
Пара гняздзечка звіці,
Малых дзетак набыці.

Лявон. Васіль, ідзі коней запрагаць.

Васіль выходзіць.

Зося. Кума Параска, хадзем па каравай.

Выходзяць.

Дармідон. Чады мае вазлюбленыя, вып'ем за поспехі нашага хрысталюбівага воінства.

Старэйшы сват. Якое ўжо не існуе.

Дармідон *(паказвае на Антона).* Гэта не чалавек, а Вельзевул. Історгнуць бы язык з вуснаў яго.

Старэйшы сват. Паспрабуйце.

Сямён. Дзядзька Антон, чаго ты козырам ходзіш?

Старэйшы сват. Бо цябе не баюся.

Сямён. Ой, пабаішся.

Старэйшы сват. Спазніўся. Раю пашукаць дзірку, каб было дзе схавацца.

Архіп. Піце, піце, госцікі, закусвайце.

Жанчыны *(спяваюць).*

А ці ведаеш ты, Лявонка,
Што табе мамачка казала,
Што табе мамачка казала:
— Не пі першага кубачка,
Не пі першага кубачка,
А ўзлей коніку на грыўку.
А ўзлей коніку на грыўку,
Каб яго грывачка заззяла,
Каб яго грывачка заззяла,
Каб цябе цешчухна пазнала,
Каб цябе цешчухна пазнала
Ды зялёным вінам вітала.

Дармідон *(да Алены).* Радуйся і весяліся, дшчэр мая вазлюбленная, паеліку персі твае, акі хлебы пшанічныя, уста гарацць, акі ружы квяцістыя. *(Хоча абняць.)*

Алена. Як вам не сорамна, бацюшка?

Б'е яго па руках, але той не здаецца.
Зося і Параска ўносяць на веку каравай і кладуць на стол.

Зося. Што, бацюшка, гарэлка падаграе кроў?

Дармідон. Кініць, Архіпіха, кініць!

Параска. Алена, адсунься дальш. Можаш на старасці скалечыць нам бацюшку.

Дармідон. Я і так калека, праваслаўныя.

Параска. А што ў вас не ў парадку, бацюшка?

Дармідон. Я ўдавец.

Параска. Ну, па гэтым дзеці будуць.

Зося. Ды кіньце вы, грахаводнікі. Давайце сватоў выпраўляць да маладой, а то сват Цімох яшчэ сам прыбяжыць.

Старэйшы сват. А праўда, сваткі, трэба-такі збірацца, бо бацькі маладой будуць злавацца.

Усе вылазяць з-за сталоў. Мікалай грае барыню. Усе пайшлі ў скокі. Шум, тупат, пад'яхкванне. Параска бярэ каравай, старэйшы сват біклагу, і ўсе выходзяць. На двары звіняць званкі, грае музыка. Паступова ўсё сціхае. У хаце засталіся поп і Алена.

Дармідон. Зміръіся, дшчэр мая, і пашкадуй бацю.

Цалуе Алену, тая рагоча і кудлаціць яму валасы, ён прыціскаецца да Алены і ад выпітай гарэлкі і ад моцнага ўзбуджэння траціць прытомнасць. Алена з піскам выбягае з хаты. Поп, увесь расхрыстаны, ляжыць на падлозе каля стала. У хату ўваходзяць Архіп, Зося і Сямён.

Зося *(паказвае на папа)*. Во, нарэзаўся.

Архіп. Рад, што нарваўся на дармаўшчыну.

Сямён. Яго трэба адсюль забраць. Нядобра — свяшчэннаслужыцель.

Архіп і Сямён валакуць папа ў другі пакой, ён спявае: «На рэках Вавілонскіх тама сядохам і плакахам...» Архіп і Сямён хутка вяртаюцца.

Сямён. Скажыце, як дзядзька Антон паводзіць сябе з сялянамі?

Архіп. Хіба сам сёння не пераканаўся?

Сямён. Па інструкцыі яго трэба арыштаваць.

Зося. Сынок, не чапай. Хай ён апрача нашых рук задавіцца. Хаця б не вяселле.

С я м ё н. А што гэта вы палезлі ў радню да Цімаха? Хіба не было лепшага выбару?

З о с я. Ды гэта ўсё Лявон.

А р х і п. Ён у нас з галавою. Грыпіна адна ў Цімаха. Лявон і думае з цягам часу стаць гаспадаром дзвюх гаспадарак. Ты ведаеш, які пасаг ён бярэ за Грыпінаю?

С я м ё н. Цікава.

А р х і п. Самую лепшую карову, пароcную свінню, дзве авечкі і жарабка. Ну што, які твой брат малодшы?

С я м ё н. Можа, і сваё не міла будзе.

Архіп і Зося ўстрывожаныя.

А р х і п. Што ты ведаеш, Сямён?

С я м ё н *(закурвае)*. Пакуль што цяжка сказаць што-небудзь пэўнае, распаўзліся гэтыя бальшавікі. Да царскага прастола падбіраюцца. Вядуць работу сярод рабочых, сялян і салдат. У акопах братанне паміж рускімі і немцамі. Крычаць: «Далоў вайну! Далоў *(аглядаецца, ціха)* цара!»

А р х і п. Ах, недавяркі! На цара-бацюхну руку падымаць!

З о с я. Што толькі робіцца!

С я м ё н. Яны думаюць яшчэ далей пайсці. Скінуўшы цара, узяцца за фабрыкантаў, памешчыкаў, за такіх, як вы.

А р х і п. А як вы?

С я м ё н. У першую чаргу.

А р х і п. Дык вось чаму Антон такі смелы?

С я м ё н. Я да яго дабяруся! Не палічуся, што родны дзядзька!

З о с я *(хрысціцца)*. Святая дзева Марыятраяручніца, абарані нас прачыстым пакровам сваім!

А р х і п. Майго дабра лёгка не возьмуць. Калі да гэтага будзе даходзіць, усё пушчу з дымам!

С я м ё н. Можаш не паспець, баця.

А р х і п *(з крыкам).* Ды што ты ведаеш? Кажы, сукін сын!

З о с я. Прычакалі абароны! *(Плача.)*

С я м ё н. Адкасніцеся! Мне самому трэба будзе надзейную шчыліну шукаць!

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

У Цімаховай хаце. Праз адчыненае акно відаць частка двара. Сталы застаўлены бутэлькамі з гарэлкаю і талеркамі з закускаю. За сталамі госці частуюцца. Тут Ц і м о х, М а т р у н а, П р у з ы н а, Г р ы п і н а ў вянку, М а р ы л я, іншыя д р у ж к і, З я н о ў я, Е в а, М а р ц э л я, Я з э п і іншыя. Шумна.

П р у з ы н а. Мяне нешта мой Янка кліча. *(Крычыць у акно.)* Зараз, сынок!

М а т р у н а. Што там у кума здарылася? Хаця б усё добра было.

Д р у ж к і *(спяваюць).*

Сядзіць Грыпінка за сталом,
Ды бягуць слёзачкі ручаём.
Ды бягуць слёзачкі ручаём,
А на яе мамачка пазірае,
А на яе мамачка пазірае,
Як боб, слёзачкі раняе.
Як боб, слёзачкі раняе.
— А дзіцятка маё маладое,
А дзіцятка маё маладое,
Я ж цябе расціла, гадавала,
Я ж цябе расціла, гадавала,
А такой жаласці не знала.

Уваходзіць П р у з ы н а.

М а т р у н а. Што там у вас, кума?

П р у з ы н а. У нас усё добра, але на сяле чаго што. Паслухаць, дык вушы вянуць.

Г а л а с ы. Ды што там?

— Цягне цётка Прузына!

— Гаварыце!

П р у з ы н а. Мой Янка ішоў з грыбоў і бачыў: у Архіпавых госці жыта жнуць.

Усе здзіўлены.

Г а л а с ы. Цётка Прузына, відаць, не пачула нечага.

— Няма ў людзей сумлення!

Ц і м о х. Гэта ж сорам, ды годзе: запрасіць людзей на вяселле, а потым прымусіць жаць!

Я з э п. Во, вучыся, Цімох, у свата. Адразу разбагацееш.

М а р ы л я. Я пра гэта ведала, ды не хацела казаць, каб настрой не псаваць гасцям. Некалькі чалавек з Падліпак уцяклі дамоў, а не пайшлі жаць.

П р у з ы н а. Во, Архіп... Нават з вяселля захацеў мець карысць.

Е в а. Няўжо і Лявон згадзіўся?

З я н о ў я. Якое дрэва, такі і клін, які бацька, такі і сын.

М а т р у н а. Зараз сватоў не дачакаешся: да вечара дацягнуць.

М а р ы л я. Вось дзіва. Пакуль госці пачысцяцца ды голад прагоняць.

П р у з ы н а. А можа, галодных гасцей і сюды прыпрэ? Кум Цімох і кума Матруна, майце на ўвазе.

Ц і м о х. А, годзе ўжо аб гэтым. Лепш частуйцеся.

Г о л а с з вуліцы. Сваты едуць!

— Ужо блізка!

Усе замітусіліся.

Ц і м о х. Мужчыны, бяжыце вароты запірайце!

Усе рынуліся на двор. Да варот пад'язджаюць сваты. Чуваць званкі, музыка і песня.

Усе (*спяваюць*).
А ў гордае цешчы,
А ў гордае цешчы
Стой, заяц, за варотамі.
Стой, зяць, за варотамі,
Стой, зяць, за цясовымі.
Стой, зяць, за цясовымі,
А на зяця ды мяцель мяце.
А на зяця ды мяцель мяце,
А на зяця ды мяцель мяце,
А на зяця дробны дождж ідзе.
А на зяця дробны дождж ідзе,
А на зяця дробны дождж ідзе.
Укрыйся, зяцю, укрыйся,
Укрыйся, зяцю, укрыйся,
Укрыйся, зяцю, укрыйся
Ды кунямі ўбярыся.
Ды кунямі ўбярыся,
Ды кунямі ўбярыся,
Ды кунямі, бабрамі
Ды кунямі, бабрамі,
Ды кунямі, бабрамі,
Чорнымі ды сабалямі.

Праз адчыненае акно відаць, як размаўляюць сваты.

Старэйшы сват. Людцы добрыя, ці не пусцілі б пераначаваць?

Цімох. Здалёк жа самі?

Старэйшы сват. З Падкапытава. А хто такі, што запытвае?

Цімох. Бацька той ягамосці, што прыязджалі ўчора ў госці.

Старэйшы сват. О, дык мы ж знаёмыя. Дарогі нашы вядомыя. Дык адчыняйце хутчэй дзверы, бо прысталі мы без меры.

Цімох.
Замкі нашы паржавелі,

Даўно сала ўжо не елі.
Ім патрэбна ўжо падмочка,
Не агорне тады ночка.
Старэйшы сват.
Ну, трымайце свае чаркі,
Каб у нас не было сваркі.
Хай лепш будзе ўсё гладка,
Дык куляйце чарку, сватка.

Налівае, выпіваюць. Адчыняюць вароты. Усе, што на двары, ідуць у хату. Маладая і дружкі садзяцца за кутні стол. Матруна з бутэлькаю і чаркаю, а Прузына з караваем падыходзяць да дзвярэй, у якія ўваходзяць Лявон і Параска з караваем.

Матруна *(налівае чарку)*. Ну, зяцька, вінам і хлебам цябе вітаю і шчасця жадаю.

Падае Лявону чарку. Той выпівае, кідае ў чарку сярэбраны рубель і вяртае цешчы.

Прузына. А зараз караваі падымаем і маладым здароўя жадаем.

Прузына і Параска падымаюць караваі. І вось пайшла барацьба: чый каравай наверсе апынiцца. Ля акна на двары і каля расчыненых дзвярэй у сенцах многа людзей. Усе захоплены барацьбой каравайніц.

Крыкі. Не паддавайся, Прузына!
— Параска, падцягніся, калі ласка!

Параска, вышэйшая ростам і спрытнейшая, перамагла: каравай маладога апынуўся наверсе.

Крыкі. Лявонаў верх!
— Вось знайшоў дзіва, вядома, Лявонаў!

Смех.
Хата напаўняецца людзьмі.

Дружкі *(спяваюць)*.
Ой, сватове-гардове,
Чаго вы спазніліся?
Чаго вы спазніліся?

Ці сабак бараніліся?
Ці сабак бараніліся?
Ці свата ды не ведалі?
Ці свата ды не ведалі?
У чужы хлеў ды заехалі?
У чужы хлеў ды заехалі?
А быку руку далі.
А быку руку далі,
Казе шапку вы знялі.
Казе шапку вы знялі.
З свіннёю павіталіся.
З свіннёю павіталіся,
Пра здароўе папыталіся.

Старэйшы сват. А вы, шчабятушкі, усё спяваеце і нас да сябе заклікаеце?

Марыля. Не, мы вас не клікалі. Нам і адным добра.

Старэйшы сват. Сапраўды? Ой маніш, дружка, маніш. А можа, яшчэ што дабавіш?

Марыля. А тое дабаўлю: не падлабуньвайцеся, бо нас гэтым не купіце.

Старэйшы сват. Вось дык зеллейка папалася мне ў гэта вяселлейка. Ну, хлопцы, самі тупайце каля іх, а я пайду да старых.

Адыходзіць да жанчын, з якімі паціху размаўляе.

Васіль. Хіба вы нас не пазналі? Мы ўжо старыя знаёмыя. Дык пусціце нас да сябе ў кампанію.

Марыля. Заплаціце, тады сядзеце.

Лявон. Няўжо і Грыпіна мяне не пазнала? Здаецца, учора мы так блізенька пазнаёміліся.

Марыля. Можа, Грыпіне і пажадана было б, каб Лявон блізенька каля яе сеў, але зараз не яе воля, а наша. Думаеце, мы маладую вам задарам аддамо?

Васіль. А вы хіба такія дарагія? Многа грошай, здаецца, вы не здолееце палічыць?

Марыля. Ну добра, давайце нам грошы датуль, пакуль мы здолеем палічыць.

Васіль *(дастае грошы і падае).* Вось маеце.

Дружкі *(спяваюць).*

Ой нашто нам гэта,
Вазьмі сабе гэта,
Ідзі ты на места,
Купі сабе мыла,
Памый сваё рыла,
Каб жонка любіла,
Каб дзеці пазналі,
Каб бацькам назвалі.

Васіль. А хіба я запэцканы?

Марыля. Вазьмі люстэрка ды паўглядайся.

Васіль. Баюся, яшчэ за гэта грошы папросіце.

Марыля. Але ж, відаць, і багаты наш бруснік: толькі аб грошах і гаворыць, а як прыйдзецца даць, дык лепш галаву яму зняць!

Смех.

Васіль. Хто грошы ў кішэні носіць, той есці не просіць!

Марыля. Ого, добры з цябе гаспадар будзе. Дзяўчаты, трэба мець на ўвазе!

Смех.

Васіль. Вы дорага цэніце сваю маладую, не горшы і наш малады.

Дружкі *(спяваюць).*

Ваш малады — пень гарэлы,
Наша малада, як сыр белы.
Ваш малады, як засланка,
Наша малада, як ластаўка.
Лявонка на коніку,
Як таракан ў апалоніку.
Лявонка на пасадзе,

Як жаба ў расадзе.

Марыля. Ну, хопіць ці яшчэ падсыпаць?

Да стала вяртаецца старэйшы сват.

Старэйшы сват. Ну што, пагадзіліся? Глядзіце, каб не памыліліся.

Марыля. Не бойцеся, сват, тыя грошы, што яны нам давалі, і сляпая курыца палічыць.

Старэйшы сват. Ах, блазны вы, блазны! Вось я чалавек адважны. Палажу на брата па дваццатцы, годзе ўжо тут нам матацца.

Марыля бярэ грошы.

Дружкі *(спяваюць)*.
Сват-біклага дукаван,
У жоўты каптан адзяван.
Боты яго скрыпяць хараша,
Ад яго гарэлкі горача.

Старэйшы сват. Калі пахвалілі маю сівушку, дык трэба даць вам па кілішку. *(Дае дружкам гарэлку.)* А зараз, здаецца, ■ вамі квіты? Во, і я шчэ не спавіты.

Грыпіна і дружка вылазяць з-за стала.

Цімох. Проша за сталы, сватове.

Старэйшы сват і тыя, хто з ім прыехаў, садзяцца за сталы. Шумна.

Старэйшы сват. Э, сват і сваццця, так не гадзіцца. Спачатку трэба пахмяліцца. Потым будзем хлеб-соль мяці ды сватоў успамінаці. *(Налівае тры чаркі. Адну бярэ сам, а дзве падае Цімаху і Матруне.)*
Дык трымайцеся, сват і сваццця,
Няхай шчасце жыве ў хаце.

Цімох. Піце і закусвайце, сваткі, на здароўе.

Жанчыны *(спяваюць)*.

Ой, чочу-чочу, я гарэлкі хочу,
Нямножкі — трошкі —
З апалонік ложку.
Хоць я не ўп'юся — развесялюся,
З добрымі людзьмі разгаманюся.
Наша сваццця дамавая —
Мядзведзіца лугавая,
Яна, ходзячы мармоча,
З намі гаварыць не хоча.

М а т р у н а. Я ж, здаецца, сваццейкі, як найлепш.

П а р а с к а. Вядома, сваццейка, напіліся і плятуць абы-што. *(Спявае.)*

А ўсё няпраўда людская,
Ды казалі — сваццця гордая.
Ды казалі — сваццця гордая,
Ажно наша сваццця — вішанька.
Ажно наша сваццця — вішанька,
Прыступілася блізенька.
Прыступілася блізенька
Ды гаворыць з намі харашэнька.
Вып'ем, сваццця.

У с е. Вып'ем за сваццю!

Усе п'юць.

С т а р э й ш ы с в а т. Во, гэта дык вяселле, а ўсё робіць гэта вось зелле *(паказвае на бутэльку з гарэлкаю)*.

Ж а н ч ы н ы *(спяваюць)*.

Ой сват сваццці
Паплёў лапці
З тоўстых лык,
Ходзіць сваццця
Абдуўшыся, як індык.

С т а р э й ш ы с в а т.

Нам мала цікава,
Якая сваццця старая.
Справа цікавейшая,
Якая гаспадыня маладзейшая.

Усе. Просім сюды маладую! Хай прывыкае да нас!

Уваходзяць Грыпіна і дружкі. Яны садзяцца за кутні стол, Грыпіна поплеч з Лявонам.

Старэйшы сват. Як Грыпіна прыйшла, быццам зорачка ўзышла.

Жанчыны *(спяваюць)*.

А казалі, сват наш вельмі харош,
А ў свата доўгі, буслаў нос.
А ў свата лыса галава
Ды казліна рыжа барада.
Барадою, сватка, патрасі,
Маладзіцам чаркі паднясі.
Калі, сват, гарэлкі не дасі,
Караваю трасцу ты з'ясі.

Старэйшы сват.

Вось дык дачакаўся сват пашаны.
Сват-біклага апляваны.
Дасталося носу, барадзе.
Хто ж мне дапаможа ў бядзе?

Марыля. Не бядуй, сват, дружкі выручаць.

Старэйшы сват. Дык трымайце чаркі, шчабятухі, дам вам горкае сівухі.

Налівае дружкам.

Марыля. Праўда, горкая сватава гарэлка! Горка!

Усе. Горка! Горка!! Горка!!!

Усе глядзяць на маладых. Грыпіна апусціла галаву. Крыкі ўсё настойлівей. Лявон і Грыпіна цалуюцца.

Марыля *(прабуе гарэлку)*. Ой, салодкая! Ну што, сват, выручылі?

Старэйшы сват. Дзякую вам, дружкі. Вось вам шчэ на стужкі. *(Дае грошы.)*

Параска. Наш музыка заснуў.

Старэйшы сват.

Рэж, Мікола, на ўсе застаўкі,
Хай праветрацца нашы ластаўкі.

Мікола іграе кадрылю, моладзь танцуе. Потым пераходзяць да «Мяцеліцы», да «Юрачкі».

Я з э п. Ану, блазнота, расступіцеся! Дайце месца старым!

Музыка іграе барыню. Язэп танцуе, потым ідзе ўпрысядкі і расцягнуўся сярод хаты.

М а р ц э л я. Ану, шантрапа, шырэй круг Марцэлі! *(Сама прыпявае, сама і скача, махаючы хусцінкай.)*

Ой ты стары, я молада,
Вядзі мяне да горада.
У горадзе прадасі,
Балабушак пад'ясі.
Ой, дзедка мой, ты затула мая.
Я за цябе затулюся
Ды нікога не баюся.
Ходзіць бусел па балоце,
Выглядае чаплю,
Ці ўночы, ці ўпаўночы
Да мілага траплю.

Смех, шум.

В ы к р ы к і. Вось дык Марцэля!
— Маладых за пояс заткнула!
— Ды яны з Язэпам добрая пара.
Я з э п. А мо не? Я паваліўся, бо за штаны свае зачапіўся. *(Смех.)*
Е в а. Як гэта можна за свае штаны зачапіцца?
Я з э п. Ты не зачэпішся, бо ў цябе іх няма.
Е в а. Ёсць!
Я з э п. На табе?
Е в а. На мне.
Я з э п. Пакажы!

Накіроўваецца да Евы, тая з крыкам хаваецца сярод жанчын, рогат.

Старэйшы сват.
Ну, годзе ўжо жартаваць,
Пара і аб доме падбаць.
Трэба нам ужо збірацца,
Бо будуць людзі з нас смяяцца,
Што гэтак тут мы загуляліся,
Шчэ падумаюць, што дому ацураліся.
Гэй, свацці, рабіце што трэба з маладою
Ды паедзем дамоў вечарыною.

Прузына ўносіць каравай і кладзе яго на стол.

Язэп *(сядае за стол каля каравая).* Дзе тыя бацька і маці, браты і сёстры, дзядзькі і цёткі, дзяды запечныя, бабулі стрыечныя, суседзі жанатыя і нежанатыя, хоць трохі і скупаватыя,— просім, каб яны ласкавы былі ды сюды прыбылі — маладую адарылі.

Да стала падыходзяць Цімох, Матруна, Прузына, Зяноўя, Ева, радня, суседзі.

Дружкі *(спяваюць).*
А казалі — ў бродзе
Ды вадзіцы многа,
Сталі коні паіці,
А няма вадзіцы.
Дзе ж тая вадзіца
Ды падзявалася?
Па ўсіх крыніцах
Парасцякалася.
Казалі — ў Грыпінкі
Ды радзіны многа,
Сталі каравай дзяліці,
А няма нікога.
Дзе ж тая радзіна
Ды падзявалася?
Па ўсіх куточках
Ды пахавалася.

Цімох. Дару вас, дзеці, чым змога: кароваю, параю авечак і свіннёю. Разжывайцеся на здароўе і нас, старых, не забывайце.

Лявон. Пачакайце, а дзе жарабок?

Цімох. А з чым жа мы застанёмся?

Лявон. Не мая справа.

Старэйшы сват. Кінь, Лявон. Пасаромейся людзей.

Лявон. Я ад свайго не адступлюся.

Цімох. Лявон, Грыпіна ў нас адна. Усё наша вам застанецца.

Лявон. Тады тое і будзе.

Цімох. Як хочаш, а жарабка я не аддам.

Лявон. Тады не трэба мне ваша дачка. Пусціце!

Выскоквае з-за стала і амаль выбягае з хаты. Усе як громам аглушаныя. Грыпіна вылазіць з-за стала.

Матруна *(кідаючыся да дачкі)*. Дачушка мая, абняславіў ён цябе. *(Плача.)*

Грыпіна. Пакінь, мама. Уцёк — туды яму і дарога. Лепш буду дома вам памочніцаю, чым у Архіпавых парабчанкаю.

Матруна. Дык вы ж павянчаныя.

Грыпіна *(зрывае з галавы вянок і кідае)*. Вось мы і развенчаны!

Усе аслупянелі.

Прузына. Няскончанае вяселле.

## КАРЦІНА ЧАЦВЕРТАЯ

У Цімаховай хаце. Васіль, Грыпіна.

Васіль. Грыпіна, скажы мне хоць адно слоўка. *(Грыпіна маўчыць.)* Тады глянь на мяне хоць адным вокам.

Грыпіна *(смяецца)*. А як гэта глядзець адным вокам?

Васіль. Я і сам не ведаю.

Грыпіна. Гэта, знаць, адно вока трэба закрыць? Вось зараз я пагляджу на цябе адным вокам. *(Закрывае адно вока і глядзіць на*

*Васіля.)* Ды ты ж той самы: прыгожы, любы, з пакручастым чубам.

Васіль. А цяпер я пагляджу адным вокам. *(Глядзіць.)* Няпраўда, ты яшчэ прыгажэйшая, мілейшая.

Грыпіна. Дзе ж ты раней быў? Чаму я табе да сённяшняга дня не была такой?

Васіль. Для мяне ты заўсёды такая.

Грыпіна. Чаму ж маўчаў?

Васіль. Баяўся спужаць сваё шчасце.

Грыпіна. Баяўся, а яно ўзяло ды спужалася.

Васіль. Гэта часова. Я веру, што яно яшчэ больш расквітнее.

Грыпіна. Звязаў ён мяне, агіднік, гэтым шлюбам.

Васіль. Бяры развод.

Грыпіна. Дзе? У каго?

Васіль. Дык абыдземся і без разводу.

Грыпіна. Абняславіў ён мяне. А зараз распускае хлусню, што жыў са мною, як з жонкаю.

Васіль. Але ж гэта няпраўда?

Грыпіна. А каб была праўда? *(Глядзіць Васілю ў вочы.)*

Васіль. Усё роўна ты мне дарагая.

Грыпіна. Няпраўда гэта, Васіль. Павер мне.

Васіль. Веру... *(Прыціскае Грыпіну да грудзей і цалуе яе.)*

Грыпіна. І як гэта ў нас выйшла, не магу апамятацца.

Васіль. Вельмі проста. Багацце Лявона асляпіла цябе і тваіх бацькоў. Памятаеш, што было на гулянках? Лявон заўсёды прыходзіў гэтакім зухам. Ва ўсім новым, крамным, пазалочаны ланцужок ад гадзінніка, каляровы насавічок у кішэньцы на грудзях да паловы выцягнуты; як люстэрка, хромавыя боты са скры-

пам. Трымаў сябе гаспадаром. Толькі ён заказваў танцы, на якія запрашаў пераважна цябе... Ці ж да Васіля было, які ў лапленай жакетцы і ў дзіравых ботах стаяў недзе ў кутку і пакутаваў.

Грыпіна. Усё праўда, Васіль. Нейкі туман заслаў быў мне вочы. Хіба я не вылучала цябе з усіх хлопцаў? Яшчэ коні вадзілі пасвіць, ты падабаўся мне. Мы выраслі. Ты пачаў часта адлучацца з дому: то аратым быў у пана, то плытагонам. А тут пачаў прыставаць ён... Заўважылі гэта мае бацькі і давай нашэптваць мне, што ў Архіпавых будзе рай. Васіль, ты зараз мяне павінен ненавідзець.

Васіль. Я? Цябе? За што?

Грыпіна. Дык глядзі ж, ніколі не ўздумай упікаць мяне гэтым, бо ведай, што ты мне ўсадзіш нож у сэрца.

Васіль. Выходзіць, ты не верыш у маю шчырасць? Так? Гэта мне балюча.

Грыпіна. Веру, веру, родны мой! *(Абвівае рукамі яго шыю.)* Ой, нехта ідзе! *(Адскочыла ад Васіля і папраўляе на галаве хустку.)*

Уваходзіць Матруна.

Матруна. Я думала, што нікога няма, а тут аж двое. Добры дзень, Васілька.

Васіль. Добры дзень, цётка Матруна.

Матруна. Дзякуй, што нас не мінаеш.

Васіль. А чаму гэта я павінен вас мінаць? Хіба вы мне дрэннае што зрабілі?

Матруна. Яшчэ якое!

Васіль. Плюньце і растапчыце.

Матруна *(паказвае на дачку)*. Вось ні дзеўка, ні замужняя. Хто яе зараз возьме?

Васіль. Я вазьму. Абы згадзілася Грыпіна. А дзе дзядзька Цімох?

Матруна. Ён у гародзе. Зараз прыйдзе.

Васіль. Я пачакаю.

**Матруна.** Ён табе патрэбен?

**Васіль.** Вельмі.

**Матруна.** Па якой жа гэта справе?

**Васіль.** Пакуль сакрэт.

**Грыпіна.** А я дагадваюся.

**Васіль.** Ніколі не адгадаеш.

**Грыпіна.** А я ўжо адгадала!

**Васіль.** Няпраўда!

**Грыпіна.** Адгадала!

**Васіль.** Не адгадала!

**Грыпіна** *(закрывае Васілю рот)*. Адгадала.

Васіль адмоўна трасе галавою. Матруна з вялікаю ўцехаю глядзіць на іх. Уваходзіць Цімох.

**Цімох.** Дачушка, завошта ж ты яго так?

Грыпіна адкрывае рот Васілю.

**Цімох.** Добры дзень, Васіль.

**Васіль.** Добры дзень, дзядзька Цімох.

**Цімох.** Сядай, госцем будзеш.

**Васіль.** Я не хачу быць толькі госцем.

**Цімох.** Нешта я цябе, дзяціна, не разумею. Кажы ясней.

**Васіль.** Дзядзька Цімох і цётка Матруна, я прыйшоў прасіць, каб вы аддалі за мяне Грыпіну.

**Цімох.** А як Грыпіна?

**Грыпіна** *(усміхаючыся)*. Аддавай, татка, будзеш мець добрага зяця.

**Цімох.** Абы быў добры муж.

**Васіль.** Дык ваша слова?

**Цімох.** Благаслаўляю вас, дзеці.

**Матруна.** Хай будзе шчаслівая ваша доля.

**Цімох.** А як з вяселлем?

**Васіль.** Вяселля не будзе. У маіх бацькоў, ведаеце, якія дастаткі. Хлеба ніколі не хапае да новага. Яны будуць настойваць, каб

зрабіць усё, як людзі, але мне не хочацца залазіць у кабалу да багацеяў.

Матруна. Хіба думаеце жыць без вянца?

Цімох. Каб абвянчацца, спачатку трэба развесціся. А хто табе дасць той развод?

Грыпіна. Што мне даў вянец? Адну ганьбу і няславу. Пражывём і без вянца.

Матруна. Дык гэта ж мудрэй, як усе людзі. Цімох, чаго ж ты маўчыш?

Цімох. А што мне казаць? Ім жыць.

Матруна. Што ж людзі скажуць?

Грыпіна. Ды яны ўжо кажуць, каб я пераходзіла жыць да Лявона. Згодна, мама?!

Матруна. Да Лявона? Не, маё дзіцятка, хутчэй вось гэтымі рукамі, якія насілі і песталі цябе маленькую, задушу, чым пойдзеш да Архіпавых. Жывіце як знаеце.

Цімох. Вось што я вам скажу, дзеці: мы ўжо старэем. Грыпіна ў нас адна. Так што, сынок, пераходзь назаўсёды да нас, і гаспадарце на здароўе. І нашу старасць дагледзіце.

Грыпіна *(кідаецца да бацькі і абнімае яго)*. Татачка, родны, якая я шчаслівая! *(Потым бяжыць да маці і ад радасці плача ў яе на грудзях.)*

Васіль стаіць разгублены.

Цімох *(да Васіля)*. Чаго ж ты стаіш, як сіраціна? Ідзі да мяне.

Васіль падыходзіць да Цімаха і цалуе яму руку, потым цалуюцца.

Васіль. Дзякуй вам, тата.

Падыходзіць да Матруны і прарабляе тое самае.

Дзякуй, мама.

Цімох. Распранайся, малады гаспадар. А вы, гаспадыні, нясіце на стол усё, што ёсць.

Дастае з шафы бутэльку і ставіць на стол. Жанчыны прыносяць закуску.

Матруна. Зяцёк, залазь за стол, ты ж дома.

Усе садзяцца.

Цімох *(налівае чаркі)*. Дык хай будзе згода і шчасце ў вашым жыцці, дзеці.

Васіль. Хай я буду добрым мужам для Грыпіны, а для вас — добрым сынам.

Уваходзіць Лявон. Усе здзіўлены.

Лявон. Ці не вяселле канчаеце?

Цімох. Спачатку прывітайся як чалавек.

Лявон. Нешта ты, Васіль, па-гаспадарску рассеўся за сталом?

Васіль. Бо маю на гэта поўнае права. А табе зайздросна?

Лявон. З якога ж гэта часу ты займеў гэта поўнае права?

Васіль. З сённяшняга дня.

Лявон. Праўда, Грыпіна?

Грыпіна. Праўда: Васіль — мой муж.

Лявон. Жартуеш, маладзіца: твой адзіны муж — во! *(Паказвае на сябе.)*

Грыпіна. Ніколі ты ім не быў і не будзеш.

Лявон. Мы ж венчаныя.

Грыпіна. Я лічу сваім мужам таго, хто сабе за жонку бярэ мяне, а не пасаг.

Лявон. Ого, якая ты стала разумная!

Васіль. А ты думаў, што толькі Архіп з сынамі разумныя?

Цімох. Чаго ты прыйшоў, Лявон?

Лявон. Я прыйшоў да сваёй жонкі.

Грыпіна. Пашукай з двума жарабкамі.

Лявон. Мне даспадобы ты.

Матруна. Позна, чалавеча, адумаўся. Вось наш зяць *(паказвае на Васіля)*.

Лявон *(рагоча)*. Зяць... Зяць — старац. Ды ў яго ж хаце не будзе дзе ложак паставіць.

Цімох *(паказвае вакол)*. Месца хопіць.

Л я в о н *(уражаны)*. Ён у вас будзе жыць?!

Ц і м о х. Усё наша — іх. Хай жывуць нам на радасць і сабе на ўцеху.

Л я в о н *(злосны)*. Не, гэтаму не быць!

Ц і м о х. А хто ты такі? Што за гэрц такі?

Л я в о н. Лявон Архіпавіч Галын, ваш шаноўны зяць!

Ц і м о х *(паказвае на Васіля)*. Вось мой сапраўдны шаноўны зяць.

Л я в о н *(сунуўся да Васіля)*. А ты мне папярок дарогі не станавіся!

В а с і л ь. Нашы дарогі розныя, і сысціся яны не могуць.

Л я в о н. Дык чаго лезеш на маю?

В а с і л ь. Дарога кулака мяне не цягне. Ідзі сабе па ёй, пакуль ідзецца.

Л я в о н. Гэта пагроза?

В а с і л ь. Напамінак.

Л я в о н *(устрывожаны)*. На што?!

В а с і л ь. Што гэта ваша дарога прывядзе да пагібелі.

Л я в о н *(у шаленстве)*. Дык хутчэй жа ты здохнеш!

Хапае нож са стала і замахваецца на Васіля, але той маланкава хапае Лявона за паднятую руку вышэй локця і так сціскае, што нож падае на падлогу. Перапуджаныя жанчыны бегаюць па хаце. Цімох стаіць разгублены.

В а с і л ь. Э, дык ты гэтак? Зараз мой чарод. *(Адной рукой трымае за каршэнь Лявона, а ў другую бярэ нож.)* Кажы, падлюга, ёсць кашуля на смерць?

Г р ы п і н а. Васілёк, родны мой! Не азмрочвай нашай радасці. Адштурхні ад сябе гэту погань!

Ц і м о х. Так, Васіль, не пэцкай сваіх чэсных рук. Прыйдзе і на іх час.

В а с і л ь. Пакуль прыйдзе той час, дык бачыце, што яны думаюць з намі зрабіць.

Штурхнуў Лявона так, што той пляснуўся аж каля парога. Грыпіна засланяе Васіля, які асцярожна адводзіць яе ўбок. Лявон падымаецца з падлогі. Ён аж пазелянеў і ад злосці, і ад абразы, і, магчыма, ад болю. Скрыгануўшы зубамі, ён выходзіць, моцна грукнуўшы дзвярамі.

Матруна. Нібы страшэнны сон прысніўся.

Грыпіна. Васіль, яны табе адпомсцяць!

Васіль. Трэба быць асцярожным. Ды ты не бойся. Чаго ўся дрыжыш? *(Прыгарнуў яе да сябе.)*

Цімох. Яшчэ і гэты сабака Сямён накасаўся.

Васіль. Як дзядзька Антон кажа, ён з'явіўся падрыхтаваць сабе дзірку.

Уваходзяць Архіп і Зося.

Архіп. Дзень добры ў хату.

Цімох. Добры дзень.

Архіп. Што гэта вы нешта ўзрушаны? Як пеўні пасля бойкі. І Лявон пабег як ашпараны.

Цімох. Прыйшоў у чужую хату і хваліцца, што можа быць бандытам.

Архіп. Хто?

Матруна. Ды ваша золата.

Архіп. Лявон? Дык ён жа прыйшоў не ў чужую хату, а як зяць.

Цімох *(паказвае на Васіля)*. Вось наш зяць.

Архіп. Ён ваш зяць?

Рагоча, Зося таксама.

Цімох. Смейцеся сабе на здароўе. Васіль, ідзі жарабка пакармі.

Васіль. Тата, а што яму даць?

Цімох. Усып з гарнец аўса.

Васіль выходзіць.

А р х і п. Вы не жартуеце?

Ц і м о х. Якія там жарты.

А р х і п. А царква?

З о с я. А вянчанне?

Ц і м о х. А жарабок?

М а т р у н а. А здзек з нас?

А р х і п. Даўно ён у вас жыве?

Ц і м о х. З сённяшняга дня.

А р х і п. Ну і добра. *(Задаволены.)* Сват, ёсць адна важная справа.

Уваходзіць В а с і л ь. Архіп змоўк.

Ц і м о х. Ніякі я вам не сват і прашу мяне так не зваць. Можаце гаварыць пры Васілю, бо ён наш сямейнік.

А р х і п. Цімох і Матруна, паслухайце, што я вам скажу: бярыце да сябе Лявона. Мы ўпрыдачу дамо валоку зямлі і пяць дзесяцін лесу. Хай жывуць і нашу дабрату ўспамінаюць.

Г р ы п і н а. А з кім жа Лявон будзе жыць?

А р х і п. У яго ёсць жонка.

Г р ы п і н а. Цікава, калі гэта ён яе набыў?

А р х і п. Як шлюб браў.

Г р ы п і н а. Ён жа ад яе збег і гэтым шлюб скасаваў.

Ц і м о х. Пачакай, Грыпіна. Жонка і дачка, якое шчасце валіць да нас! Хутчэй у ногі дабрадзею!

Архіп і Зося прымаюць усё гэта за праўду. Яны рады. Матруна, Грыпіна і Васіль разгублены.

Ц і м о х. Ага, вы рады! Думаеце, што Цімох паквапіцца на вашу зямлю і лес? Не патрэбны яны нам! Давіцеся імі самі!

В а с і л ь. Хітра прыдумана. Відаць, і Сямён дапамагаў? Вы дагадаліся, куды яны гнуць? Аддамо валоку зямлі і пяць дзесяцін лесу за Лявонам, а там, калі прыйдзе час разлічвацца ім за свае грахі, яны прыкінуцца

авечкамі і прабляюць: «Якія ж мы кулакі? Паглядзіце, людзі добрыя: і зямлі ў нас не больш, як у некаторых іншых, і ні з кога мы крыві не смакталі». Праўда, дзядзька Архіп?

Архіп. Ды гэта ж рэвалюцыя!

Уваходзіць Сямён. Усе здзіўлены.

Сямён *(не прывітаўся, да сваіх)*. Хутчэй дадому!

Васіль. Ведайце, дзядзька Архіп, ніякія выкрунтасы вам не дапамогуць. Вы асуджаны гісторыяй.

Сямён. Што такое?

Архіп. Рэвалюцыю разводзіць.

Сямён *(да Васіля)*. Ты арыштаваны.

Убягае Прузына.

Прузына. Цара скінулі!!

Усе. Цара?

Прузына. Міколку!

Сямён. Ты арыштавана.

Уваходзіць Антон.

Антон. Чулі? Рэвалюцыя!!

Сямён. Дзядзька Антон, ты арыштаваны.

Цімох. Гэта ўжо трэці.

Антон. Не, небажок, скончыўся ваш час. Настала наша пара. *(Выхапіў з кішэні наган і настаўляе на Сямёна.)* Рукі ўгору!

Архіп і Зося. Швагра, ты звар'яцеў! А братачка, а родненькі! Што ты надумаў!

Антон. Калі за трэцім разам не падымеш рук, буду страляць. Раз, два...

Зося. Сынок, падымай!

Сямён падымае рукі.

Антон. Васіль, абяззброй яго!

Васіль здымае з Сямёна кабуру.

Заслона.

1920

# ЧЫРВОНЫЯ КВЕТКІ БЕЛАРУСІ

**Драма ў 2-х дзеях**

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Андрэй, малады вясковы хлопец, 26 год.
Надзея, прыгожая дзяўчына, 22 гады.
Агей, бацька Андрэя, 60 год.
Сымон, бацька Надзеі, 55 год.
Паніч, памешчык суседняга маёнтка, 30 год.
Ганна, Наста, Аўдуля — таварышкі Надзеі.
Мірон, Панас — таварышы Андрэя.
Тодар, Пятрок, Астап — сяляне.
Міхась, Самусь — дваровыя хлопцы.
Міхась Рудовіч, студэнт Мар'інагорскага тэхнікума.
Зося, сястра Рудовіча.
Хлапец.
Паручнік.
Белапольскія салдаты.
Чырвонаармейцы.
Баравік, фальварковец.
Сяляне.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Лес. Светлы, цёплы веснавы дзень. Шчабечуць птушкі, кукуе зязюля. Як адчыняецца заслона, чуваць песня, якую спяваюць дзяўчаты, збіраючы грыбы.

А ў лесе, лесе
Ды на верасе...
Вясна-красна на ўвесь свет.
Малады там хлопец
Ды каня пасе,
Вясна-красна на ўвесь свет.
А яму дзяўчына
Ды абед нясе...
Вясна-красна на ўвесь свет.
Сядзем разам, любы, паабедаем...
Вясна-красна на ўвесь свет.
А я па абедзе скажу табе дзіва...
Вясна-красна на ўвесь свет.

Песня абрываецца. Чуваць, як крычыць адна з дзяўчат: «Ой, заяц!» Зараз жа заяхкаў сабака. Выбягаюць Надзея і Аўдуля.

Надзея. Аўдулька, любка, як жа я спалохалася! Ледзь-ледзь не наступіла на зайца. Як падскочыць ён ды бегчы. А ззаду ў мяне сабака: «Гаў! Гаў! Ях! Ях!» І чый гэта? Вялізны, кудлаты. У нашай вёсцы такога няма. Няўжо гэта з маёнтка? Можа, паніч на паляванні?

Аўдуля. Ай! Во дабрачок сядзіць. *(Кідаецца да куста ядлоўцу.)* А якія ж прыгожанькі! Высыпальнічак.

Надзея. А я зусім не назбірала грыбоў. Табе вось шанцуе. З-пад носа ў мяне хапаеш.

Аўдуля. Каму што, Надзейка: мне шанцуе ў дабраках, а табе — у дзецюках. Адзін Андрэй чаго варты, а тут яшчэ і паніч. Шчаслівая ты.

Надзея. Кінь, Аўдулька, мне зайздросціць. Праўда, люб мне Андрэй. Не такі ён нейкі, як іншыя хлопцы. Калі скажа слова,

дык яно адразу да сэрца ідзе. А ў вачах стольկі чароўнасці і пяшчоты. Іншы раз задумаецца: стаіць, як дуб малады. Ні адна галінка не скранецца. Глядзіш — і бачыш, што на твары ў яго нейкая важная думка блукае. Не, Аўдулька, што хочаш кажы, а захавана нешта ў яго сэрцы. А гэты... паніч. Не ведаю, чаго ён да мяне чэпіцца. Колькі разоў казала, каб не лез, а ён... Як той слімак. Андрэй ужо ведае аб гэтым. Чуе маё сэрца, што быць бядзе.

Чуваць шорах.

А ў д у л я. Ой, нехта ідзе!
Н а д з е я. Ён! Бяжым!

Выскоквае п а н і ч са стрэльбай.

П а н і ч. Э, не ўцечаце. Ды чаго вы палохаецеся? Хіба ж я воўк? *(Падыходзіць да Надзеі і працягвае ёй кветкі.)* Вось, Надзейка, паглядзі, як прыемна пахнуць. Дзеля цябе ў самую твань лазіў.

А ў д у л я адыходзіць.

Н а д з е я. Ніхто не прасіў вас лазіць, і не трэба мне вашы кветкі. Захачу — сама нарву.

П а н і ч. І чаго ты заўсёды такая злосная? Няўжо і з Андрэем ты такая?

Н а д з е я. Якая я з Андрэем, да гэтага панічу няма ніякай справы. А вас апошні раз прашу — не чапіцеся да мяне, усё роўна з гэтага нічога не будзе.

П а н і ч. Эх, Надзейка, сама ты ад свайго шчасця адмаўляешся. Ты падумай, кім бы стала? Паўзірайся, якая ты зараз? І босая, і ўчарнелая. А ў мяне ты цвіла б, як ружа.

Н а д з е я. Не клапаціцеся пра мяне, калі ласка. Цяпер я хоць і босая, але здаровая, хоць і ўчарнелая, але вясёлая. Ды не змагла б я хадзіць па вашых коўзкіх падлогах. Лепей хай

мяне сонца пячэ ў полі, чым халадкі церці ў вашых пакоях.

П а н і ч. Дурная — дурное і пляце.

Н а д з е я. Дык чаго вам з дурнымі чапацца? Шукайце сабе такіх, як і самі.

П а н і ч. Ну не злуйся, Надзея. Яшчэ раз кажу табе: паслухаеш — будзеш паняй жыць у пакоях. Вось ты зараз прыйшла ў грыбы. Ці ж ты смела ходзіш? Усё азіраешся, каб ляснік не ўбачыў. Тады ж як усяўладная гаспадыня хадзіла б тут пад парасонам.

Н а д з е я. Не жадаю я вашых багатых пакояў. Жыць у іх жудасна. Колькі там загублена людзей вашымі дзядамі і прадзедамі. Уночы яны павінны кішэць зданямі запакутаваных мужчын і згвалтованых кабет. Не жыццё ў вашым палацы, а пекла.

П а н і ч. Ха-ха-ха! Вось якое страхоцце ты кажаш. А я вось жыву і нічога гэтага не чую і не бачу. Начаўплі табе ў галаву ўсяго гэтага з малых гадоў. Вось прыйдзі сёння, сама пабачыш, што ўсё гэта — выдумкі.

Хоча абняць Надзею, але тая б'е яго па твары і адбягае. Паніч хапаецца за шчаку.

Н а д з е я. Прэч свае панскія рукі! Думаеце: у лесе ды са стрэльбай, дык усё і зрабіць можаце? Памыляецеся.

П а н і ч *(злосна)*. А, дык ты вось як. Мяне біць?! Пачакай жа. Вон з майго лесу! Зараз ведай: калі хто прыйдзе сюды ў грыбы ці ў ягады — атрымае добры гасцінец. Для гэтага ў мяне ёсць выдатныя майстры.

Н а д з е я. Ведаю, ведаю, што вашы хваленыя палацы кішаць зараз жандарамі, якія выдатна пісяжаць скуру народа. Хваліцца, здаецца, няма чым. *(Пайшла.)*

П а н і ч. Вось чортава насенне! Нічым не ўлагодзіш. Усе ўжо спосабы перапрабаваў. За-

сталося толькі сілаю ўзяць. Але дзе і як? Гэты пракляты Андрэй перашкаджае. І як бы да яго дабрацца. Вось пацешыў бы рукі. Аж зараз свярбяць. *(Пацірае рукі.)*

Чуваць, як спяваюць дзяўчаты.

Хвалілася каліна ў густым лесе стоячы:
— Ніхто мяне ды не высеча
Без мяча, без тысячы,
Без вострае шабелькі.
Абазваўся марозе:
— Не хваліся, каліна,
Я цябе так высеку: без мяча, без тысячы,
Без вострае шабелькі.
Хвалілася Надзейка ў свайго роднага таткі:
— Ніхто мяне ды не вывезе без мёду
саладзенькага,
Без віна зеляненькага.
Абазваўся Андрэйка:
— Не хваліся, Надзейка,
Я цябе так вывезу: без мёду саладзенькага,
Без віна зеляненькага.

Паніч стаіць і слухае. Дзяўчаты выходзяць, бачаць паніча, спалоханыя, пазіраюць на яго.

Паніч. А вам хто тут дазволіў хадзіць? На, цю, на!

Брэша сабака.

На, Марс, на! Кусі іх!

Дзяўчаты з крыкам разбягаюцца. Некаторыя нават пакідалі кошыкі. Чуваць, як недзе далёка стукае аб дрэва сякера. Паніч пільна прыслухоўваецца, потым хутка ідзе ў той бок, адкуль чуецца стук сякеры. Выбягаюць спалоханыя Ганна і Наста.

Ганна. Ой, любка, дай аддыхацца! Сэрца як не выскачыць.

Наста. Хай цябе немач! Ну і спалохала ж ты мяне.

Ганна. У мяне ў самой аж зелена ў вачах стала. Ты паслухай: толькі я сагнулася грыб браць, аж чую — нехта мяне за сярэдзіну бярэ. Падымаю галаву — і ледзь не самлела: пан Та-

дэвуш, гэты шалёны звер, з пісталетам за поясам, з бізуном у руцэ, чырвоны, як той клоп, выскаліў зубы ды рагоча, як жарабок. Не памятаю, як я ўцякла, кошык кінула і хустку згубіла.

Н а с т а. Ты так нема закрычала, што я падумала: ці не гадзюка цябе ўкусіла. Калі ж пабачыла, хто каля цябе, сама давай наўцёкі.

Г а н н а. Я зараз не ведаю нават, у які бок дадому. Што калі нас знойдзе той гвалтоўнік. *(Баязліва азіраецца.)* Ціха! Нехта ідзе і моцна размаўляе.

Чувадь г а л а с ы.

— Дык вось як, лес красці?

— Да не, панічок, дальбог жа, мы толькі асінку думалі зваліць.

Уваходзяць п а н і ч, А г е й і А н д р э й.

П а н і ч. Так, так, Андрэй. Рукі ў цябе хоць куды: і каля Надзеі ўмеюць хадзіць, і каля панскага лесу.

А н д р э й. Не ваша справа.

П а н і ч. Як гэта не мая справа? Што і лес мой сячэш, не мая справа? Вось дык смяхоцце!

А н д р э й. А чаму гэта ваш лес? Вось вы лічыце сябе разумным чалавекам, гэтага розуму набіраліся за межамі. Растлумачце нам, цёмным мужыкам, чаму гэта ваш лес? Чаму вось мой бацька, які бачыў, як кожнае дрэўца тут узгадавалася, не мае права сказаць, што гэта лес яго?

А г е й. А сапраўды, чаму гэта лес панічоў? Ніколі я да гэтага не дадумваўся. Ты, сынок, разумна пытаеш.

П а н і ч *(злосна)*. Быдлё! Як вы адважваецеся так са мною! Пабачым, што вы жандарам будзеце адказваць.

А г е й *(спужаўся)*. Панічок, даражэнькі, злітуйся! Даруй нам. Ніколі больш не будзем.

Мы і цяпер бы... але, ведаеце, трэба было: Андрэйку на сёмуху жаню, ганак новы думалі зрабіць.

Паніч. Цікава, ці не з Надзеяй жэніцца твой сын?

Андрэй. Няма чаго цікавіцца: на вяселле ўсё роўна не паклічу. А ты, тата, годзе стаг-наць. Ён перад табою блазнюк, а ты яму ледзь у ногі не кланяешся. Няхай пасылае жандараў. Няма чаго нашай працоўнай скуры баяцца ні бізуноў, ні шомпалаў. Мы ўжо нарадзіліся з пісягамі на ёй.

Агей. Ды як жа, сынок? Каб жандары прыйшлі да нас? Няўжо ж гэта можа быць? А курачкі мае! А парасятачкі мае! Не аглядаць жа нам вас!

Андрэй. Кінь, тата. Парасят шкадуеш, а сваёй скуры не шкада.

Паніч. Ага, а табе шкада сваёй. Вось мы яе пашкадуем. Гэтак па мякішу: хлясь! Цок!

Андрэй. Эх вы, вучоны! А яшчэ чалавекам хоча звацца! Мала бацькі і дзяды вашы нацокалі? Ну што ж, цокайце і вы. Пацерпім пакуль што.

Агей. Вось слухаю я, панічок, ды чую, што вы аб нейкіх цоках гутарыце. Нядобрыя, відаць, гэтыя цокі. Адпусці нас, даражэнькі. Няўжо ж ты забыўся, як я для цябе маленькага калісь ночы не спаў, а ўсё ў садзе сядзеў пад яблыняю, каб злавіць тую жар-птушку, пра якую ты ў казцы чуў ды ўсё хацеў, каб злавілі яе ў тваім садзе.

Паніч. Ты, стары, ідзі сабе, а сына не адпушчу. Вельмі ён у цябе разумны.

Агей. Дык як жа, панічок, гэта... Я ж казаў, што жаню свайго Андрэйку на сёмуху. Злітуйся над ім. Гэта ж як пачуе Надзея, што з Андрэйкам зрабілі, дык яшчэ не поідзе за яго замуж.

**Андрэй.** Не бойся, тата, яна тады яшчэ мацней мяне пакахае.

**Паніч.** Пакахае! А калі я перашкоджу?

**Андрэй.** Не палохайце. Я ведаю Надзею, Надзея ведае мяне. Перашкодзіць нам ніхто не здолее, адно хіба смерць.

**Паніч.** Добра. Пабачым. Занадта не бярыся. Хваляцца з кірмашу едучы. Ну, а зараз хадзем, стары. Я раздумаў. Сын хай тут сабе застаецца. Думаю, у Амерыку не ўцячэ. А калі і хацеў бы ўцячы, дык Надзея перашкодзіць.

Ідуць у лес.

**Андрэй.** Адкуль яму вядома пра наша каханне? Няўжо яна яму сказала? Ну, што ж, тым лепш. Значыцца, вось адкуль гэта яго злосць да мяне? Пачакаем. Пабачым. Нічога, паночкі. Пацешцеся яшчэ трошкі. Хутка за вамі чарга. Не дагадваецеся вы нават, што тут жа, поплеч з вамі, расце сіла страшэнная. Мы размаўляем з вамі, а вы не здолееце прыслухацца, што ў нашым голасе чутно скорае адамшчэнне!

Тры разы кукуе зязюля. Андрэй пільна слухае, адсвіствае тры разы салаўём. Цішыня. Раптам пачуліся нечыя асцярожныя крокі. Андрэй замёр у чаканні. Выходзіць Міхась Рудовіч.

**Рудовіч.** Здароў, браток Андрэй. *(Цісне моцна руку.)*

**Андрэй.** Прывітанне, Міхась.

**Рудовіч.** Я быў мімавольным сведкам усёй вашай дыскусіі з панічом.

**Андрэй.** Дзе ты быў?

**Рудовіч.** Там, дзе патрэбна быць падпольшчыку. Ну як у вас справы, Андрэй?

На жываце, затаіўшы дыханне і звіваючыся, як вужака, паўзе Баравік. Зялёныя велізарныя падушкі зязюльчынага льну надзейна хаваюць яго. Толькі зрэдку ўздымаецца галава, абвітая дзеразою. Каля вялікага густога куста ядлоўцу Баравік замірае.

Андрэй. Пытаеш, як справы? Пакуль нядрэнныя.

Рудовіч. Шмат згуртавана моладзі?

Андрэй. Чалавек дваццаць пяць.

Рудовіч. Надзейныя хлопцы?

Андрэй. Вось гэта, Міхась, мяне і непакоіць. Захапіўшыся справай, мы спачатку бралі людзей без строгага падыходу. Баюся, каб не знайшліся малаверы сярод іх.

Рудовіч. А гэта, Андрэй, абавязвае цябе яшчэ і яшчэ, як мага часцей, правяраць сваіх людзей. Грош цана нашай падпольнай рабоце, калі сярод нас знойдуцца ненадзейныя людзі. Думаеш, вораг спіць, не адчувае, што ў яго гарыць зямля пад нагамі? Не трэба таксама забываць, што ў паноў на паслугах ксяндзы, фальваркоўцы. Мы вось з табой размаўляем аб вельмі сакрэтных справах, а можа, такая гадзюка дзе-небудзь прытаілася недалёка ад нас і падслухоўвае.

Андрэй міжвольна азіраецца па баках.

Думаеш, убачыш? *(Смяецца.)*

Андрэй. Скажы, Міхась, якая наша бліжэйшая задача?

Рудовіч. Узброіцца. Усім. Да адзінага. У самым хуткім часе мы павінны будзем перайсці да баявых дзеянняў, да аператыўных заданняў. А што за баец без зброі? Такі план Чырвонага падпольнага камітэта.

Андрэй. Даставаць зброю цяжка.

Рудовіч. Вядома, яна сама ў рукі не прыйдзе. Арыентуйцеся на сялян. У іх захавана мора зброі. Нават ёсць кулямёты. Ну і каля паноў можна жывіцца. Толькі ўсё трэба рабіць вельмі асцярожна. Гэта першая наша запаведзь.

Андрэй. А як там нашы справы ў вас, у тэхнікуме?

**Рудовіч.** Студэнтаў набралася шмат. Але ў нас вучыцца панскі шпег.

**Андрэй.** Вацлаў Цярпіцкі, сын аканома тутэйшага маёнтка?

**Рудовіч.** Ён. Напрошваецца ў сябры да мяне. Вось тут трэба ролю іграць выдатна. Ну, я пайшоў, Андрэй. Глядзіце дзейнічайце асцярожна. Бывай. У пятніцу, ля разложыстага дуба.

**Андрэй.** Міхась, у чацвер маё вяселле. Шчыра прашу.

**Рудовіч** *(здзіўлены).* Дзякую, Андрэй. Вось яно што... Такая вялікая справа і — вяселле. *(Думае.)* А можа, яно і нядрэнна. Бывай, Андрэй.

**Андрэй.** Бывай, Міхась.

Цісну́ць адзін аднаму рукі, і **Рудовіч** знікае. Зараз жа ўбягае перапалоханая **Надзея**.

**Надзея.** Андрэйка, цябе жандары шукаюць!

**Андрэй.** Хай шукаюць, хаця гэта і лішняе. Я сам да іх пайду.

**Надзея.** Пойдзеш у кіпцюры да гэтых тыграў?! Апамятайся!

**Андрэй.** Што ж, уцякаць? Гэта я мог бы зрабіць, але што ж яны зробяць тады з маім пастарым, з табою? Не, аддамся ім у рукі. Пацярплю. А ты, Надзейка, тады, як мяне... скрываваць, будзеш мяне кахаць?

**Надзея** *(кідаецца яму на шыю).* Яшчэ мацней, мой любы Андрэйка! Ніхто цяпер не адарве мяне ад тваіх прыхільных грудзей!

**Андрэй.** Пара дадому, радасць мая.

Ідуць, узяўшыся за рукі. Некаторы час цішыня. Потым з моху падымаецца абвітая дзеразою галава. На ногі ўскоквае Баравік.

**Баравік.** Небяспечна, затое прыбыткова. Валока зямелькі як з ветру наляцела. Па-

глядзім, Андрэй, як ты ў чацвер з сябрамі будзеш гуляць сваё вяселле! А зараз, Стась Баравік, да паноў! Хай частуюць, хай добра частуюць, бо сёння Баравік зарабіў гэта!

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Горка каля лесу. Усюды густая трава, кветкі. Пяюць жаваранкі. Сонца слепіць вочы. На дзвюх бярозах павешана гушкалка. Надзея ходзіць па горцы, збірае кветкі і спявае.

Надзея *(спявае)*.
Вясна-красна на двары,
А я хаджу па гары.
Хачу кветак я нарваць,
Каб вянок мне з іх звязаць.
Апрану я той вянок
У апошні ўжо разок.
Хай паглядзіць Андрулёк,
Як прыгожа мне вянок.

А зараз трэба паваражыць, ці кахае мяне Андрэй. Кахае, не кахае, плюне, пацалуе, да чорта пашле, да сэрца прыжме. О, да сэрца прыжме! Значыць, кахае. А як прыемна, калі ён прыцiскае да сэрца! Слухаеш, а яно: так... так... так... так... Але чаму ён часамі нейкі дзіўны? Што ў яго на думках? Колькі разоў пытала — зверне, збочыць, што як бы ўсё вельмі добра.

Садзіцца на горцы, задумалася.

Песня дзяўчат.
Ты, калініца,
Ты, малініца!
Гэй, ты не стой, не стой
На гары крутой.
Не спускай голля
На сіне мора.
Гэй, па сіняму мору
Карабель плыве...

На горку са смехам і крыкам узбягае шмат дзяўчат. Усе абкружаюць Надзею і спяваюць.

Дзяўчаты *(пяюць).*
Любка Надзька,
Што з табой?
Скажы хоць славечка.
Хочаш — зробім карагод,
Супакой сардэчка.
Надзея *(адпявае).*
Ах вы, дзевачкі мае,
Не магу спяваці,
Бо апошні разок мне
З вамі ўжо гуляці.
Дзяўчаты.
Хіба стаў ужо не люб
Твой Андрэйка мілы?
Не жадаеш браць з ім шлюб?
Кахаць няма сілы?
Надзея.
Ах, скарэй бы ўжо часы,
Каб з Андрэйкам жыці.
Шкада ж дзявочай красы,
Мне не з вамі быці.
Дзяўчаты.
Усіх нас, знаць, такі лёс:
Дзеўкай не пражыці.
Калі трохі ўжо падрос,
Трэба йсці служыці.
Ганна. Дзяўчаты, давайце гушкацца.

Усе згаджаюцца і падбягаюць да гушкалкі. Ганна, Наста і Надзея лезуць на яе. Астатнія дзяўчаты іх гушкаюць і спяваюць.

Дзяўчаты *(спяваюць).*
Гу-та-та, гу-ля-ля!
Няма майго Андруля.
Гу-шкі, гушкі!
Ідзі, Андрэй, на падушкі.
Гэй-да-да, гэй-да-да!
Без цябе, Андрэй, нуда.
Наста. Годзе ўжо. Аж галава закруцілася. Давайце Надзеі апошні вянок саўём.

Усе збіраюць кветкі, спяваюць.

Д з я ў ч а т ы *(спяваюць.)*
Маладая Надзейка,
Усё тваё ды мінаецца:
Дзявоцкае пагуляннейка,
Хлапецкае жартаваннейка.
Годзе табе ў таткі быці,
Каб вяночкі ўсё віці
Ды таночкі вадзіці,
Йдзі свякроўцы служыці.

Назбіраўшы кветак, дзяўчаты садзяцца вакол Надзеі, і Ганна пачынае віць вянок.

Г а н н а. Ведаеце, сястрыцы, што мне цётка Агата казала? Калі пляцеш вянок перад сёмухаю і зломіцца хоць кветка,— быць вялікаму няшчасцю.

Усе пільна сочаць за работай Ганны.

Ну, тут пакуль што ўсё добра. Каб так і далей.

Н а д з е я. Ах! Гора ж мне!

У с е. Чаго ты, Надзейка? Што з табою здарылася?

Н а д з е я. Вы ўглядаецеся ў вянок там, дзе ўплятаюцца кветкі, а чаму ж не бачыце, што з самага пачатку?

Дзяўчаты глядзяць. Ледзь не ўсе кветкі пераламіліся, і кончык вянка павіс бездапаможна.

Н а с т а. Ды кінь, Надзея. Мала чаго людзі наплятуць. Калі ўжо вам добра не жыць, дык каму ж тады? Андрэя ўсякі ведае, што ён за чалавек. Кожная з нас была б шчаслівая на тваім месцы.

У лесе кукуе зязюля.

Надзейка, запытайся ў зязюлі, ці доўга замужам будзеш?

Н а д з е я. Зязюлька сівая, скажы праўду шчырую: колькі мне з Андрэем жыць?

Зязюля кукуе. Чуваць песня хлопцаў і ігра на гармоніку.

Ганна. Вось і хлопцы ідуць. Супакойся, Надзейка. Забудзь пра ўсё гэта глупства.

А песня расце і расце.

Па лугах вада разліваецца,
Ой, да лю-лі, лю-лі, разліваецца.
На вайну хлопцы ўсе збіраюцца,
Ой, да лю-лі, лю-лі, усе збіраюцца.
Яны з роднымі развітаюцца.
Ой, да лю-лі, лю-лі, развітаюцца.
Ой, бывай жа ты, уся радзіначка,
Ой, да лю-лі, лю-лі, уся радзіначка.
Уся радзіначка: бацька, матачка.
Ой, да лю-лі, лю-лі, бацька, матачка.

Паказваюцца хлопцы і бягуць на дзяўчат з крыкам: «Ура!» Тыя абступаюць Надзею і выстаўляюць кулакі супроць хлопцаў.

Мірон. Браточкі, пабачце: наш вораг нас у штыкі прымае.

Ганна. І няма чаго зубы скаліць. Падступіцеся толькі — павылятаюць яны.

Мірон. Эх ты, ваяка! Ці ж штыком у зубы поруць?

Ганна. Ды ўжо ж, глядзець не будзем, куды пападзе, а Надзею ўсё ж не аддамо.

Мірон. Чуеш, Андрэй! Ідзі, брат, сам мяркуйся з імі.

Андрэй. Кіньце, дзяўчаты, спрачацца. Давайце пагодзімся.

Ганна. Бач, які хуткі! Ну, а якая ваша згода?

Андрэй. Нічагусенькі я не ведаю, чаго вам трэба.

Махае рукою і адыходзіць.

Мірон. Дык няма чаго і рот разяўляць. Як бачу, трэба самому брацца за гэту справу.

Ганна. Падумаеш, гэтакі зыхар знайшоўся. Пабачым.

Мірон. Ну, ты не надта выстаўляйся з сваім розумам. Добра ведаем, што ты Ганна Ціхона, ды яшчэ Затыкі.

Хлопцы рагочуць.

Ганна. А мы яшчэ лепш ведаем, што ты Мірон Гаўрылы, ды яшчэ Глёза.

Дзяўчаты рагочуць.

Мірон. Па чым дурняў пазнаюць? По рогату.

Ганна. А разумных — па рыжай галаве?

Мірон. Залатыя валасы — багаты жаніх. Толькі пальцам кіўні — Ганна адразу пабяжыць.

Ганна. Не завідны жаніх, калі ўсё багацце наверсе, усяродку — макацёр гліняны.

Панас. Ну і язычок. Можна добра дзеду Нупрэю лапці падшываць: і падкавыркі з шылам не трэба.

Ганна. Ці ж тваёю скураю падшываць, што два тыдні назад паны спісяжылі.

Наста. Ганна, як табе не сорам успамінаць тут аб гэтым?

Ганна апамяталася, але позна.

Ганна. Панаска, братка, прабач мне, што не стрымала свайго бабскага языка. Сказалася — сама не ведаю як.

Хлопцы спахмурнелі.

Андрэй. Трэба заўсёды думаць, што гаворыш. Асабліва ў цяперашнія часы.

Мірон. Ну, Ганна, дагаварылася? Зараз, можа, пагодзімся?

Ганна. Добра. Што дасцё?

Мірон. Наша справа — даць выпіць, а ваша — закусіць. *(Дастае бутэлькі.)* Згода?

Дзяўчаты. Згода! Згода!

Бяруць клуначкі, што прынеслі з сабою, сцелюць на траве абрус і раскладаюць на ім закуску. Садзяцца ўперамежку з хлопцамі. Надзея з Андрэем уладзіліся побач.

М і р о н *(налівае чаркі, падымае сваю, усе пазіраюць на яго)*. Сёння я бачыў, як у нас на страсе галубок з галубкаю буркаваў. Як горача абдымаў ён яе крылом! Галубка аж дрыжала ад радасці і шчасця. Дык хай жа, як тыя галубкі, буркуюць і нашы Андрэй з Надзеяй усё сваё жыццё. І абсыпляюць хай іх дзеткі, як грушы ўвесну кветкі.

Кукуе зязюля. Усе прыціхлі.

А н д р э й. Дык чаго ж вы змоўклі? Сябры, я жадаю найскарэйшага выканання таго, што задумана намі!

Н а д з е я. Андрэй, што вы задумалі? Кажы, не палохайце нас.

Дзяўчаты пазіраюць на хлопцаў.

М і р о н. Ды нічога цікавага. Думаем, каб як залезці ў панічоў кветнік і кветак вам нарваць.

Г а н н а. Загаварвай зубы. Ведаем мы вас. Э, ды кінем гэта. Мала што задумаюць гэтыя вар'яты. Давайце лепш вып'ем, добра закусім, а потым павесялімся, каб ведала Надзея, калі была дзеўкаю.

Пачынаецца частаванне. Крык, смех, жарты.

Н а с т а *(ускокваючы з зямлі)*. Давайце ў «Матыля»!

Усе таксама ўсхопліваюцца, апрача Андрэя і Надзеі, бяруцца па двое за рукі, твар да твару, і круцяцца надта шыбка. Андрэй з Надзеяй прытуліліся адзін да аднаго і глядзяць, як весяляцца.

П а н а с. Паўзірайцеся, паўзірайцеся, што гэта за двое старэнькіх там сядзяць? *(Падыхо-*

*дзіць да Андрэя з Надзеяй.)* Дазвольце вас паварушыць.

Андрэй. Не чапай нас, браток. Можа, не скора давядзецца так блізенька сядзець аднаму ля другога.

Надзея. Андрэй, чаму ты так гаворыш? У кожным тваім слове я чую нешта нядобрае.

Андрэй. Э, Надзейка, мала чаго ў жыцці можна чакаць, асабліва зараз, калі раз'юшаныя паны топчуць нашу зямельку, гвалтуюць народ. Ды кінем пакуль гэта. Давай глядзець, як весяляцца.

Наста. Дзяўчаты і хлопцы, давайце ў «Гару».

Становяцца парамі і гуляюць.

Ганна. Хлопцы, і навошта вы музыку вялі? Няўжо на тое, каб гармонік яго ляжаў ды нудзіўся?

Усе. Танцы! Танцы!

Музыка іграе, а моладзь танцуе польку, «Лявоніху», «Крыжачок», кадрыль. Нагуляўшыся, ідуць у лес, каб прахалодацца. На горцы застаюцца Андрэй і Надзея. З лесу чутны песні, смех.

Надзея. Андрэй, вось мы прычакалі часіны, калі адны. Скажы, што з табою? Я чую сэрцам нешта нядобрае.

Андрэй. Не ведаю, як табе сказаць. А трэба. Сёння ці ніколі. Заўтра наша вяселле. Не хачу падманваць цябе. Калі прызнаюся табе ва ўсім, дык не позна яшчэ будзе адступіцца ад мяне.

Надзея. Ды што ты? Каб я ад цябе адступілася? Ды ці ёсць на свеце такая сіла, якая нас раз'яднала б? Не, любы мой Андрэйка, не затым я цябе пакахала, каб адцурацца, хай сабе немаведама якое няшчасце страсецца над тваёю галавою.

Андрэй. Гэта праўда? О, які я шчаслі-

вы! Ведай, Надзейка, ты мяне падбадзёрыла, і я пайду смела і цвёрда да сваёй мэты.

Н а д з е я. Якая ж твая мэта? Раскрый мне сваю душу. Можа, я буду тваёю шчыраю спадарожніцаю.

А н д р э й. Слухай, яшчэ нядаўна Ганна пакрыўдзіла Панаса, нагадаўшы, што паны яго скуру спісяжылі. А Рыгора Тодаравага. А Змітрака Язэпавага, а на днях мяне. Ды ці мала крыўды? Уся Беларусь стогне ад бізуноў і шомпалаў. Як адкормленыя парсюкі, ходзяць гэтыя «вяльможныя» па нашай роднай глебе, размахваючы бізуном. Ці ж мы жывём? Вось сабраліся хлопцы і дзяўчаты, каб павесяліцца. А хіба яны весяляцца як трэба? Кожны азіраецца, ці не стаіць у яго за плячыма жандар. А мы з табою? Хіба мы можам смела, адкрыта кахаць адзін аднаго? Вось, здаецца, як шыпячая гадзіна, з гэтай травы пакажацца бязлітасны, звярыны вобраз паніча. Дык дакуль жа цярпець? Чаго чакаць? Прыйдзе хто-небудзь і вызваліць нас з няволі? Чырвоны Усход зіхаціць і пасылае свае жыватворчыя праменні да нас. Але як загрыміць вялікі гром і разгуляецца навальніца, якая змые з твару нашай зямлі катаў народа, трэба, каб мы былі гатовы. І вось бядацкая моладзь, усе працоўныя Беларусі ўскалыхнуліся. Натхнёныя агнявымі словамі бальшавікоў, яны ўступаюць на шлях барацьбы з акупантамі. Я не ведаю ніводнай вёскі, дзе б у той ці іншай меры не адчуваўся гэты рух. У нас — асяродак мясцовай падпольнай арганізацыі. Я з'яўляюся адказным па нашай воласці. На мне ляжыць абавязак прыглядацца, каб усё было ў вялікім сакрэце да часу. Гэтыя панскія шпегі лазяць паміж нас і нічагусенькі не ведаюць. О, каб яны ведалі!

Н а д з е я. Дык вас тады пахапалі б і пастралялі?!

Андрэй. Каля гэтага. Па галоўцы не пагладзілі б.

Надзея. Андрэйка, як гэта страшна! А вы верыце, што гэтага не ведаюць паны?

Андрэй. Пакуль што ўсё добра. Боязна вось чаго: у сваю арганізацыю мы прынялі шмат такіх, якія па сваёй наіўнасці могуць прагаварыцца. Гэта наша памылка. Патрэбна быць пільным і весці сярод членаў выхаваўчую работу.

Надзея. Які адказны абавязак ляжыць на табе, мой ясны саколе?

Андрэй. Надзейка, я табе ва ўсім прызнаюся, бо веру табе, як самому сабе. Ты мяне разумееш?

Надзея. Разумею. Вер, сокал мой ясны, Надзея цябе не зганьбіць.

З лесу бягуць перапалоханыя дзяўчаты.

Ганна. Седзіцё тут і не ведаеце, што ў лесе здарылася.

Андрэй і Надзея. Што?! *(Усхопліваюцца з зямлі.)*

Ганна. Нашы хлопцы з палякамі пасварыліся.

Андрэй. Як гэта было?

Ганна. Гулялі мы ў лесе, аж выходзіць насустрач паніч ды як крыкне: «Чаго, быдла, лес мой бэсціце!» Мірон і адказвае: «Хіба, паніч, недабачыце: мы ж такія, як і вы, на дзвюх нагах. Вось там, глядзіце, па балоце, дык, праўда, быдла ходзіць». І трэба было паказаць Мірону ў той бок, адкуль якраз выйшлі пяць палякаў, якія былі на паляванні. Як закрычыць паніч: «А, дык вы паноў палякаў быдлам завіцё!» І паклікаў апошніх. Тыя падскочылі — і пачалося. Мы ў крык і — ходу.

Дзяўчаты. Ой, боязна! Ці тут заставацца, ці дадому бегчы?

Андрэй. Чаго вы баіцёся? Можа, зараз хлопцы вернуцца.

Ганна. А вунь яны ідуць. Нешта крычаць. Ды з імі паніч і палякі.

Дзяўчаты збіраюцца ў кучу. Падыходзяць хлопцы з «гасцямі».

Паніч. А, Надзея, як маешся? Нацалаваласяз Андрэем?

Андрэй. Абы не з панам.

Паніч. А можа, пацалуеш і мяне?

Падыходзіць да Надзеі, тая хаваецца за Андрэя.

Андрэй (адштурхоўвае паніча). Прэч, распуснік!

Паніч зачапіўся за стрэльбу і паваліўся. Палякі абкружаюць Андрэя і Надзею.

Мірон. Эй, панове, прыйшлі няпрошаныя і можаце адпраўляцца, пакуль цэлыя.

Усе хлопцы бяруць у кола паноў.

Паніч. Добра. Пасправабаваў бы сёння цокаў, але заўтра жэнішся — трохі ранавата дарыць. Пайшлі, панове.

Паніч і палякі ідуць.

Надзея. Андрэй! Чуе маё сэрца, што быць бядзе! *(Прыпадае да грудзей Андрэя.)*

Андрэй. Не забывайся, мая галачка: няма сілы, якая нас разняла б.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Вёска. Сёмуха. Усюды маладыя бярозкі. Вяселле ў Андрэя і Надзейкі. На пярэднім плане двор Сымона. На прызбе каля хаты Ганна, Аўдуля, Панас, Наста, моладзь.

Ганна. Ведаеце, мне ўсю ноч лез пан Тадэвуш у галаву. Толькі заплюшчу вочы, а

ён, здаецца, з-пад лавы і лезе. Страшэнны: вочы па добраму яблыку, рот, як вароты, губы, як каўбасы. Паўзе да мяне ды нешта мармыча. Як закрычала ж я, дык усіх у хаце пабудзіла.

Аўдуля. Занадта шмат думаеш аб Тадэвушу, вось і сніцца.

Наста. На ноч трэба менш наядацца.

Ганна. Вось і растлумачылі ўвесь мой сон. Не трэба і ў «Соннік» заглядаць.

Адзін з хлопцаў. Твой, Ганна, сон нядобры. Каб Тадэвуш лез на сцяну ды нема роў — было б добра.

Аўдуля. А калі гэта нема равуць?

Панас. Як жывот баліць.

Аўдуля. А чаго балець жывату ў пана?

Панас. Абапіўшыся крыві нашай — вось чаго.

Ганна. Ціха. Чаго разявіў свой млын? Ці не хочаш учарашняга?

Панас. А што там учарашняе? Хіба мы спужаліся? Нябось калі цыкнулі на паноў, дык тыя не асмеліліся сунуцца, хоць і ўзброеныя былі. Яны смела толькі з бізунамі каля звязаных ходзяць.

Наста. Ведаеце, мне ўчора аж шкада стала паніча. Гэтак штырыў яго Андрэй! І ўгадзіў жа сесці — зусім не па-панску — на вострань-кі корчык. Як ішоў дадому, дык усю, знаць, дарогу чухаў.

Панас. Няўжо ж толькі нам чухаць. А калі Насце шкада было паніча, дык трэба было дагнаць ды пастудзіць.

Выходзіць Надзея з распушчанымі валасамі пад хусткай.

Ганна. Надзейка, ідзі сюды, пасядзі з намі.

Панас. Чаго, Надзея, часта на вуліцу выбягаеш? Чакаеш не дачакаешся свайго Андрэя? Патрывай крыху. Хутка зайграюць музыкі, за-

звіняць званкі і ты ўбачыш свайго сокала ясавокага.

Н а д з е я. Дзевачкі, сястрыцы мае, чаму ў мяне на сэрцы так неспакойна? Хаджу — ногі мяне не слухаюць; гляджу — нічагусенькі не бачу. Тата гэтаксама з ног збіўся. Усюды адзін. Няма роднай мамкі, няма парадку. *(Плача.)* А тут... учора... Гэтакае здарылася. Адпомсцяць яны яму.

Д з я ў ч а т ы *(спяваюць)*.

Ой, знаці, знаці па вяселлейку,
Што Надзейка сірацінечка.
Ды двор вялікі, збор невялікі —
Не ўся яе радзіначка.
Ой, каго наняць ды каго паслаць
На Украіну па радзіну?
Салавеечку шчабятлівага
На той свет па мамачку.
Салавей ляціць — не далятае,
А мамачка адказвае:
— Не магу ўстаці к свайму дзіцяці
Ды парадачку даці:
Сырая зямля дзверы залягла,
Акенечка засланіла.

Г а н н а. Кінь, Надзейка, плакаць. Усё добра будзе. Трэба быць вясёлай: ты ж сёння маладая.

П а н а с. Ты, Надзейка, паглядзела б, які Андрэй: вясёлы, прыгожы. Усе не надзівяцца. Вось і ты павінна быць такою, каб выйшла роўная пара.

Н а с т а. Паглядзіце, як умее Панас пары падбіраць, а сабе вось ніяк не падбярэ.

П а н а с. З каго ж выбіраць? Ну пачнём з цябе хоць. Усім добра вядома, што валасы ў цябе вельмі доўгія. Значыцца, розум самы кароценькі. Другое: хатка мая маленькая, палоска вузенькая — значыцца, і ў хатку не ўпрэшся, і на загончыку не ўтоўпішся.

Н а с т а. Дык хай жа табе трапіцца такая, дзеля якой і хатка твая будзе вельмі прасторнай, і загончык — вельмі шырокім.

Г а н н а. Ды годзе вам. Чаго гэта дзеці бягуць з таго канца? Ці не заручыны едуць?

Усе ўскочылі з прызбы. Дзеці крычаць: «Заручыны! Заручыны!»

Г а л а с ы. Праўда ж едуць.

Н а д з е я, Г а н н а, Н а с т а і А ў д у л я бягуць на двор. Чуваць, як іграюць, звіняць званкі. З двара Сымонавага выходзяць С ы м о н, П я т р о к і яшчэ н е к а л ь к і м у ж ч ы н, а да іх падыходзяць А г е й, А н д р э й, П а в е л - скрыпач, М і р о н і А с т а п, у апошняга біклажка цераз плячо.

А с т а п. Дзень добры, людцы, вам! Ці рады вы нам?

П я т р о к. Мы не ведаем, хто вы будзеце і чаго ад нас патрабуеце?

А с т а п. Мы людзі далёкія, дарогі нашы шырокія. Прыйшлі ж у госці да адной ягамосці.

П я т р о к. Да якой жа гэта ягамосці? Ці не скажаце, якой яна масці? А можа, ведаеце, як яе зваць? Тады і мы, пэўна, будзем знаць.

А с т а п. Ды зваць яе Надзея, на яе ўся наша спадзея. Калі толькі яна занатурыцца, адзін з нас панурыцца. *(Пазірае на Андрэя.)*

П я т р о к. А, дык ідзіце ж у хату, там будзем гаварыць і пра плату. Ды ўбачыце тую, пытаеце пра якую.

Усе ідуць на двор, адкуль зараз нясецца песня.

Наляцела сівых галубоў поўны двор,
Наехала сем заручнікаў к нам за стол.
Пазнай, пазнай, малада Надзейка, каторы твой.
Ці што на куце ў белым кажусе —
Ці то твой?
Ці на ўслончыку ды на кончыку —
Ці то твой?
Ці ля прыпечку грае ў скрыпачку —
Ці то твой?

— Што ля аконца ззяе, як сонца.
Дык то мой!

Бяжыць стомлены Міхась, дваровы хлопец. Ён пазірае на двор ды некага кліча рукою. Выбягае Мірон.

Мірон. Што ты такі страшны, Міхась?

Міхась. Кепскія, Мірон, паперы. У маёнтак прыехаў карны атрад. Рыгор Самусь, што служыць пры панічу, чуў, аб чым гаварылі ў палацах. Спачатку шапталіся, а потым самы тоўсты моцна сказаў: «Трэба, каб адразу іх накрыць, каб не вылецела ні адна птушка. Дрэнна будзе, калі ўцячэ хто і паведаміць у іншыя вёскі». А паніч і адказвае: «Сёння самы зручны момант: яны гуляюць вяселле свайго кіраўніка». Баравік трэцца каля паноў. Гэта справа яго рук, ён выдаў. Самусь прыбег да мяне і ўсё перадаў. Я шапку на галаву — і сюды. Усю дарогу бягом. Сэрца як не выскачыць.

Мірон. Што гэта значыць? Чаго зляцеліся груганы? Няўжо здрада?

Міхась. Трэба хутчэй Андрэя паклікаць. Але як?

Мірон. Не хацелася б трывожыць яго. Што з ім сёння робіцца, зразумець не магу. Такое шчасце на твары напісана, што, здаецца, праменні ад яго разыходзяцца. А сказаць трэба, і зараз жа. Ты, Міхась, пабудзь тут, а я якнебудзь выманю яго сюды. *(Пайшоў.)*

Міхась. Вось каб ведалі паны, што я тут раблю, заплацілі б добра. І на будучых дзетак маіх хапіла б. Цікава, што стануць рабіць хлопцы? Калі задумаюць хавацца, дык трэба, каб ужо гэта рабілі. А шкада Андрэя. Яму больш, як каму, патрэбна хоць крапельку шчасця. *(Глядзіць на двор.)* Вунь яны ідуць. Праўда, які ён светлы, прыгожы. Знаць, не дагадваецца, навошта яго вядзе Мірон.

Андрэй *(вясёлы)*. Ну, чаго ты мяне клікаў, Мірон? Не мог нават сёння пацярпець.

Мірон. Некалі. Вунь Міхась прыйшоў.

Андрэй *(убачыўшы Міхася)*. А, Міхась! Здароў, браток! Дзякуй, што на вяселле прыйшоў.

Мірон. Пачакай дзякаваць. Можа, ён не на вяселле прыйшоў, а бяду прынёс.

Андрэй *(змяніўшыся ў твары)*. Што? Якую бяду?

Мірон. У маёнтак прыбыў карны атрад. Самусь падслухаў. Нас усіх хочуць пахватаць.

Андрэй *(да Міхася)*. Гэта праўда?! Можа, ты напалохаць захацеў, як умоўлена было ў нас: хоць рэдка знарок палохаць, каб прывыклі не баяцца.

Міхась. Што ты, Андрэй! Ды ці стаў бы я ў такі для цябе дзень гэтым займацца. Усё праўда. Рашайце хутчэй што-небудзь, каб не было позна.

Андрэй. Рашаць? Што ж рашаць? Няўжо дазналіся аб нашай арганізацыі?

Міхась. Гэта справа Баравіка. Самусь дазнаўся.

Андрэй. Так... Значыць, недаконачаная справа? Як гэта балюча! Хаця б яшчэ месяц. *(Адразу рашуча.)* А можа, гэта пачатак канца? Тады трэба прычакаць яго. А для гэтага нам трэба хавацца. Шкада бацькоў і гаспадарак, але нічога не зробіш.

Бяжыць жанчына, махае рукамі і крычыць.

Жанчына. Даражэнькія, што ж гэта робіцца. Харавічы ачэплены ланцугом польскіх салдат. Нікому не дазваляюць з вёскі выйсці. Божачка, што ж гэта будзе?! *(Ломячы рукі і галосячы, бяжыць далей.)*

Андрэй. Ужо? Спяшаюцца. Выгаладаліся. Чалавечай крыві зажадалася.

У хаце заўважылі на вуліцы трывогу, і сталі выбягаць людзі.

Г а н н а. Што нарабілася?!

А н д р э й. Ганна, дзе Надзея?

Г а н н а. Яна ў каморы. Ды чаго вы такія ўстрывожаныя? Кажыце!

М і р о н. Ачэплена войскам вёска. Нікога з яе не выпускаюць.

Г а н н а. Вось табе і вяселле!

А н д р э й. Дык бяжы ж, Ганул я, да Надзеі і затрымай яе ў каморы.

Г а н н а бяжыць. Зараз жа з Сымонавага і з суседніх двароў хлынулі ўзброеныя с а л д а т ы. Яны, наставіўшы карабіны, абступаюць натоўп. Плач дзяцей і жанчын.

П а р у ч н і к. Зараз жа навесці на гэта быдла кулямёт!

Салдаты наводзяць кулямёт. Крыкі і плач узмацняюцца.

А с т а п. Панок, завошта ж гэта?

П а р у ч н і к. За тое, што вы, пся крэў, нарадзілі такіх лайдакоў.

А н д р э й. Чаго ж вы марудзіце? Бярыце. Напэўна, прагаладаліся?

А г е й *(амаль плачучы)*. Сыночак мой, Андрэйка, а як жа вяселлейка? Усё ж паглуміцца: і парсючка забіў, і бычка зарэзаў. Думаў як людзі справіць.

А н д р э й. Дабаў, тата, што і адзінага сына страціш. Дарма. Не гаруй. Гэта страта прынясе вялікую карысць працоўнаму народу. На глебе, палітай нашай крывёю, узрасце моладзь, якую ніхто не пераможа. Яна не будзе ў такім сталёвым коле.

П а р у ч н і к *(салдату)*. Чаго стаіш, галган! Прытрымай яму язык!

Салдат б'е Андрэя ў грудзі. Той адразу спыніўся, пахіснуўся, у яго з горла пацякла кроў.

А г е й *(кідаецца на салдата)*. Завошта ж ты, гіцаль, так яго выцяў! Я табе...

Салдат з такой сілай штурхнуў Агея, што той ляціць старчма на кучу камення. Чуваць, як бразнулі старыя косці. Агей цяжка стогне. З крыкам з варот вылятае Н а д з е я. Яна без хусткі, з распушчанымі валасамі.

Н а д з е я. Чаму ж вы мяне не клічаце?! Няўжо ж вы хацелі, каб я не ўбачыла больш свайго яснага сонейка? *(Глядзіць на Андрэя.)* Што з табою, Андрэйка? У цябе кроў на вуснах. Адкуль гэта?

А н д р э й *(знясілена)*. Запытайся вось у гэтага *(паказвае на салдата)*.

Надзея дагадалася. Яна, як маладая тыгрыца, рынулася на салдата і шчапіла яго за валасы. Другі салдат стаў адцягваць дзяўчыну ад сябра. Яна не пускае і цягне за сабою ворага, пакуль не падскочыў паручнік і не свіснуў бізуном па руках Надзеі. Тая крыкнула і без сіл апусцілася на каменне. З яе вуснаў вырываецца праклянцце.

Н а д з е я. Звяры шалёныя! Каб над вамі вашы родныя дзеткі так здзекаваліся!

П а р у ч н і к. Вядзіце іх у маёнтак!

Салдаты вядуць хлопцаў.

Н а д з е я *(кідаецца ўперад і крычыць)*. Андрэй, азірніся! Дай яшчэ хоць разок пагля-дзець на цябе!

А н д р э й *(прыглушана)*. Надзея, будзь цвёрдая. Калі растапталі наша асабістае шчасце, дык аддамо сваё жыццё за лепшую будучыню тых, хто зноў часова апынуўся ў ярме панскага прымусу.

С а л д а т штурхнуў ззаду А н д р э я, той ледзь устаяў на нагах. Усе хаваюцца за будынкамі. Тыя, што засталіся, стаяць некаторы час як скамянелыя.

Н а д з е я *(ломячы рукі)*. Прапала маё шчасце! Закацілася маё яснае сонейка. Схапілі чорныя груганы сізакрылых галубкоў!

Стогне Агей.

Хто гэта? Дзядзька Агей? *(Падбягае да яго.)* Што з вамі? Вы на камені? Хто гэта зрабіў?

А г е й *(яму цяжка гаварыць)*. Выцяў ён... смаркач... Андрэйку, вельмі моцна. Я хацеў... яму смаркачы падцерці, ажно... ён трохі... спрытнейшы. А што... яны з імі... зробяць?

Г а н н а. Паніч ідзе!

Усе пазіраюць у той бок, адкуль ідзе надта вясёлы п а н і ч.

П а н і ч. Чаго гэта тут сабраліся? Чаму ж не на вяселлі ў Андрэя? А гэта што? *(Глядзіць на Агея і Надзею.)* Што гэта табе, Агей, прыспела ляжаць на камені?

А г е й. Панічу грэх смяяцца... ■ старога Агея. Усю сваю маладосць, усё сваё лепшае жыццё я аддаў табе. І вось за гэта... Як бяздомны сабака, я павінен паміраць на камені, на гэтай пасцельцы. Панічок... Даражэнькі. За ўсю маю працу, пакладзеную на цябе, зрабі для мяне хоць пад канец майго жыцця што-небудзь добрае: заступіся за Андрэя, вярні яго мне. Хай бы мой любы сынок закрыў мае старыя вочы.

П а н і ч. Ну ты, стары, шмат хочаш. Андрэя не адпусцяць: ён вялікі злачынца. Расставіў пасткі панам, але сам у іх папаўся. Гэтакім, як Андрэй, ніколі ніхто не даруе. Іх, напэўна, пастраляюць.

Усе стаяць як громам аглушаныя, нічога не разумеючы. Адна Надзея схапілася аберуч за галаву і як бы застыла.

А г е й. Андрэйку... застрэляць. Сыночка майго назаўсёды адбяруць... ад мяне. Ай, цяжанька мне!

Н а д з е я. Шыпячая гадзіна! Мала з вас маладых ахвяр. Дабіваеце і старых, якія на ўласных плячах выгадавалі сваіх катаў. Вас бы пастраляць: зямельцы цяжка ад вашых гвалтаў!

**П а н і ч.** Чаго злуешся, Надзея? Бачыш, які я добры: хоць не запрашала на вяселле, але я сам прыйшоў.

**Н а д з е я.** Не вяселле вам трэба, а хаўтуры. Да іх у вас вялікая прагавітасць. Вось чаму вы заўсёды нясеце з сабою смерць.

**П а н і ч.** Няпраўду кажаш, Надзея. Тваёй смерці я не жадаю. Наадварот, мне было б цябе вельмі шкада.

**Н а д з е я.** Дзякую за літасць да мяне. Але праглыніце вы гэту самую літасць! Ведаю я, чаго вы лістам сцелецеся перада мною. Мала вам, што адабралі ў мяне маё шчасце,— яшчэ ласуецеся на мой гонар дзявочы. Не дачакаецеся ж! *(Хапае камень.)* Ідзі з вачэй маіх, валацуга! *(Замахваецца.)*

**С ы м о н** *(хапае дачку за руку)*. Дачушка, апамятайся! Што ты робіш? Гэтым ты не дапаможаш.

**Н а д з е я.** Праўду, татка, кажаш. Адна ў нас з Андрэем сцежка.

**П а н і ч.** А калі я звярну цябе з гэтай сцежкі?

**Н а д з е я.** Ты? Гэткі недарэка? Цьфу на цябе! *(Плюе панічу ў вочы.)*

Паніч свіснуў: з суседняга двара выскокваюць д в а с а л д а т ы з карабінамі.

**П а н і ч.** Звязаць яе! І вядзіце ў маёнтак.

Салдаты схапілі Надзею і звязваюць ёй рукі. Яна спрабуе вырвацца.

**С ы м о н.** Дык вы Надзейку маю будзеце вязаць! Не дачакаецеся ж!

Кідаецца да дачкі, але салдаты яго адштурхоўваюць.

Мужчынкі, што вы стаіцё? Ратуйце!

**А г е й.** Паніч, не здзекуйся з Надзеі, не чапай яе. Яна толькі Андрэйкава.

Паніч. Ну, вядзіце хутчэй!

Салдаты амаль цягнуць Надзею.

Надзея. Татка, родны, бывай! Дзевачкі, сястрыцы, успамінайце сваю Надзейку! Усе бывайце!

Дзяўчаты плачуць наўзрыд, мужчыны выціраюць слёзы. Агей і Сымон стогнуць.

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Пушча. Палянка. Раніца. Пятрок, Тодар, Астап, Сымон капаюць доўгі і глыбокі роў.

Пятрок. Яшчэ чэрці на кулачкі не браліся, а нас сюды прыгналі гэты роў капаць. Нашто ён, каб хто ў іх запытаўся. Ці не здохлых коней закопваць?

Тодар. Ці коней, ці сабак — гэта для нас усё роўна. Але вярнуліся часы прыгону — вось што кепска.

Астап. Горш прыгону. Толькі і бачыш бізун ды шомпал. Толькі і чуеш енк катуемых ды шалёную лаянку паноў. Крыўдзяць і гвалтуюць без разбору. Нават за старых узяліся. Ну што ім зрабіў Агей? За сына закінуў слова, і вось за гэта не сёння-заўтра памрэ.

Пятрок. А што, Сымон, пра Надзею нічога не чуў?

Сымон. Як павялі яе, я думаў рукі на сябе налажыць. Потым апамятаўся і пайшоў у маёнтак. Не пусцілі ў палац. Я да позняй ночкі блытаўся там. Думаў, можа, хоць голас яе пачую. Ажно ўбачылі мяне, паскуды, і прагналі. Не ведаю, што там з маёю ластавачкаю.

Астап. Кажуць, з Мар'інай Горкі прывезлі аднаго. Вучоны і дужа разумны хлопец. Трымаецца смела і смехам на ўсё адказвае. Як ні стараліся паны, каб выведаць што-небудзь аб таварышах,— нічога не дабіліся.

П я т р о к. Кажуць, сёння будзе суд. Што чакае нашых сынкоў?

Т о д а р. Добрага чакаць няма чаго. Вельмі ўжо раз'еліся паны.

С ы м о н. Мужчынкі, дакуль жа цярпець такую крыўду? Была надзея на моладзь — прапала. Хутчэй бы ўжо свае прыйшлі.

А с т а п *(шэпча)*. Чуў я ад аднаго чалавека, што не сёння-заўтра бальшавікі тут будуць. Багушэвічы ўжо нашы.

П я т р о к. Дык вось чаму паны шалеюць! Эх, паспелі б яны вызваліць нашу моладзь! А то колькі можа легчы маладых галовак!

С ы м о н. Мужчынкі, паглядзіце, хто гэта да нас бяжыць?

Усе прыглядаюцца.

Т о д а р. Ды гэта ж Ганна Ціхонава. Чаго яна так бегчы завіхаецца?

Г а н н а *(яшчэ не дабегшы)*. Дзядзечкі, родненькія, што ж гэта ў маёнтку нарабілася! Прапалі мы!

А с т а п. Ды кажы хутчэй! Чаго дарма мелеш!

Г а н н а. Надзея паніча... зарэзала!

С ы н о к. Ай, прапала ж мая дачушка!

Усе глядзяць адзін на аднаго.

А с т а п. Як гэта было, ты не ведаеш?

Г а н н а. Самусь перадаваў, што паніч усё больш і больш пачаў прыставаць да Надзеі. Тады яна сказала, што калі паніч развяжа ёй рукі, яна на ўсё згодзіцца. Загарэліся блудам яго вочы. Вось ён развязаў рукі і схапіў Надзею. Тая як бы скарылася ды просіць давесці да канапы, каля якой на стале ляжаў вялізны паляўнічы нож. Вось неўзаметкі Надзея схапіла нож і, калі паніч, ахоплены жаданнем, не бачыў нічога, перарэзала яму горла. Зараз Надзейку катуюць на стайні.

**Сымон.** Рушылася апошняя надзея. Думаў, можа, злітуецца паніч: папалохае ды адпусціць. А зараз — прапала мая галоўка. Ды ці варта пасля гэтага жыць. Мужчынкі, зарыйце мяне ў гэты роў. Засыпце вочы мае сырою зямелькаю, каб не бачылі яны, як здзекуюцца з майго роднага дзіцяткі. *(Апускаецца на зямлю і плача.)*

**Астап.** Кінь, Сымон, выць. Думаеш, адзін ты такі няшчасны? А хто ведае, што чакае нашых сыноў? Можа, усе мы будзем роўна пакрыўджаныя. Дык вось не плакаць трэба, а пара падумаць аб помсце праклятаму ворагу.

**Усе.** Праўду Астап кажа!

**Ганна.** Каля стайні жудасна праходзіць. І крык, і стогны, і плач, і свіст бізуноў. Калі праходзіла міма, немаведама чыя рука прасунулася ў акенца і кінула вось гэту паперку.

Паказвае паперку, мужчыны глядзяць з зацікаўленасцю, потым з жалем круцяць галовамі, што непісьменныя.

**Ганна.** Пачакайце, тут за ўзгоркам хлапцы коней пасвяць. Я клікну якога-небудзь. *(Выбягае.)*

**Тодар.** Вось, браткі, што значыць быць цёмнымі. Можа, тут *(паказвае на паперку)* і надта важнае што; можа, у гэтых радках крыецца збаўленне нашым дзеткам. А ты стой як слуп і лыпай вачыма.

**Астап.** Затое ад нашай цемнаты вялікая карысць панам. Яны ж і школы нашы ўсюды пазакрывалі. Калі будзеш вучыцца па-польску — на табе школу. Нават ксёндз прыязджае і дае дзецям цукеркі, каб тыя добра стараліся вучыць польскую абэцэдлу.

Бяжыць **Ганна** з **хлапцом.**

**Ганна.** Ледзь упрасіла вось гэтага грамацея. «Не пайду і чытаць не буду — палякаў

баюся». Давяла, што ніякіх палякаў тут няма. Толькі тады згадзіўся.

А с т а п. Не бойся, хлопчык! Бачыш, тут усе свае. Прачытай нам вось гэта. *(Дае яму паперку.)*

Х л о п ч ы к *(разбіраючы па складах).* Хто па-ды-ме гэ-тую па-пер-ку, хай за-раз жа дасць знаць у Пя-рэ-джа-ра, каб сён-ня ка-неш-не тут бы-лі род-ны-я. Нас а-су-дзі-лі на расстрэл.

Мужчыны павыпускалі з рук лапаты і стаяць як аглушаныя.

Г а н н а *(плача).* Што ж гэта робіцца? Калі ж пераЖыць гэта страхоцце! Адзінаццаць чалавек! О! Хай бы ўсяго гэтага вушы не чулі і вочы не бачылі.

Т о д а р. Значыцца, і майго Рыгорку. Ах, сынок мой, а ты ж усё мне казаў: «Пачакай, тата, прыйдуць бальшавікі, вызваляць нас з-пад панскай пяты, і стане шчасце на нашай зямлі». Не давядзецца, маё дзіцятка, убачыць табе гэтае шчасце.

Х л о п ч ы к. Ай, паляк ідзе!

Кідаюцца з Г а н н а й у лес. Уваходзіць с а л д а т.

С а л д а т. Што, ужо гатова? Зараз можаце ісці дахаты.

Т о д а р. Можа, пан ведае, навошта мы гэты роў капалі?

С а л д а т. Навошта? Сёння будзеце ведаць.

М у ж ч ы н ы і с а л д а т пайшлі. Выбягае Г а н н а.

Г а н н а. І навошта яны прымусілі вырыць гэты роў, і абавязкова бацькоў арыштаваных? *(Падыходзіць да рова.)* А які ж шырокі і глыбокі!

Выбягаюць перапалоханыя Н а с т а і А ў д у л я.

Н а с т а. Ганулька, ці не бачыла, дзе тут хлапцы коней пасвяць?

**Г а н н а.** Чаго вы такія перапалоханыя? Вы зараз з Харавіч? Ці не нарабілася там зноў чаго?

**А ў д у л я.** Прыйшлі салдаты коней адбіраць. Калі даведаліся, што коні на пашы, дык думаюць там іх пахапаць.

**Г а н н а.** Бяжыце за гэты вось ельнік. Там, каля Крываля, яны.

А ў д у л я і Н а с т а бягуць.

**Г а н н а.** Добра, што не запыталіся, чаго я тут. Ну што я ім адказала б? Няўжо не дачакаюся Самуся? Казаў, што каля паўдня будзе тут і раскажа ўсе навіны. Хаця б не падвёў ён мяне. Але, здаецца, не зробіць ён гэтага, тым больш са мною. Вось і паляк, а які чалавек! Сам ненавідзіць гэтых паноў. *(Пазірае ўбок.)* Хто гэта так бяжыць? Нейкая жанчына.

Прыбягае З о с я. Яна запыленая і стомленая.

**З о с я.** Сястрыца, родная, як гэта дайсці да маёнтка Дукоры?

**Г а н н а.** Хіба ты не тутэйшая? Вось гэтаю дарогаю трэба ісці. Яна завядзе ў маёнтак.

**З о с я.** А далёка яшчэ?

**Г а н н а.** Вярсты дзве.

**З о с я.** Дзякуй табе, сястрыца. Першы раз давялося тут хадзіць.

**Г а н н а.** А якая ж патрэба табе?

**З о с я** *(заплакаўшы)*. Няшчасце прывяло. Я з Пярэджара. Пачулі мы, што ў Мар'інай Горцы палякі арыштавалі нашага Міхася і прыгналі сюды.

Ганна здагадалася, аб якім Міхасю гаворыць дзяўчына, і з болем у сэрцы глядзіць на яе.

Як пачулі мы аб гэтым, дык маму ледзь адратавалі, а я зараз жа сюды сабралася. Ці давядзецца мне ўбачыць свайго роднага братку?

Г а н н а. Іх судзілі сёння. Не ведаю, ці пусцяць цябе да яго.

З о с я. Ужо судзілі?! А ты не ведаеш, да чаго прысудзілі? Гавары, золатка, не таіся.

Г а н н а *(збянтэжана)*. Не... я нічога... не чула. Ды іх, знаць, р... распусцяць.

З о с я. Ой, маніш ты нешта, чуе маё сэрца! *(Бяжыць у бок маёнтка, моцна галосячы.)* А Міхаська наш дарагі... А братка мой родны!

Ганна апускаецца на зямлю і таксама плача.

Г а н н а. Як шкада яе! Ды як не шкадаваць іх. Маладзенькія, уся надзея бацькоў. Страшна нават падумаць, што іх сёння чакае!

Недалёка хруснула сухая галінка. З-за куста паказваецца С а м у с ь, бачыць Ганну і падбягае да яе.

Г а н н а. Ай, як я спалохалася! Не чакала цябе з гэтага боку.

С а м у с ь. Супакойся, Ганулька. Трэба было так рабіць, каб ніхто не бачыў.

Г а н н а. Кажы, якія навіны. Праўда, што хлопцаў асудзілі на расстрэл?

С а м у с ь *(здзіўлены)*. Адкуль ты гэта ведаеш?

Г а н н а. Калі прабягала я каля стайні, дык з акна выпала паперка. Напісаў яе гэты мар'інагорац. Піша, што быў суд і іх усіх расстраляюць. Просіць, каб далі знаць родным, хоча пабачыцца. Я думала сама бегчы ў Пярэджара, ажно толькі што прабягала дзяўчына, якая пыталася дарогі ў маёнтак. І вось я даведалася, што гэта сястра Міхася.

С а м у с ь. Праўда, Ганулька, куля чакае нашых хлопцаў. Не з Надзеяй, а з ёй ажэніцца Андрэй. Калі сказалі ім аб гэтым, дык некаторыя не вытрымалі і сталі плакаць, але Андрэй з Міхасём пачалі іх сароміць, і тыя пакінулі. І што за чалавек гэты Міхась. На кож-

пае пытанне паноў толькі засмяецца ды скажа: «Не турбуйцеся, панове, нічога вам ад мяне не даведацца. Бальшавікі — асобага складу людзі». Ні лютыя катаванні, ні спакуслівыя прапановы не зламілі яго. Такі ж і Андрэй. Сядзяць, абняўшыся, і спяваюць рэвалюцыйныя песні.

Г а н н а. А што з Надзеяй?

С а м у с ь. Пасля таго як яна зарэзала паніча, яе схапілі і катавалі, колькі хацелі. А зараз яна зноў ляжыць звязаная ў палацы. Я скарыстаў момант, калі нікога не было паблізу, прабраўся да яе і напаіў вадою. Як яна глядзела на мяне! Колькі ў яе вачах было мукі і ў той жа час удзячнасці! Гэты позірк назаўсёды застанецца ў маім сэрцы.

Г а н н а. Пазіраю я на цябе, Самусь, і дзіўлюся. Ты таксама паляк, але як ты далёк ад гэтых раз'юшаных паноў! *(Глядзіць на яго з замілаваннем.)*

С а м у с ь. Бо ёсць, Ганупя, палякі — паны і палякі — чорная костка. Я належу да апошніх, і адна з вамі дарога ў нас.

Г а н н а. А ты, Самусь, не ведаеш, дзе будуць хлопцаў расстрэльваць?

С а м у с ь. Баюся, каб не спужаць цябе.

Г а н н а. Ты, не гаворачы адразу, яшчэ больш палохаеш мяне.

С а м у с ь. Бачыш гэты роў? Ворагам зажадалася, каб самі бацькі сваім сынам вырылі агульную магілу.

Г а н н а. Які здзек! Няўжо ж не расступіцца зямелька-маці і не паглыне гвалтаўнікоў!

С а м у с ь. Паны ў вялікай трывозе. Яны прадчуваюць, што нядоўга ўжо разгульваць па гэтай зямлі. Вось чаму яны шалеюць і спяшаюцца з расстрэлам. Нават паніча пастараліся хутчэй пахаваць. Быццам яго і не было. Мне здаецца, што і пра Надзею яны зараз забылі.

Ганна. Ого, забудуць яны пра яе. Ціха... Чуеш, Самусь, песня.

Пільна прыслухоўваюцца.

Самусь. Няўжо іх вядуць? Сюды... Ганулька, схаваемся.

Бягуць у лес. Песня расце і расце.

Вихри враждебные веют над нами...

Раптам песня спыняецца.

Галасы. Хутчэй ідзіце, галганы!

— А чаго нам спяшацца? Дайце ў апошні раз надыхацца, наглядзецца на прыроду.

— Зараз прырода ўжо не для вас.

— Хіба для вас? Дык яна ж ад вас хмурнее і апранаецца ў чырвоны колер ад крыві народа.

На сцэну выходзяць асуджаныя. Андрэй і Рудовіч наперадзе. Усіх іх абкружаюць узброеныя салдаты. На некаторай адлегласці велізарны натоўп народу. Жанчыны плачуць, мужчыны пахмурныя. Тут жа і Баравік.

Рудовіч. Вось, сябры, наша апошняя прыстань. Рана мы даплылі да яе. Думалася інакш. Не давялося. У самым пачатку нашай барацьбы наляцеў бязлітасны сівер і змяў яшчэ добра не расцвіўшыя чырвоныя кветкі. Жыццём паплаціліся тыя, якія асмеліліся паказацца з травы. Але ў апошняй засталіся мільёны маладзенькіх кветачак, якіх не заўважыла варожае вока. Гэтыя кветачкі, палітыя нашай крывёю, узмацняцца і смела сустрэнуць злы сівер. Не адолець будзе яму іх. Народзе мой любы! Спадзявайся і вер, што хутка дзень твайго вызвалення. Я чую, як з Усходу даносіцца магутны крок нашых братоў, якіх вялізная партыя Леніна паслала вызваліць нас з ланцугоў панскай няволі!

Зося. Міхаська наш дарагі! А хто ж нас з

мамкай будзе цешыць. Мамка родная! А ты ж не ведаеш, што не ўбачыш больш свайго сыночка! А няўжо ж тваё матчына сэрца табе нічога не гаворыць?!

Рудовіч *(прачулена)*. Зоська, падыдзі да мяне.

Тая кідаецца да брата. Міхась бярэ яе за галаву і цалуе ў твар і вочы.

Скажы, сястрыца, маме, што я пайду ў гэты роў, любячы яе. Хай доўга не плача. Так трэба. Скажы таварышам па школе, што я паміраў, смела гледзячы смерці ў вочы і шчыра верачы ў нашу хуткую перамогу. Хай адпомсцяць за нас! Ну а зараз ідзі, не плач.

Зося *(абняла брата і крычыць)*. Я не адыду ад цябе! Хай і мяне страляюць разам з табою. Усё роўна нам без цябе не жыццё!

Увесь гэты час афіцэры ўбаку аб чымсьці радзяцца, салдаты стаяць, апусціўшы галовы, народ плача наўзрыд.

Паручнік *(падыходзіць да асуджаных)*. Хопіць цалавацца і мілавацца!

Салдаты адрываюць ад Міхася Зосю, тая апускаецца на зямлю.

Андрэй *(зусім слабы)*. Таварышы! Зараз загінем мы, але не загіне наша справа. Наша смерць будзе пачаткам шчаслівага жыцця для мільёнаў. Скажыце майму старэнькаму татку і Надзеі, што за нас і за іх адпомсцяць так, што зямля задрыжыць.

Паручнік. Стройся!

Салдаты становяцца ў рад і падымаюць карабіны. Асуджаных ставяць спіною да рова. Народ адганяюць, але ён не кратаецца з месца і з жудасцю ў вачах глядзіць на тое, што робіцца.

Гатоўся!

Салдаты цэляцца. Рудовіч спявае: «Вихри враждебные...»

Страляй!

Залп. У гэты ж час з боку двара без хусткі, з распушчанымі валасамі бяжыць Н а д з е я.

Н а д з е я. Андрэйка!!

Андрэй рынуўся наперад і падае з прастрэленымі грудзямі, астатнія хлопцы таксама падаюць у роў. Надзея падбягае да Андрэя і апускаецца на калені каля яго. Бяжыць с а л д а т з крыкам.

С а л д а т. Панове, уцякайце! Бальшавікі ў маёнтку!

П а н ы, як звар'яцелыя, кідаюць карабіны і імчацца ў лес.

Н а р о д *(радасна ўскрыквае)*. Дачакаліся!
— Узышло яснае сонейка!
— Каб хвіліначку раней!

Н а д з е я. Андрэйка, родны мой! Нашы ж прыйшлі!

М і х а с ь з С а м у с ё м вядуць са звязанымі рукамі Б а р а в і к а.

С а м у с ь. Вось юда! Ён выдаў хлопцаў!
У с е. Баравік?!
М і х а с ь. Хацеў уцячы разам з панамі. Але мы сачылі за ім. Што з ім будзем рабіць?
У с е. Смерць! Павесіць!
Н а д з е я. Дык вось за што ты дапушчаны быў у палацы, сабака? Я бачыла, як ты там лізаў панам...

Бяжыць н е к а л ь к і ч ы р в о н а а р м е й ц а ў. Народ іх радасна вітае.

Ч ы р в о н а а р м е е ц. Таварышы, у маёнтку мы даведаліся, што сюды павялі расстрэльваць партызан. Няўжо мы спазніліся?
Т о д а р. Спазніліся, даражэнькія. Усіх іх паглынула сырая зямелька, толькі адзін вунь

застаўся наверсе: не хацелася яму ў цёмную зямлю, ён усё цягнуўся да свету.

Чырвонаармейцы падыходзяць да рова і здымаюць шлемы. Хвіліна глыбокага маўчання.

Чырвонаармеец. А хто гэта са звязанымі рукамі?

Самусь. Гэта, таварышы, здраднік. Ён выдаў партызан.

Чырвонаармейцы. Смерць гаду!!

Надзея *(падыходзіць да чырвонаармейцаў)*. Таварышы, я больш за ўсіх маю права на помсту: паны здзекаваліся з мяне, яны забілі майго Андрэйку, яны здзекаваліся з усяго народа. Дык дазвольце мне стаць з вамі плячо ў плячо, каб помсціць ворагам за ўсе гэтыя крыўды.

Чырвонаармеец. Страляць умееш?

Надзея. Андрэй навучыў.

Чырвонаармеец. Бяры карабін у ворага і станавіся ў нашы рады.

Надзея паднімае карабін і становіцца разам з чырвонаармейцамі.

Самусь і Міхась. Дазвольце і нам.

Чырвонаармеец. Станавіцеся.

Самусь і Міхась таксама паднімаюць карабіны і становяцца разам з Надзеяй.

Астап. Таварышы чырвонаармейцы, мая рука яшчэ даволі цвёрдая, каб трымаць зброю. Вазьміце мяне!

Чырвонаармеец робіць знак рукою, каб станавіўся ў строй. Сярод мужчын рух. Маладзейшыя выходзяць і папаўняюць шэрагі мсціўцаў.

Чырвонаармеец. Таварышы, вы бачыце перад сабой заўчасна загінуўшых барацьбітоў. Дык хіба ж мы не дамо над гэтымі дара-

гімі нам трупамі ўрачыстай клятвы адпомсціць вычварам чалавецтва за ўсе іх чорныя справы!

Усе. Помста! Помста!

— Хай жыве Чырвоная Армія!

Чырвонаармеец *(да старэйшых)*. А вам, бацькі, пакідаем вось гэтага юду. Павесьце яго!

Тодар. Выберам самую горкую асіну. *(Падыходзіць да Баравіка.)*

Чырвонаармеец. А зараз, браты, на ворага!

Ідуць у нагу і спяваюць:
«Смело мы в бой пойдем...»

Заслона.

1922

# ПЕСНІ НАШЫХ ДЗЁН

**П'еса ў 2-х дзеях**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Андрэй Саболь, былы матрос, актывіст, бядняк, 27 год.
Марыля, яго жонка, 25 год.
Банадысь, Марылін брат, 24 гады.
Тарас Баравік, Банадысёў бацька, серадняк, 50 год.
Матруна, Тарасава жонка, 45 год.
Анупрэй, Андрэеў бацька, 65 год.
Дрозд Язэп, кулак, 50 год.
Пятрок, дэмабілізаваны чырвонаармеец, 27 год.
Антось, каваль, актывіст, 25 год.
Дубаў, прадстаўнік з цэнтра, ён жа і аграном, 30 год.
Струновіч, настаўніца, 23 гады.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Андрэева хата. На печы дзед Анупрэй. Марыля гушкае дзіця.

Марыля *(спявае калыханку).*
А-а-а-а, люлі...
Пайшлі каткі ў дулі.
Памарозілі лапкі,
Узлезлі на палаткі...
Сталі лапкі грэцца —
Недзе каткам дзецца...
*(Да бацькі.)* Тата... Устаньце.

Анупрэй. Чаго там табе?

Марыля. Андрэя няма. Ноч. Баюся я нешта.

Анупрэй *(садзіцца на печы).* А чаго поначы хадзіць. Яму дня мала. *(Злазіць з печы.)* Я сходжу. Можа, дзе напаткаю.

Марыля. Схадзіце, татка. А то ўсякія думкі лезуць у галаву.

Анупрэй *(апранаючыся).* Што, не спіць Уладзік?

Марыля. Відаць, зубкі будуць. Паліць і дзёсенкі чырвоныя. *(Заглядае пад полаг у калыску.)* Заснуў.

Анупрэй выходзіць, Марыля сядзіць задуменная. На двары забрахаў сабака. Марыля бяжыць да акна і пільна ўглядаецца ў цемру. У сенцах стук — нехта абцірае ногі. Марыля хутка ідзе да калыскі. Уваходзіць Матруна.

Матруна. Ты адна?

Марыля. Адна. Вось з Уладзікам баўлюся. Відаць, зубкі будуць.

Матруна. А дзе ж твой? Усё брэша?

Марыля *(пакрыўджана).* Выбачайце, мама. Андрэй не варты такіх слоў!

Матруна. Ды ведаю, ведаю, што ты за яго горлам. Пачакай, давядзе да торбы!

Марыля. Гэта вы так думаеце. А ён хоча, каб скінулі торбы і тыя, што яшчэ і цяпер іх маюць.

Матруна. А хто начапляў торбаў? Усё гэтыя, разумныя.

Марыля. Хто гэта?

Матруна. Ды што — брахаць добра ўмеюць. Андрэі, Банадысі.

Марыля. Банадысь — ваш сын!

Матруна *(злосна)*. І твой брат!

Марыля. Я ганаруся такім братам!

Матруна. Во, дык хіба я не ведаю! Не адну навуку прайшлі?

Марыля. Дык каму гэта, мама, Андрэй з Банадысём торбы павешалі?

Матруна. А хіба ты не да торбы ўжо дайшла? А ўсё праз разумненькага мужыка! Не пайду кланяцца Дразду! А што, каб і пакланіўся? І галава не адвалілася б, і зацішней было б.

Марыля. Ну, мама, Андрэй Дразду не пойдзе кланяцца! Бо пакланіцца яму — гэта надзець торбу на плечы!

Матруна. І чаму гэта яму больш за ўсіх трэба выстаўляцца?!

Марыля. Такім ужо ён урадзіўся. І ніхто яго не перайначыць.

Матруна. Даскачацца! Пачакай.

Марыля *(неспакойна)*. Чаму вы гэтак кажаце, мама? Ведаеце што? Кажыце!

Матруна. Нічога я не ведаю. Эт, сям-там гавораць.

Марыля. Што гавораць?

Матруна. Ды чаго да мяне прыстала сляпіцаю!

Марыля. Мама, кажыце праўду: што кажуць пра Андрэя?

Матруна. А тое і кажуць, што калі б не ён, дык і з гэтым праклятым калектывам не было б турбаніны.

Марыля. А хто гаворыць?

Матруна. Ну, ці бачылі вы гэта? Дык ці мала ж гаворацца? Вось і Клім Дрозд.

Марыля. Ненавідзіць ён Андрэя. Хоць і прыкідваецца лісіцаю.

Матруна. Дык вось, дачушка, стрымлівай Андрэя. Ён цябе любіць. Пусціся на ўсе бабскія слабасці — паслухае.

Марыля. Мама, я ўжо казала, што Андрэя ніхто не перайначыць. А я, калі і магла б, дык гэтага не зрабіла б. Хіба ён дрэннае што робіць? Усім дабра хоча.

Матруна. І Драздку?

Марыля. Калі я сказала ўсім, дык думала такім, як мы самі.

Матруна. Вой, божачкі мае! Што з гэтаю кабетаю зрабілася? Зусім перавярнуў у сваю веру! Марыля, наплачашся! Паслухай матку!

Марыля. Ды чаго вы ўсё грагаеце? Боязна з вамі!

Матруна. А-а-а... З роднаю маткаю боязна! Што ж гэта — вораг я табе?

Марыля. Прыяцель не будзе рабіць гэтак, як вы.

Матруна *(устае, злосна)*. Ну, дык і аставайся здарова, дачушка. На парог твой больш і следу не палажу!

Марыля. Так, мамка, як з гэткім прыходзіць, дык лепш зусім не хадзіць!

Матруна. Цьфу на цябе! Прападайце вы і з насеннем вашым.

Марыля. Мама!

Матруна, моцна стукнуўшы дзвярамі, выходзіць. Прачнуўся Уладзік. Марыля калыша яго, зноў спяваючы калыханку. Супакоіўшы малога, яна зноў

нешта задумалася, нават не чуе, калі адчыняюцца дзверы і ўваходзіць Дрозд. Толькі ад стуку дзвя-рэй апомнілася.

Марыля. Андрэй, гэта ты? *(Бяжыць да дзвярэй.)*

Дрозд. Гэта я, хросная. Добры вечар!

Марыля. Добры вечар. Сядайце.

Дрозд. Ну, як маешся, хросная? Можна віншаваць з чынамі?

Марыля. Я вас не разумею. Вы нечага прыйшлі?

Дрозд. Ды не, проста пагуляць прыйшоў да хроснай.

Марыля. Ніколі вы дагэтуль не хадзілі. Прабачайце. Сядайце, калі ласка.

Дрозд. Сяду. Сяду. *(Садзіцца.)* Адна?

Марыля. Андрэй на сходзе. А тата недзе выйшаў.

Дрозд. Усё калектыў гарнізуе. Пятлю людзям на шыі завязвае! Хэ-хэ-хэ! Мудрагель!

Марыля. А можа, развязвае петлі?

Дрозд. Не, хросная, завязвае! Мёртвым вузлом! Ужо дыхаць цяжка!

Марыля. Каму? Вам?

Дрозд *(ціха, цяжка дыхаючы)*. Слухай, хросная, уймі Андрэя. Што ён на мяне, як шалёны звер, кідаецца? Вось і цяпер са сходу прагнаў. Хутка ўсіх на свой бок перацягне. Пішуцца...

Марыля *(радасна)*. Пішуцца? Шмат?

Дрозд. Чаго страпянулася? Рада? Пачакайце! Пачэзнеце з голаду! Голым целам свяціць будзеце! Агульныя жонкі будуць. Сёння з адным, а заўтра з другім будзеш! Як быкі ў чарадзе — будуць распуснікі. Усякі сорам страціце. А можа, ужо бессаромная? *(Накіроўваецца да Марылі.)*

Марыля *(хаваючыся за калыску)*. Ідзіце адсюль! Ай, людзі!

Дрозд. А, яшчэ не страціла. Добра. Слухай, хросная, набліжаецца канец свету. Паўстаў народ на народ. Царства на царства. Дзеці на бацькоў, сёстры на братоў, жонкі на мужыкоў. Хутка спадзе з неба агонь і паглыне ўсё. Ужо анцыхрыст пайшоў па зямлі і наварочвае людзей на сваю веру. Твой Андрэй ужо запрадаўся яму! Ратуй яго, пакуль не позна!

Марыля. Ай, я баюся вас! Ратуйце!

Дрозд. Угавары Андрэя. Чуеш? Хросная! *(Накіроўваецца да яе.)*

Марыля *(крычыць)*. Андрэй!

Дрозд хутка выходзіць з хаты. Досыць доўгая паўза. У сенцах стук і галасы. Уваходзяць Андрэй, Пятрок, Антось, Дубаў і Анупрэй.

Марыля. Андрэй!

Андрэй. Што, Марыля?

Марыля. Андрэй, не кідай мяне адну! Я баюся! Чуеш?

Андрэй. Ну, супакойся. Раскажы, што здарылася?

Марыля. Андрэй! Сцеражыся! Мне страшна, каб табе чаго не было!

Андрэй. Чаму? Чула што?

Марыля. Матка прыходзіла. Каркала ўсё. А потым Дрозд быў.

Андрэй. Чаго ён прыходзіў?

Марыля. Страшыў. Андрэй, я яго баюся! *(Прытульваецца да Андрэя.)*

Андрэй. Дурненькая. Трэба было качаргою яго гнаць.

Марыля. Андрэй, пашкадуй сябе, мяне і Уладзіка. Ты ж адзін.

Андрэй. Як гэта я адзін? А гэта хто? *(Паказвае на тых, што прыйшлі з ім.)*

Анупрэй. Табе больш як усім трэба. Гаспадаркі лепш пільнаваўся б!

Андрэй. Тата, памаўчы лепш!

Анупрэй. Ды я нічога. Але вось яе і яго *(паказвае на калыску)* шкада.

Андрэй. Ды што за глупства! Аб якой небяспецы вы трубіце? Марыля, што яны тут гаварылі?

Марыля. Страшылі агнём нябесным і анцыхрыстам.

Андрэй. Дык ты гэтага і спалохалася?

Марыля. Не маленькая я, Андрэй. Разумею, што да чаго. Бойся Драздоў!

Андрэй. Ха-ха-ха! Слухай, Марыля, хутка мы іх абскубём!

Усе смяюцца.

Андрэй. Бачыце, таварышы, якія манеўры выбірае вораг? Хітры, падлюга!

Дубаў. А ты думаў, што ён супакоіўся? Наадварот, цяпер ён актыўнічае, як ніколі, бо гэта апошнія яго дні!

Пятрок. Я ўношу прапанову — зараз жа забраць Дразда і пасадзіць на двайны паёк.

Дубаў. Як гэта?

Пятрок. А так: адзін паёк хай міліцыя выдае, а другі жонка з дому.

Дубаў. А... а... Разумею. Пачакаем трошкі, таварышы. Як казаў Андрэй, хутка іх абскубём і выпусцім на любы свет. Хай тады актыўнічае сабе. А цяпер давайце пагутарым пра ацэнку маёмасці.

Марыля зусім супакойваецца, Андрэй, Дубаў, Пятрок і Антось сядаюць за стол, Анупрэй узлазіць на печ.

Дубаў. Таварышы, я думаю заўтра ж узяцца за ацэнку маёмасці, ды не адных тых гаспадароў, што запісаліся, а і тых, што адмовіліся. Гэта патрэбна, каб не разбазарылі гаспадаркі.

Антось. Добра кажаш. Нават з беднаты некаторыя думаюць, што ў калектыў можна ісці з голымі рукамі: дзяржава ўсё дасць!

Д у б а ў. Разам з ацэнкай трэба ўзяцца і за абагульненне насення. Пара ўжо брацца чысціць: праз два месяцы сяўба.

А н д р э й. А дзе ссыпаць будзем?

Д у б а ў. Гэта трэба падумаць.

П я т р о к. Я ўношу прапанову.

Д у б а ў. Ты ўсё з прапановамі. Ну, кажы.

П я т р о к. Узяць царкву ды ў ёй і ссыпаць.

Д у б а ў. У яго ўсё — узяць. А ці дадуць?

П я т р о к. А ў каго яшчэ пытацца?

А н д р э й. Прапанова Пятра вельмі слушная. Трэба гэта пытанне паставіць на бліжэйшым агульным сходзе. Калі згодзіцца насельніцтва, дык збяром подпісы, і па ўсёй справе.

А н у п р э й. Хлопцы, не чапайце царквы! Не дражніце народ.

А н д р э й. А скажы, тата, калі ты ў царкве быў?

А н у п р э й. Не быў даўно і цяпер не збіраюся. Але стаіць — хай стаіць. Яна ж есці не просіць.

А н д р э й. Ну, а як ты думаеш, у калгасе патрэбна царква?

А н у п р э й. А хто вас ведае: будзеце вы шлюб браць, хрысціцца ці не?

А н д р э й. А як па-твойму?

А н у п р э й. Нешта не відаць. Хутчэй шпэктаклі свае там заведзяцё.

Уваходзяць Б а н а д ы с ь з настаўніцаю С т р у н о в і ч.

Б а н а д ы с ь. Добры вечар, Марыля!

М а р ы л я. Добры вечар!

Струновіч падыходзіць да калыскі.

С т р у н о в і ч. Уладзік спіць?

М а р ы л я. Нешта маркоціцца. Відаць, зубкі будуць.

С т р у н о в і ч *(заглядае пад полаг).* У-у, які здаравяк! Добры вечар, калгаснікі!

Б а н а д ы с ь. Таварышы, я толькі што ад бацькі. Ён ні прыступу, не хоча ў калектыў. Я наважыў адзін увайсці ў калгас.

М а р ы л я. А бацькоў кінеш?

Б а н а д ы с ь. А як ты думаеш, сястра: з-за іх упартасці я павінен ісці супроць сваіх жаданняў?

М а р ы л я. Паспрабуй іх угаварыць.

Б а н а д ы с ь. З бацькам яшчэ можна гаварыць, а з маткай — ані-ні.

А н д р э й. Пракляты Дрозд іх з'агітаваў. Кумы!

С т р у н о в і ч. А мне здаецца, дзядзьку Тараса вельмі лёгка пераканаць. Асабліва табе, Банадысь, бо бацька гэтак цябе любіць і паважае.

Б а н а д ы с ь. О, каб гэта зрабілася надзейнай зброяй у маіх руках? Тады — нашто там што.

М а р ы л я. Андрэй, нехта ў акно глядзіць са двара!

Усе ўстаюць.

Андрэй, адыдзі ад акна!

А н д р э й. Марыля, што табе робіцца? Ну, чаго ты ўся затрэслася?

У сенцах стук. Усе ўстрывожана глядзяць на дзверы. Дзверы адчыняюцца, і ў хату ўваходзіць Т а р а с.

Т а р а с. Банадысь, запісаўся?

Б а н а д ы с ь. Не, тата. Чакаю, пакуль ты адумаешся. Добра, што прыйшоў.

Т а р а с. Не, сынок, мяне-то ты не дачакаешся. Я табе гэта казаў.

Б а н а д ы с ь. Ну, тады не прыйдзецца чакаць цябе. Андрэй, дай спіс.

Андрэй дастае спіс.

Т а р а с *(падбягае да Банадыся).* Банадысь! Не пішы! Пракляну! Выракуся!

Б а н а д ы с ь. Пусці, тата! Я не маленькі. Сам ведаю, што раблю! Досыць ужо за бацькавы штаны трымацца!

Т а р а с. Не дазволю! Ты гэтага не зробіш! Банадысь! Сынок!

Б а н а д ы с ь. Скажы, тата, сёння ты бачыўся з Драздом?

Тарас маўчыць.

Чаго ж ты маўчыш? Ну, вядома, бачыўся. Ужо наспяваў, брыда!

Т а р а с. Банадысь! Гэта на хроснага бацьку?!

Б а н а д ы с ь. А на ліха ён мне, такі бацька! Калі сустрэну, дык я яму пакажу сынаву ласку!

Т а р а с. Ты ашалеў? Як ты важышся на такога паважанага чалавека ды яшчэ хроснага бацьку руку падымаць? Ды я хутчэй цябе самога... чым дазволю зрабіць гэта!

Б а н а д ы с ь. Ну, тата, не палохай! І не гавары глупства! Калі будзеш гаварыць толкам, дык гавары, а не, дык і слухаць цябе не хачу!

Т а р а с. Гэта мой Банадысь гаворыць! Мой адзіны сын! Дык выракаюся я цябе! Няма больш у мяне сына! Няма!

М а р ы л я. Тата, тата! Апамятайцеся!

Т а р а с. І ты не мая! Анцыхрыставы вы дзеці. Прэч ад мяне! Прэч!

Б а н а д ы с ь. Ну, дому ў мяне цяпер няма. Адзін. Вольны, як вецер у полі. Давай, Андрэй, ліст. *(Бярэ ліст і запісваецца.)*

Тарас стаіць як слуп, да Банадыся падыходзіць Струновіч.

С т р у н о в і ч. Банадысь, ты сказаў, што адзін... А ці не памыліўся ты? Га?

Банадысь. Прабач, Вяруся... Так, я не адзін!

Тарас *(быццам спрасонку)*. Быў... Радаваў бацькава сэрца. І — няма! *(Паступова твар яго робіцца страшным, ён гаворыць шэптам, з перапынкамі.)* Дык... не пры-ходзь... Чуеш? А то кепска будзе!

Банадысь. Не прыйду! А частку з гаспадаркі мне суд дасць. Будзеце з міліцыяй мець справу.

Марыля плача. Тарас ціха, апусціўшы галаву, выходзіць з хаты. Цяжкая маўчанка.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Тарасава хата. Яшчэ досвітак. Спяваюць трэція пеўні. Тарас і Матруна не спяць.

Матруна *(гледзячы ў акно)*. Ужо трэція пеўні спяваюць і сітцо пад поўню падбіраецца. А яго няма. Слухай, Тарас, чаго ты маўчыш і воўкам пазіраеш? Ты бачыў на сходзе Банадыся? Чаму ён не прыходзіць дадому?

Тарас. Мабыць, і зусім не прыйдзе.

Матруна. Чаму ён не прыйдзе? Здарылася што? Ды кажы ты, стары дурань! Матачкі мае! Што ж гэта робіцца! *(Плача.)*

Тарас. Ціха! Варона старая. Ліха яго не возьме. У калектыве будзе жыць.

Матруна *(перасціхае плакаць)*. Чаму? Запісаўся?

Тарас. А ты думала ў цябе прыйдзе пытацца?

Матруна. А ты дзе быў? Я пытаюся, дзе ты быў, рашэціна старая? На што дазволіў яму запісацца? Га?

Тарас. Годзе! Не ўспамінай мне яго. Чуеш? *(Трасе кулакамі перад Матрунаю.)*

Матруна. Чаго ты размахаўся, як вятрак? Цьфу на цябе!

Тарас. Вырадзіла сокала.

Матруна. Ад цябе ж ёлупа.

Тарас падыходзіць да стала, садзіцца на лаве і аберуч бярэцца за галаву. Матруна плача.

Матруна. А хто ж нашу старасць дагледзіць. А дзеткі ж нас выракліся. А божа ж мой, божа!

Тарас. Годзе, Матруна! Ну, пакінь. Такі ўжо свет настаў. *(Падыходзіць да яе.)* Будзем ужо неяк дажываць век. Пакінь. Думаеш, адны мы такія?

Садзіцца каля Матруны. На вуліцы гармонік і дрындушка.

Хлопцы.
У калгасы, дзеўкі, стосам,
Бо жыць у вёсцы — марната,
Хутчэй, дзеўкі, а то з носам
Вас пакінем, дурната!..
Дзяўчаты.
Мы за вамі, хлопцы, гужам,
Бо на шнуры цяжка жаць,
Кулакам мы больш не служым —
Будзе час і паляжаць!
Хлопцы.
У калгасе ўбачым жыцце,
Будуць свінні — іаркшыр...
Ой, ды дзеўкі, вы не выйце...
Песні слухайце машын!
Дзяўчаты.
Самі, хлопцы, не трусіце,
Ідзіце смела у калгас...
А ўжо нас вы не прасіце,
Бо мы ўсе — бягом да вас!

Рогат і выкрыкі, зноў гармонік і дрындушка. Але паступова яны сціхаюць. Увесь час, як спявала моладзь,

старыя сядзяць адно пры адным, пільна прыслухоўваючыся да дрындушкі.

Т а р а с. Чуеш, Матруна, новыя песні!

М а т р у н а. Ціха. Нехта на дварэ стукнуў. Можа, Банадыська?

Т а р а с. Не, старэнькая, я сказаў, што ён не прыйдзе. Сам я вінаваты.

М а т р у н а. Чаму? Скажы ты мне толкам, што ў вас было?

Т а р а с. У Андрэя здарылася. Пасля сходу заходжу туды, а там — усе разумнікі. І Банадысь з імі. Вось тут і здарылася.

М а т р у н а. Што?

Т а р а с. Выракся я сына! Пракляў!

М а т р у н а. Пра-к-ля-ў? *(Асела на ложак.)*

Т а р а с. Матрунка, што табе? *(Падышоў да яе.)*

Уваходзіць Д р о з д.

Д р о з д. Добры вечар ці добры дзень, старыя! *(Глядзіць на ложак.)* Што гэта, грэецеся? Ха-ха-ха! Вось табе і старыя!

Бачыць, што ніхто не адзываецца, падыходзіць да ложка бліжэй.

Д р о з д. Што гэта з кумою?

Т а р а с. Слабасць... відаць, учадзела. Рана комін звечара зачыніла.

Матруна ціха стогне.

Д р о з д. Сцюдзёных журавін пакласці ў вушы. Адразу пройдзе чад.

Т а р а с. Абыдзецца і без журавін. Хай спакойна ляжыць. *(Адыходзіць да стала.)*

Д р о з д. Ну, кум, пятля ўжо на шыі. Давай патроху развязваць.

Т а р а с. Я цябе не разумею.

Д р о з д. З сённяшняга дня пачнуць ацэнь-

ваць маёмасць. Хто запісаўся і хто не запісаўся. Усіх.

Т а р а с. Нага іх не будзе ў мяне на двары!

Д р о з д. Разумна, кумок, развражаеш, разумна! Эх, каб усе такія былі! Банадысь добра ведае гаспадарку. І без цябе ацэняць.

Т а р а с. Дык што ж рабіць?

Д р о з д. Трэба зараз жа збыць лепшую жывёлу. От ты жарабка, а я — жарабка і бугая.

Т а р а с. Дык ужо ж хутка будзе днець.

Д р о з д. Не клапаціся. Усё ўжо гатова. За гумном чакаюць надзейныя людзі. К палудню і ў горадзе будуць.

Т а р а с. Кажы, кум, сумленна ўсё робіш?

Д р о з д. Бог — сведка *(хрысціцца)*.

Т а р а с. Веру. Толькі як жа я старую адну пакіну?

Д р о з д. Не дзе дзенецца. Паляжыць.

М а т р у н а *(слаба)*. Тарас, куды ты? Што вы надумаліся?

Т а р а с *(падыходзіць да ложка)*. Я на хвілінку выйду. Кума правяду.

Д р о з д *(падыходзіць таксама да ложка)*. Што гэта, кума, учадзела?

М а т р у н а. Ой, кумок, і без чаду чадна!

Т а р а с. Дык я на хвілінку. Толькі за вароты правяду.

М а т р у н а. Ды не баўся ж.

Т а р а с і Д р о з д пайшлі. На двары голас Тараса.

Г о л а с Т а р а с а. Хто тут ходзіць?

Г о л а с Б а н а д ы с я. Я.

Г о л а с Т а р а с а. Што табе тут трэба?

Г о л а с Б а н а д ы с я. Прыйшоў паглядзець, ці дома жарабок!

Г о л а с Т а р а с а. Вон адгэтуль! Каб і следу твайго тут не было!

Г о л а с Б а н а д ы с я. Добра. Пайду. Толькі спачатку смаўжа гэтага ад вас адарву!

Матруна ўстае і садзіцца на ложку.

**Матруна.** Здаецца, Банадысёў голас. Чаго яны крычаць?

Адчыняюцца дзверы, і ў хату ўбягае збянтэжаны Дрозд, за ім гоніцца Банадысь, за Банадысём убягае Тарас. Матруна спаўзае з ложка.

**Банадысь** *(хапаючы Дразда за каўнер)*. Раздушу, гадзіна!

**Тарас.** Банадысь! Не чапай! Ведаеш, на каго ты руку падымаеш?

**Банадысь.** На ворага лютага, што мяне з гэтай хаты выкурыў!

**Матруна.** Банадыська, сыночак! Гэта ж твой бацька хросны!

**Банадысь.** А цяпер я яго буду хрысціць!

Кідае Дразда ў парог, той ляціць і галавою адчыняе дзверы. Тарас хапае сякеру, што ляжала пад лаваю, і кідаецца на Банадыся. Матруна заступае сына. Дрозд знікае.

**Матруна.** Тарас! Апамятайся! Ай, людзі!

**Тарас.** Зас-с-с-яку!

**Матруна** *(ловячы сякеру)*. Тараска, гэта ж наш Банадыська. Наш любы сынок. Ці даўно ж ты яго пеставаў? Ці даўно мы радаваліся і цешыліся з яго вучэння?

**Банадысь** *(адводзячы матку ўбок)*. Мама, пусці! Хай сячэ!

Стаіць спакойна перад бацькам. Той не апускае сякеры.

**Банадысь.** Ну, тата, чаго ж ты стаіш? Цяпер жа ніхто не перашкаджае, і я не баранюся. *(У Тараса сякера валіцца з рук.)*

**Тарас.** Як ты... наз-ваў? Здаецца, тата?

**Банадысь.** Так, тата!

Тарас ідзе, хістаючыся, да лавы, садзіцца і абапіраецца на стол, апчаперыўшы галаву рукамі. Матруна на ложку ціха плача. Банадысь стаіць пасярод хаты, спусціўшы галаву.

Банадысь. Ну, бывайце. *(Ідзе ў дзверы.)*

Матруна. Банадыська! Сынок! Куды ты?!

Тарас. Банадысь, застанься.

Банадысь *(цвёрда)*. Тата, я іду ў калектыў. Люблю вас, шкадую, але новае жыццё перамагае ўсё! І не ўтрымаеце вы мяне!

Матруна. Не пойдзеш! Не пушчу! *(Абняла яго.)*

Банадысь. Не, мама. Пайду. Я ўжо ў калгасе.

Адводзіць і садзіць матку на лаву, ідзе да дзвярэй.

Тарас. Банадысь, пачакай! Бяры і нас з сабою.

Матруна *(усхопліваецца з лавы)*. Куды... бяры? У калектыў? Нізавошта! Ідзі, ідзі сабе, стары атопак. Я адна застануся! На парозе здохну ў роднай хаце!

Тарас. Ціха, дурная. Ніхто цябе і не выганяе з свае хаты. *(Падыходзіць да Банадыся.)* Ну, сынок, прабач. Усё той д'ябал зводзіў. Эх, чаму я яму не ўвагнаў сякеру ў плечы!

Матруна. Божачка ж ты мой! Што ж з гэтым чалавекам робіцца.

У хату ўваходзяць Андрэй, Пятрок і Антось.

Андрэй. Чаму гэта вы сенцаў не зачынілі? Хлеў таксама насцеж... *(Глядзіць на хатніх.)* Ды што гэта вы ўсе нейкія нашароханыя? Што ў вас тут было?

Банадысь. Нічога. Тату здалося, што нехта па двары ходзіць.

Андрэй. Сякера пасярод хаты.

Банадысь. Тата думаў, што злодзей, ды

з сякерою выбягаў на парог. А тут і я надышоў.

Т а р а с. Няпраўда, Андрэй. Гэта я... на яго з сякераю выходзіў! Пракляты Дрозд давёў!

П я т р о к. Я ўношу прапанову ў другі раз — узяць Дразда на двайны паёк.

А н д р э й. Не клапаціся, Пятрок, возьмем.

Т а р а с. Андрэй, пры табе тая паперка?

А н д р э й. Якая, тата?

Т а р а с. Ды дзе распісваюцца?

А н д р э й. Пры мне... А навошта вам?

Т а р а с. Давай запішуся!

Б а н а д ы с ь. Праўда, тата?

Т а р а с. Праўда, сынок.

Андрэй дастае і кладзе на стол спіс.

А н д р э й. Вось аловак. *(Дае аловак.)*

М а т р у н а *(кідаецца на Тараса)*. Не дазволю! Не дам! *(Хапае за пояс і адцягвае ад стала.)*

Т а р а с. Матруна, сваёю бабскаю сілаю нічога ты не зробіш. Пусці лепш. Не запішуся пры табе, дык запішуся без цябе.

М а т р у н а *(пускае Тараса, ідзе кладзецца на ложак і галосіць)*. Ані градачкі свае, ані макавачкі... Ані каровачкі... Ані лёну пучка... Ані палаценачка...

Т а р а с. Э, хай паплача: лягчэй будзе. Дзе тут, Андрэй?

А н д р э й. Вось тут, тата.

Тарас садзіцца за стол і пачынае распісвацца. Піша доўга, напружана. Усе пазіраюць на яго. Уваходзіць Д у б а ў. На мігі паказваюць яму, каб маўчаў.

Д у б а ў. Што гэта?

А н д р э й. Чалавек нараджаецца.

Д у б а ў. Дзе? *(Глядзіць на ложак.)*

А н д р э й. Ды не там, а вось дзе!

Д у б а ў. Што тут такое?

Пятрок. Дзядзька Тарас запісваецца ў калгас.

Дубаў. Ну?!

Пятрок. А іншую лінію гнуў.

Тарас *(скончыў пісаць, выцірае лоб).* У-ух! Мудрэй, як за плугам нахадзіўся!

Андрэй *(глядзіць на спіс).* Вось гэта дык подпіс. Бы трактар прайшоў!

Тарас. А тым часам і днее ўжо.

Банадысь. А цяпер, тата, дай я цябе заціену ў абнімках!

Тарас. На, на... Толькі ж парахні не цісні.

Банадысь абнімае бацьку, цалуе яго.

Тарас. Старая! Матруна! Бабка! Ідзі абнімемся!

Матруна. Хай цябе смертухна абніме! Без сарочкі ты хадзі!

Банадысь. Тата, дык сёння можна цаніць гаспадарку?

Тарас. Першымі ацэнім, сынок. А жарабка... Эх, сёння я хацеў яго ўкрасці! А тут Дразда нагнала. Дык вось жарабка — у першую калону! А цяпер пайду аўса яму засыплю! *(Апранаецца.)* Уга, як мае быць ужо развіднела! Сонейка па стрэхах папаўзло.

Выходзіць, потым зараз жа варочаецца.

Вось што, хлопцы, я забыўся сказаць: бяжыце зараз жа да Дразда. Ён збіраўся жарабка з бугаём сёння спусціць. Казаў — за гумном надзейныя людзі чакаюць.

Андрэй. Пятрок, ты бяжы да Дразда, а ты, Антось, за гумно. Калі што — дык кулак у цябе кавальскі.

Выходзяць Пятрок, Антось і Тарас.

Андрэй. Ну, з Драздом трэба скончыць!

Матруна. Як гэта?

А н д р э й. Ды не бойцеся, мама, пэцкаць рукі аб яго паганую кроў ніхто не збіраецца. Раскулачым — і па ўсёй рабоце.

Уваходзіць М а р ы л я.

М а р ы л я. Што тут нарабілася? Мама, ты хворая?

М а т р у н а. Праз добрых дзетак! *(Плача.)*

М а р ы л я. Мама, ну што мы табе зрабілі дрэннае? Кінь плакаць. Няма чаго. *(Садзіцца на ложку.)*

М а т р у н а. Гэта ж і стары звар'яцеў. Запісаўся паншчыну адбываць!

М а р ы л я *(радасна да мужчын)*. Тата запісаўся? Праўда?

Б а н а д ы с ь. Праўда, Марыля.

М а р ы л я. Скажы, Андрэй?

Б а н а д ы с ь. Бач, матцы, брату не верыць, а толькі яму.

Д у б а ў *(усміхаецца)*. Эх, зайздрасць бярэ на такую жонку.

А н д р э й *(падыходзіць і абнімае Марылю)*. Праўда, праўда, жоначка. Вось паглядзі, якую рэйку праклаў наш стары.

Паказвае спіс. Марыля глядзіць і смяецца.

А н д р э й *(ціха да Марылі)*. Слухай, Марыля, здаецца, старая трохі абмякла, вазьміся за яе: пакажы, што ты жонка Андрэя Саболя. *(Адыходзіць.)*

Д у б а ў. Таварыш Саболь, можа, выйдзем? *(Паказвае на ложак.)*

А н д р э й. І я думаю. Хадзем, Банадысь.

Уваходзіць С т р у н о в і ч.

С т р у н о в і ч. Праўда?

Б а н а д ы с ь. Праўда, Вяруня. *(Бярэ яе за руку.)* А адкуль ты дачулася?

С т р у н о в і ч. Ды ўсё сяло пра гэта ўжо гаворыць. Цяпер усё серадняцтва будзе ў калгасе!

Б а н а д ы с ь. Ты так упэўнена гаворыш, што быццам спіс прынесла, што пазапісваліся.

С т р у н о в і ч. Я гаварыла з некаторымі. Кажуць: «Калі Тарас запісаўся, дык няма чаго доўга думаць».

А н д р э й. Але Тарасіха не паддаецца.

С т р у н о в і ч. Вы пакіньце нас. Мы тут зробім свой сход.

Б а н а д ы с ь. Хадзем, таварышы. *(Выходзяць.)*

С т р у н о в і ч *(да Марылі, паказваючы вачыма на Матруну.)* Спіць?

М а р ы л я. Мама, ты спіш?

М а т р у н а. Я ўжо забылася, калі спала.

М а р ы л я. Марнуеш толькі сябе, мама.

М а т р у н а. Гэта вы, дзеткі, марнуеце маю старасць. Прычакала ўцехі. *(Плача.)*

С т р у н о в і ч. Цётка Матруна, добры дзень.

М а т р у н а. А гэта ты, Вяруня? Добры дзень. Сядай.

С т р у н о в і ч. Пачула, што занемаглі вы. Прыйшла праведаць.

М а т р у н а. Дзякуй, мая вішанька. Хоць ты мяне не выракаешся.

С т р у н о в і ч. А хто ж вас выракаецца?

М а т р у н а. Родныя дзеткі. *(Плача.)*

С т р у н о в і ч *(быццам здзіўленая)*. Няўжо Банадысь вас выракся? Вось ніколі не чакала. А гэтак ён вас любіў! Заўсёды ўсё «мая мама ды мая мама» і з такою любасцю!

М а т р у н а *(расчулена)*. Сыночак мой любы. Я ведала, што ён такі ў мяне. Гэта не дачушка Марылька, што выгнала матку з свае хаты.

М а р ы л я. Мама!

С т р у н о в і ч. Марыля! *(Міргае ёй і паказвае на мігі, каб тая пайшла.)*

М а р ы л я выйшла.

**Струновіч.** Што ж, цётка Матруна, у Марылі свая сям'я, яна ўжо адышла ад вас.

**Матруна.** І дзеўкаю не вельмі радавала матчына сэрца. Бывала, ёй слова, а яна табе паўкапы. Вось Банадыська!

**Струновіч.** А што ў вас тут зрабілася з ім?

**Матруна.** Хацеў кінуць нас ды пайсці ў чортаў калектыў.

**Струновіч** *(асцярожна).* А хіба вы, цётка Матруна, супроць калектыву?

**Матруна.** Як, каб гэта я ды пайшла служыць чорту лысаму? Ніколі.

**Струновіч.** Каму гэта вы будзеце служыць? Пану?

**Матруна.** Знойдзецца дармаедаў на нашу галаву! Толькі працуй на іх.

**Струновіч.** А ці ведаеце вы, цётка Матруна, што ніводнага дармаеда не будзе ў калектыве? Гультай або той, хто захоча жыць з працы другога, і блізка не будуць каля калгаса.

**Матруна.** Але ж нехта будзе і там камандаваць.

**Струновіч.** Не камандаваць, а кіраваць. Будуць такія разумныя і сумленныя людзі, як Андрэй, Банадысь. Няўжо вы думаеце, што яны благога захочуць нам?

**Матруна.** Каб жа Банадысь ды Андрэй?

**Струновіч.** Мы ж самі іх выберам.

**Матруна.** А скажы, Вяруня, ці будуць там грады?

**Струновіч.** А як жа! А каб вы ведалі, цётка Матруна, што на гэтых градах будзе! Усё заводнае, усё незвычайнае! Рэпа па добрай місцы, буракі па таўкачу, капуста па самаму большаму цагану. Пра гуркі, гарбузы дык і казаць няма чаго.

**Матруна.** Ды што ж, не сваё ўсё будзе.

С т р у н о в і ч. А чыё ж? Наша, цётка Матруна. Будзеце працаваць, будзе ваша ўсё гэта.

М а т р у н а. Не дапусцяць нас, старых, ні да чаго. Паморапь голадам або аддадуць на мыла.

С т р у н о в і ч. Хто гэта вам такое глупства казаў?

М а т р у н а. Разумны і паважаны чалавек казаў — Язэп Дрозд.

С т р у н о в і ч. Вось яго ў калгас не пусцяць, каб і сілаю лез.

М а т р у н а. Ён і адзін пражыве. Гэткае багацце!

С т р у н о в і ч. Гэта будзе відаць, як пражыве.

М а т р у н а. Ну, а ты ж запісалася?

С т р у н о в і ч. Першая, цётка Матруна.

М а т р у н а. І не баялася?

С т р у н о в і ч. Баяцца ісці да лепшага жыцця? Да светлага шчасця! Вы толькі падумайце: агульная праца, вольная, разумная, без надрывання сілы, без зайздрасці. Здаровыя дагледжаныя дзеці, паважаныя ўсімі старыя, таварыскія дачыненні паміж усімі, ні п'янства, ні здзекаў мужа з жонкі, дзяцей з бацькоў! Новая радасная песня пакрые разоры, без межаў, без загончыкаў, без камення!

Матруна садзіцца на ложку і з захапленнем глядзіць на настаўніцу.

М а т р у н а. Красуня ты мая! Каб усе былі такія ў калектыве. Можа, і добра жылося б. Эх, люблю я цябе, як роднае дзіця!

Уваходзіць Б а н а д ы с ь.

Б а н а д ы с ь. Мама, ты хочаш мець Веру сваім дзіцём?

М а т р у н а. Ды мала, сынок, хацець.

Б а н а д ы с ь. Гэта вельмі лёгка зрабіць.

М а т р у н а. Не цямлю я.

Б а н а д ы с ь. Зрабіць, каб Вера стала тваёю нявесткаю. *(Падыходзіць да настаўніцы.)* Ну, Вяруня, хочаш быць яе нявесткаю, а маёю жонкаю?

С т р у н о в і ч. З ахвотаю.

М а т р у н а. А, няхай вас кот убрыкне. Ну і час. Разам і плач, і смех, і радасць. Усё памяшалася. Дайце ж хоць нагляджуся на вас.

Уваходзяць, гамонячы, А н д р э й, Д у б а ў, Д р о з д, П я т р о к, А н т о с ь і Т а р а с.

Д у б а ў. Кажы, грамадзянін Дрозд, што хацеў рабіць з жарабком і бугаём?

Д р о з д. Што я хацеў рабіць? Нічога.

П я т р о к. А чаму жарабок быў закілзаны?

Д р о з д. Да вады хацеў яго вывесці.

П я т р о к. А чаму ў бугая на рагах вяроўка была?

Д р о з д. Да ясляў прывязваю. Б'ецца.

П я т р о к. А торба з хлебам і салам на стале ў хаце нашто была падрыхтавана?

Д р о з д. У млын збіраўся ехаць — мукі ні жмені.

Т а р а с. У горад збіраўся весці і жарабка і бугая.

Д р о з д *(спачатку збянтэжаны, а потым папраўляецца)*. І ты са мною разам.

Т а р а с. Праз цябе.

Д р о з д. Праз мяне, праз мяне. Праўда. Я сам не ведаў, што рабілася са мною. Як зрабіў хто што. А вось цяпер усё праяснела. Бачу, што да чаго. Як заслонка з вачэй спала. Таварыш камісія, прыміце мяне ў калектыў. Кажу па шчырасці. Я там буду самы актыўны працаўнік.

Д у б а ў. Што ж гэта так адразу пацягнула ў калектыў?

Дрозд. Ды мяне заўсёды цягнула, а цяпер сама больш.

Дубаў. Ну?

Дрозд. Бог сведка. *(Хрысціцца.)*

Дубаў. Яшчэ такіх калектываў няма, каб Дразды туды заляталі.

Дрозд. Андрэй, чаго ж ты маўчыш? Ты, сусед, ведаеш мяне добра!

Андрэй. Але, дзядзька Язэп, мы — суседзі. Яшчэ змалку я добра ведаў Драздоў. Моцнае гняздо вы звілі сабе, але не ўласнымі рукамі. Колькі я выліў поту на вас. А ўсяго за тое, каб расолу з бульбаю пад'есці. Ану, успомніце, як калісьці апрыч елі вы, Дразды, і мы, парабкі апрыч. Вам чэрава распірала ад масла, мяса, сала, пірагоў, а нам бульба з расолам. А ці памятаеце, як з парабчанскага заробку вылічалі пяць рублёў, як адзін раз чарвівыхападкаў, што нават свінні вашы не хацелі есці, назбіраў і дадому матцы занёс? Ну, годзе ці яшчэ гаварыць?

Уваходзіць Марыля.

Пятрок. Дай, Андрэй, я сказану. А хто з касцоў і жней не ведае Драздоў? Да ўсходу сонца ў поле гналі, пасля заходу дадому варочаліся. На полудзень яблыкі гнілыя з цвілым хлебам давалі. Казалі, што спасаўка, пост. А самі нябось жэрлі скаромнае.

Марыля. Ды надоечы ж было. Пайшла я да іх малака Уладзіку папрасіць. Адну толькі шклянку... Паліла нешта яго. Прыходжу і кажу: «Нешта Уладзік захварэў, ці не дасцё хоць шклянку малака?» Старая аж затрэслася: «Што ты, што ты, Андрэіха? Дзе тое малако, самі не каштуем!» І што ж вы думаеце: на пяколку дваццаць жбаноў стаяла. Я не вытрымала — заплакала. Тады вось ён *(паказвае на Дразда)* і кажа: «Слухай, старая, налі ёй мас-

лёнкі — улетку ласку адробіць». Адцуралася я і маслёнкі і ласкі іх — хай яна ім у грудзях стане. І пайшла, плачучы, дадому.

Д у б а ў. Даволі. Усё ясна. Я ўношу прапанову — зараз жа раскулачыць!

М а т р у н а. Раскудлачыць! Як жа гэта?

А н д р э й. Вось добра сказана — раскудлачыць.

Д р о з д. Пачакайце. Дык не прымеце мяне ў калгас?

Д у б а ў. Вас, грамадзянін Дрозд, не прымаем, а вашу гаспадарку — з вялікаю ахвотаю.

Д р о з д. А я... а мы... Трэба ж жыць.

Д у б а ў. А жывіце як хочаце. І дзе хочаце. Толькі не ў нас.

Д р о з д. Дык дзе ж праўда? Дзе бог? Але я яшчэ моцны! Гаспадарку маю не возьмеце! Я гвалт закрычу! Мяне ўся Еўропа пачуе!..

Д у б а ў. Ах ты — гніль смярдзючая. Еўропай страшыць! Узяць яго!

Пятрусь і Антось падыходзяць да Дразда.

Д р о з д *(збянтэжаны, увесь трасецца)*. Я... я... адзін... з голымі рукамі...

Д у б а ў. А каб не з голымі, дык пярэчыў бы? Мы гэта ведаем. Вазьміце яго!

П я т р о к. Раскулачым!

А н т о с ь. А будзеш пярэчыць, дык і накулачым!

А н д р э й. І раскудлачым!

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Пляцоўка ў канцы сяла. На пярэднім плане праз усю сцэну плакат: «Калгас «Краіна Саветаў». З правага боку царква, з левага — кузня, пасярэдзіне школа.

З царквы чуваць, як лапоча трыер, з кузні — стук малатоў і звон жалеза. Выходзяць з царквы Андрэй і Пятрок, абодва запрацаваныя, але бадзёрыя.

Андрэй. Ну, Пятрусь, дай пяць! *(Трасе руку Петруся.)* Заданне выканаў амаль на сто працэнтаў. Насенне ачышчана і абагулена.

Пятрусь. Упарыўся, брат. Прыйшлося браць, як кажуць, і просьбай, і грозьбай... Але затое — хоць заўтра выязджай на поле!

Андрэй *(кліча)*. Антось! Антось!

Выходзіць з кузні Антось з закасанымі рукавамі і з молатам у руках.

Антось. Што загадае начальства?

Андрэй. Ну, што на фронце індустрыі?

Антось. Дымім... Іскрым... Стукаем...

Андрэй. І ўсяго?

Антось. Ну, брат, прадукцыя вышэй даваеннай! Толькі падавай сыравіну! А то не выканаем дагавора сацспаборніцтва. Сорам будзе!

Андрэй. Заўтра атрымліваем чарговую партыю чыгуну і жалеза.

Пятрок. А машыны калі?

Андрэй. Атрымалі сёння. Паехалі на вакзал па іх. А цяпер на сваё месца, браткі! Праца чакае.

Ідзе ў школу, Пятрусь — у царкву, а Антось у кузню. Ціха выходзіць Матруна. Яна азіраецца ў бакі, загледзелася на царкву і хрысціцца. Пачуўшы трыер, яна пільна прыслухоўваецца, падыходзіць бліжэй да царквы і круціць галавою, потым становіцца на калені і моліцца.

Матруна. Госпадзі міласэрны, чаго ж ты цярпіш? Ці ж ты не бачыш, што зрабілі з тваім домам? Хлявом ён стаў, святыя абразы павыкідалі, на крыж чырвоны фартух прычапілі. Пакарай сукіных сыноў! Зрабі так, каб не рызыкавалі, трасца іх матары! Прасвятая матка! Хоць і ты спадакпілася — радзіла дзеўкаю, але

стрымай распусніц дзяўчат. Каб нанач хлапцоў не пушчалі, каб нявенчаныя не жылі з імі і каб байструкоў не вадзілі. *(Прыпадае галавою да зямлі і горача шэпча.)*

З сяла ідзе Анупрэй. Ён не заўважае Матруны і накіроўваецца ў царкву, так захоплены працаю трыера. Толькі тады спыняецца, калі насунуўся на Матруну.

Анупрэй. А бадай цябе. Перапалохала чыста. Хто гэта?

Матруна *(падымае галаву)*. Станавіся, сват, і маліся.

Анупрэй *(здзіўлены)*. Гэта свацця?

Матруна. Маліся!

Анупрэй. Э, свацейка, некалі. Я прыйшоў пацікавіцца, што гэта тут лапоча. Уставай і ты, а то раматус на старасці схопіш або казінец у ногі ўваб'ецца.

Матруна. Цьфу на цябе! Д'ябал стары! Ад сынка пераняў.

Анупрэй. Не адгадала, свацейка. Не ад сынка, а ад нявесткі, значыцца, ад тваё дачушкі роднае. Хадзем, Матруна, пацікавімся. *(Паказвае на царкву.)* Ну, пойдзеш?

Матруна. Ідзі ты, сасмуціцель. А то старыя хадулі пераб'ю.

Анупрэй. Чуеш, свацця, як спявае? *(Прыслухоўваецца, потым накіроўваецца ў царкву.)*

Матруна. Сват, пачакай.

Анупрэй. А, раздумалася? Ідзі сюды!

Матруна нясмела падыходзіць да Анупрэя, і яны абое ідуць у царкву. Хаваюцца ў царкве. На школьны ганак выходзяць Андрэй з настаўніцай.

Андрэй. Ну, а як у цябе з яслямі і пляцоўкаю?

Струновіч. Планы і каштарысы складзены. Заказана мэбля.

А н д р э й. А як з кадрамі?

С т р у н о в і ч. Гэта цяжэй. Я думаю вось што: трэба паслаць на курсы Надзею і Ніну. Дзяўчаты добра пісьменныя, камсамолкі.

А н д р э й. Гэта надзвычай добра. Сёння гэта пытанне вырашым.

З царквы выходзяць А н у п р э й з М а т р у н а ю.

А н д р э й. Паглядзі, паглядзі, ды гэта ж мой стары кавалер з Матрунаю. *(Смяюцца.)* Тата! Ты чаго гэта сюды заблудзіўся?

А н у п р э й. Прыйшлі вось з сваццяю памаліцца, ажно выходзіць, што няма каму. Усіх святых паставілі засекі са збожжам вартаваць.

А н д р э й. Так, хай і яны працуюць. У нас цяпер не павінна быць дармаедаў!

М а т р у н а. Андрэй, не грашы! Што вы з маткай боскай зрабілі!

А н д р э й. А што? І яна вартуе? Добра, жанчына цяпер — раўнапраўны грамадзянін.

С т р у н о в і ч. Цётка Матруна, хадзем да мяне. *(Вядзе ў школу.)*

А н д р э й *(да бацькі)*. А ты, стары, куды?

За кузняю галасы: «Тпру! Не наязджай!..»

А н д р э й *(весела)*. Гэта машыны прывезлі. Хадзем, стары.

Ідуць за кузню. З царквы выходзіць П я т р о к.

П я т р о к. Андрэй! Прывезлі гатунковае насенне.

Г о л а с А н д р э я. Здымайце, я зараз!

П я т р о к вяртаецца ў царкву. З-за кузні выходзяць А н д р э й, Б а н а д ы с ь і А н у п р э й.

А н д р э й *(радасны)*. Багацеем мы! Адразу столькі машын! Эх, хутчэй бы вясна!

Б а н а д ы с ь. Яно добра, але ўсё гэта дробязь. От, каб трактар...

Андрэй. Эх, чудачэц ты! *(Б'е Банадыся па плячы.)* Будзе і трактар. Абяцалі даць на куст.

Анупрэй. Гэта такая машына, што кусты выкарчоўваць?

Андрэй. Не, тата. Кустом завецца некалькі калгасаў, калі яны з'яднаны разам.

Уваходзіць Марыля.

Марыля. Тата, ідзіце з Уладзікам пабудзьце.

Андрэй. А ты куды?

Марыля. У кааператыў трэба схадзіць.

Анупрэй. Я пайшоў. *(Хутка ідзе.)*

Андрэй. Ну, Марыля, хадзем пакажу ўсе нашы навіны.

Ідуць за царкву. На ганак школы выходзяць Струновіч з Матрунай.

Струновіч. Прыходзьце часцей, цётка Матруна.

Матруна. Дзякуй, вішанька, прыйду. І ты не забывайся нас, старых. Адны мы цяпер. *(Уздыхнула.)*

Струновіч. Чаму гэта, цётка Матруна, вы адны?

Матруна. Пытаешся? *(Жартліва ківае пальцам.)* Абакрала ты нас.

Струновіч. Я вас абакрала? Як гэта? Не разумею!

Матруна. А сына хто ў нас адкраў? А? Ага, пачырванела! *(Смяецца.)* Ну, добра, жывіце на здароўе. Толькі хацела прасіць у цябе аднаго.

Струновіч. Чаго, цётка Матруна?

Матруна. Каб не звала ты мяне гэтак. Разумееш? *(З матчынаю ласкаю глядзіць на настаўніцу.)*

Струновіч. Добра, мама!

М а т р у н а *(уся ўстрапянулася).* Залатая мая! *(Цалуе Струновіч і выходзіць з ганка.)*

С т р у н о в і ч. Дык заходзьце ж, мама.

М а т р у н а. Зайду, зайду, дачушка!

Ідзе на вуліцу і хутка хаваецца. Струновіч стаіць на ганку, глыбока задумаўшыся, светлая ўсмешка не выходзіць з яе твару, потым падыходзіць да бар'ера.

С т р у н о в і ч *(ціха спявае).*
Ой, не раз удваёчку
Пад высокай вярбой
У зялёным садочку
Мы сядзелі з табой...

Хвалі вод не шумелі,
Вецярок зусім сціх,
Салаўі песні пелі,
А мы слухалі іх...

На ганак нячутна выходзіць Д у б а ў, слухае.

Д у б а ў. А я і не ведаў, што ў цябе такая паэтычная натура.

С т р у н о в і ч. Няўжо ж як ты... Толькі аб конях ды каровах.

Спяшаючыся, уваходзіць Т а р а с.

Т а р а с. Матруна! Матрун-а-а! Не пільнуецца баба хаты, хоць ты што! Матруна!

Ідзе за царкву, але раптам адтуль з-за рога з'яўляецца Д р о з д. Ён страшны: звярыны выраз твару, ускудлачаны.

Т а р а с *(адступаючы назад).* Цьфу на цябе! Адкуль ты ўзяўся?

Д р о з д. З таго свету. Бо я ж мярцвяк! Хіба не ведаеш? Я мярцвяк!

Т а р а с *(яшчэ адступаючы).* Што ты пляцеш?

Д р о з д *(выразным шэптам).* Паслалі мяне з таго свету паглядзець, ці ёсць ужо калгасы. Якія тут новыя парадкі. Слухай, скажы,

што гэта тут у царкве лапатала? Можа, ужо моляцца па-новаму?

Т а р а с. Гэта на машыне насенне чысціць.

Д р о з д. У царкве насенне? Ты смяешся з мяне?

Т а р а с. Ды дзе там з табою смяяцца. Ідзі ты лепей к чортавай матары!

Д р о з д. А ты з маладымі? Ты супроць нас? Ты царкву аддаў на здзек анцыхрыстам? *(Наступае на Тараса.)*

Т а р а с *(адступаючы)*. Слухай, Дрозд, не шалей! Паклічу людзей!

Д р о з д *(шыпіць)*. Кліч! Кліч! Ты і мяне ўтапіў!

Выхапіў вялікі нож і кідаецца на Тараса. Кароткая барацьба. Тарас са стогнам валіцца на зямлю.

Д р о з д. Ляжы. Чакай дапамогі ад сваіх маладых! Эх! І зраблю ж я зараз пацеху. Глядзі, глядзі, стары.

Бяжыць да царквы. Там з-пад ганка, адняўшы дзве дошкі, выцягвае ахапак сена і вялікую бутэльку газы. Потым узбягае на ганак, адчыняе дзверы, спыняецца на парозе.

Д р о з д. Глядзі, глядзі, калгаснік! Дрозд будзе сеяць! У нас таксама ўдарная кампанія!

Бяжыць у царкву і завальвае за сабою дзверы. На ганак школы выходзіць М а р ы л я, яна хутка зыходзіць з ганка і накіроўваецца ў бок сяла. Дайшоўшы да сярэдзіны пляцоўкі, заўважае бацьку.

М а р ы л я *(спыняючыся)*. Няўжо ж гэта хто п'яны? Вось знайшоў месца. *(Падыходзіць бліжэй да бацькі і асцярожна нагінаецца над ім.)* Тата! Чаго ты? *(Убачыла лужыну крыві.)* Ай! Кроў! Людзі! Ратуйце! *(Падымае бацькаву галаву, што на карку ўжо не трымаецца.)* Тата! Татачка! Родны мой!..

Выбягаюць А н д р э й, Б а н а д ы с ь, П я т р у с ь, А н т о с ь, Д у б а ў і С т р у н о в і ч.

А н д р э й. Марыля, чаго ты?

Б а н а д ы с ь. Дзе тата?

М а р ы л я *(галосячы)*. А няма ж нашага любага! А няма ж дарагога!

Андрэй і Банадысь паднімаюць Тараса.

Б а н а д ы с ь. Тата... скажы хоць слова. Няўжо ж цябе ўжо няма? Тата!

Т а р а с *(хрыпла і ледзь чутна)*. Ты... Банадысь? І Марыля з Андрэем тут?

М а р ы л я *(кідаецца да бацькі)*. Татачка!

А н д р э й. Пачакай, Марыля, не перашкаджай. Можа, скажа што. Тата, ты чуеш?

Т а р а с. На-во-шта... у званы зво-няць? Можа, сён-ня за-ся-ваць... выяз-джа-еце? *(Твар яго прасвятляецца.)*

Б а н а д ы с ь. Тата, скажы хто?

Т а р а с *(ледзь чутна, але выразна)*. Дрозд...

Усе аслупянелі, глядзяць адзін на аднаго.

Д у б а ў. Самі вінаваты. Выпусцілі гада з рук. Трэба было адразу даць належную дарогу. Ну, няма чаго марудзіць. Зараз жа ў бальніцу адвезці!

З акон царквы вырываецца дым.

А н д р э й *(спалохана)*. Што гэта? *(Праціраe вочы.)* Таварышы, дым праз вокны ідзе!

Усе, апрача Марылі, што схілілася над бацькам, кідаюцца да ганка царквы. Андрэй узбягае першы, хапае за ручку дзвярэй.

А н д р э й. Замкнута! З сярэдзіны!

Д у б а ў. Трэба ламаць дзверы!

П я т р о к. Праз вокны хутчэй.

А н д р э й. Вокны з кратамі.

А н т о с ь. Я зараз. *(Бяжыць шпарка ў кузню.)*

Д у б а ў. Таварышы, бярыце бервяно.

Мужчыны бягуць, хапаюць бервяно і цягнуць да царквы. З'яўляецца Антось з велізарным молатам.

Антось. Не замінайце мне.

Магутнымі ўдарамі молата адбівае дзверы. Усе кідаюцца да іх, але цэлая хмара дыму спыняе мужчын.

Дубаў. Зачыняйце дзверы! Ад цягі агонь яшчэ больш разгарыцца. У дыме ён затухне хутчэй.

Андрэй. Але ж трэба ратаваць дабро. Само ж не пагасне. Прапусціце мяне ўсярэдзіну.

Марыля. Андрэй. *(Падбягае да яго.)* Куды ты? Не пушчу. *(Хапае яго за руку.)*

Пятрок. Таварышы, хто за мною!

Адчыняе дзверы і знікае ў дыме, за ім знікаюць Андрэй, Банадысь, Дубаў і Антось. Струновіч зачыняе зноў дзверы.

Марыля. Што ж гэта робіцца?

На званіцы пачуўся трывожны звон. Пачынае збірацца народ. Прыбягае Матруна.

Матруна. Дзе ж яны... мае?

Марыля *(зрываецца з ганка і бяжыць да маткі)*. Мама!

Матруна. Дзе бацька?

Марыля. Няма! *(Галосіць.)* Няма ўжо яго!

Матруна *(крычыць)*. Што яму? Дзе ён? *(Бачыць мужа, вырываецца, падбягае да яго і кідаецца на калені.)* Та-а-рас! *(Плача над ім.)* А не ўберaглі родныя дзеткі. А чаму ж я сама яго не дагледзела. А сірата ж я горкая.

Струновіч *(нагінаючыся над Матрунай)*. Мама...

Матруна. А дзе Банадысь?

Струновіч. Там. *(Паказвае на царкву.)* Тушыць.

Матруна *(усхопліваецца і кідаецца да ганка царквы)*. Аддайце хоць яго!

Струновіч *(трымае Матруну)*. Мама,

не можна адчыняць дзвярэй. Пачакайце, хутка яны выйдуць. Ужо дым перастаў ісці праз вокны.

Адчыняюцца дзверы; Пятрусь з Антосем выносяць абгарэлы труп і кладуць на зямлю. Усе абступаюць іх. Пятрусь з Антосем зноў бягуць у царкву.

Марыля. Андрэй! *(Кідаецца да трупа.)*

Матруна. Банадыська, сыночак! *(Таксама кідаецца да яго.)*

Марыля. Ай!! *(Адскоквае.)* Гэта Дрозд!

Усе з вялікім здзіўленнем бліжэй падыходзяць да нежывога Дразда. З царквы выходзяць Дубаў, Антось з Петрусём вядуць пад рукі Андрэя.

Марыля. Андрэй, што табе? *(Кідаецца да мужа.)*

Пятрок. Нічога страшнага. Ад вялікай цяжкай працы страціў прытомнасць.

Матруна *(да Банадыся)*. Сыночак. Ці жывы хаця ты?

Банадысь. Хіба сваім вачам не верыш, мама?

Прыбягае Анупрэй з Уладзікам на руках.

Анупрэй. Андрэйка! Жывы ён?

Марыля. Тата, з Уладзікам. *(Падбягае і бярэ сына, гледзячы яму ў твары.)*

Марыля. Жывы. Смяецца.

Да Андрэя падыходзіць Марыля з Уладзікам.

Андрэй *(бярэ Уладзіка)*. Смяецца. Смейся, сынок! Бацька пасадзіць цябе на сталёвага каня!

Матруна. А мой жа ты каласок! А на каго ж ты мяне пакінуў?

Усе сціхаюць, Струновіч і Банадысь падыходзяць да маткі і падымаюць яе.

Заслона.

1929

# ЯРАСЛАЎСКІ ВЕЧАР

**П'еса ў 1-й дзеі**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Багдановіч Максім, паэт, 24 гады.
Адам Ягоравіч, яго бацька, 52 гады.
Фама, 26 гадоў.
Вадзім, 24 гады.
Сяргей, 23 гады.
Зоя, 23 гады.
Вера, 22 гады.
Савіцкі, прапаршчык, 24 гады.

12 Зак. 3312

1915 год. Яраслаўль. Па авансцэне перад заслонай праходзяць Фама, Зоя, Вадзім, Вера і Сяргей. Ім насустрач — Савіцкі.

Савіцкі. Добры дзень, сябры.

Усе. Добры дзень.

Савіцкі. З інстытута?

Фама. З заняткаў. А ты куды, Аркадзь?

Савіцкі. Вас шукаю.

Вадзім. Па справе?

Савіцкі. Прыехала на гастролі ў Яраслаўль Зімінская опера. Сёння ў Волкаўскім тэатры ставіцца «Пікавая дама». Я для ўсіх бяру білеты.

Вадзім. Сёння мы не можам пайсці на оперу.

Савіцкі. Чаму гэта?

Фама. Нас запрасіў да сябе Максім Багдановіч.

Савіцкі *(здзіўлены)*. Багдановіч? Паэт?

Сяргей. Так, наш беларускі Баян.

Савіцкі. Дзе вы з ім пазнаёміліся?

Вадзім. У студэнцкай сталоўцы. Гэта была хвалюючая сустрэча.

Савіцкі. Раскажыце.

Вера. Аркаша, толькі я гэта зраблю. З іх ніхто так не раскажа.

Сяргей. Вера, зарабляеш на цукеркі?

Вера. Дурненькі, і цябе пачастую.

Савіцкі. Кажы, Вяруся.

Вера. Прыйшлі мы ў сталоўку і селі за адзін стол. Сталі размаўляць аб цудоўнай беларускай вясне. Раптам падбягае да нас малады хлапец ў форме ліцэіста. О, што гэта быў за хлапец! Такую прыгажосць можна сустрэць толькі ў казцы! Вочы гараць, за агнём не разабрала нават, якія па колеру; пышная шавялюра быццам наэлектрызованая; стройны, прыгожы. А далей хай хто іншы раскажа.

Зоя. А вусы, Верка!

Вера. Не чапайце мяне. Не магу далей.

Фама. «Вы беларусы?!» — амаль закрычаў ён і пачаў нас абдымаць. Сабраліся людзі. Са здзіўленнем глядзелі на незвычайную сцэну.

Савіцкі. Вазьміце мяне з сабою.

Вадзім. З прыемнасцю. І Максім будзе рад. Пакуль што пайшлі да нас, Аркадзь.

Усе выходзяць.

Адкрываецца першая заслона. Перад другой заслонай з рознакаляровых кветак «Вянок» Багдановіча. Ён свеціцца агнямі. Нарастае песня «Зорка Венера». Па баках «Вянка» спускаюцца слуцкія паясы. Калі «Зорка Венера» заціхае, гучыць мелодыя «Слуцкіх ткачых».

Падымаецца другая заслона. Кватэра Адама Ягоравіча Багдановіча. За сталом сядзіць Максім і натхнёна піша. Раптам кідае ручку і запускае доўгія пальцы ў шавялюру. Думае. Зноў хапае ручку і хутка піша. Потым усхопліваецца і амаль бегае з кута ў кут. Спыняецца каля акна і з шумам адчыняе яго. Максім прагна дыхае свежым паветрам. І раптам ахоплівае яго страшэнны прыступ кашлю. Хутка ўваходзіць Адам Ягоравіч.

Адам Ягоравіч. Што ты робіш, Максім? Хіба можна ўжо адчыняць акно?

Зачыняе. Налівае са жбана малако з мёдам і дае Максіму. Той п'е, кашаль паступова супакойваецца.

Прыляж на канапе.

Максім. Май на дварэ... Калі ж падыхаць вясной?

Адам Ягоравіч. Вось скончацца ў цябе заняткі, і ты на ўсё лета паедзеш у Крым.

Максім. Родны мой, цяжка табе са мною. Колькі гэта будзе каштаваць. Вядома, якія мы крэзы.

Адам Ягоравіч. Паздаравееш, будзеш служыць, пісаць. Гара грошай. Тады аддасі з працэнтамі.

Максім. А ты не жартуй... усё запісвай.

Адам Ягоравіч. Я запісваю. *(Выцірае непрыкметна хусткай вочы.)*

М а к с і м. Ты што гэта? *(Падыходзіць да бацькі.)*

А д а м  Я г о р а в і ч. Дзе я мог гэтак прастудзіцца? Падумаць толькі.

М а к с і м. Хітрууеш, баця. *(Грозіць пальцам.)* Лепш паехаць бы мне ў Беларусь. У снах яе бачу... Чароўную, незабыўную. *(Вочы Максіма загарэліся.)*

А д а м  Я г о р а в і ч. Максім, ты добра ведаеш, што табе патрэбен поўдзень, яго жыватворнае паветра, цудоўная прырода.

М а к с і м. Паветра Беларусі для мяне жыватворней, яе прырода цудоўней. Калі б я лета правёў сярод смалістых бароў, духмяных верасоў, грэчак, калі б дыхаў водарам ціхіх раніц і пяшчотных вечароў, я адразу ажыў бы.

А д а м  Я г о р а в і ч. Ты спакайней гавары.

М а к с і м. Аб родных нівах і лугах, аб празрыстых рэках і пушчах-лясах я не магу інакш гаварыць. Ды там жа жыве наш пакутны народ са сваімі цудоўнымі песнямі, казкамі, легендамі. Там аб яго цяжкім жыцці праўдзіва спяваюць сыны яго Купала і Колас.

А д а м  Я г о р а в і ч. Скончыш ліцэй — паедзеш туды працаваць.

М а к с і м. Многа яшчэ па Волзе вады сплыве.

А д а м  Я г о р а в і ч. Толькі год застаецца.

М а к с і м. Сёння ў мяне была сутычка з выкладчыкам гісторыі.

А д а м  Я г о р а в і ч. Чаго вы не падзялілі?

М а к с і м. Гаворачы аб народах заходніх ускраін Расійскай імперыі, ён не назваў беларусаў. Я запратэставаў. Тады ён нахабна адказаў: «Якія там яшчэ беларусы?» Я не стрымаўся і крыкнуў, што ён невук. Студэнты мяне падтрымалі.

**Адам Ягоравіч.** Можа быць вялікая· непрыемнасць.

**Максім.** Для мяне? Кінь... Не тыя часы. Дык яшчэ ж не ўсё. Калі супакоіліся, Пятроў, гісторык, з насмешкай запытаў: «Калі ёсць беларускі народ, дык дзе яго мова, культура?» «Максім, дакажы»,— патрабавала ад мяне аўдыторыя. І я спакойна пачаў:

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен легкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.

Я чытаў пры абсалютнай цішыні. Калі скончыў, здавалася, сцены паваляцца ад грому воплескаў. Пятроў сказаў: «Бяру назад свае словы».

**Адам Ягоравіч.** Выключна ўмела зроблена.

**Максім.** Ой, я і забыў: да нас сёння прыйдуць госці.

**Адам Ягоравіч.** Хто?

**Максім.** Землякі, студэнты Мінскага настаўніцкага інстытута.

**Адам Ягоравіч.** Трэба прыняць іх, як родных. Гэта дарагія госці.

Максім. Ды вельмі не турбуйся... Свае людзі.

Адам Ягоравіч. Трэба будзе іх пачаставаць.

Званок.

Максім. Яны!

Ідзе да дзвярэй і адчыняе іх. Шум, смех.

Калі ласка, калі ласка!

Уваходзяць Вадзім, Фама, Зоя, Вера, Сяргей і Савіцкі.

Усе. Добры вечар.

Адам Ягоравіч. Добры вечар. Проша.

Максім. Баця, гэта мае сябры. Знаёмцеся.

Знаёмяцца. Савіцкі падыходзіць да Максіма.

Савіцкі. Я лічу за вялікае шчасце для сябе пазнаёміцца з вамі. Даўно ўжо ваша муза паланіла мяне.

Максім *(ажывіўшыся)*. А дзе вы пазнаёміліся з ёю?

Савіцкі. Яшчэ калі вучыўся ў настаўніцкай семінарыі. У нас быў выкладчык літаратуры Паўловіч. У яго меўся ваш «Вянок», з якім ён нас знаёміў. Многія вершы з яго мы ведалі на памяць, дэкламавалі на вечарах.

Максім. Гэта нейкі дзіўны сон.

Савіцкі. Не сон, а рэальнасць. А ведаеце, як вас празвалі ў народзе? Галасісты салавей.

Фама. Дужа трапна!

Савіцкі. Народ ганарыцца вамі!

Максім. Для мяне няма большага шчасця!

Савіцкі. Вось каб мне зараз ваш «Вянок». Я сваім салдатам у акопах не-не ды і прачытаў бы:

У надмернай працы гіне тут
Галодны і абдзёрты люд.
Каторы моцнымі рукамі
Стварыў усе багацці на зямлі:
Правёў ён скібы на раллі,
Ён рэйкі пралажыў чыгунак,
Заводаў каміны падняў у высь нябёс.
А сам даўно сляпы ад слёз
І ўжо забыўся аб ратунак.

Альбо:

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Сколь ў хмарках залётных агня...

Максім хутка ідзе да этажэркі, капаецца ў кнігах, потым вяртаецца і дае Савіцкаму «Вянок».

С а в і ц к і. Шчыра дзякую.

А д а м Я г о р а в і ч *(да ўсіх)*. Сядайце, калі ласка.

Усе садзяцца.

В а д з і м. Адам Ягоравіч, што ў вас тут за вясна?

А д а м Я г о р а в і ч. Чаму? Вясна як вясна. Бягуць ручаі, на Волзе крыгі, на вуліцах гразь, удзень прыпякае сонца.

С я р г е й. Ага, добра прыпякае! Станеш тварам — пячэ, а адвернешся — з носа цячэ.

В а д з і м. Вось на Беларусі вясна — проста цуд.

Максім страпянуўся, не зводзіць вачэй з Вадзіма.

Я гэтымі днямі вярнуўся з веснавых канікул.

М а к с і м. Раскажы, раскажы, Вадзім!

В а д з і м. А ў нас вясну адкрываюць гракі. Ледзь на палях з'явяцца пражаліны, як яны цэлымі хмарамі носяцца над абшарамі, глушачы паветра сваімі галасамі. Асаблівы грай, ка-

лі будуюць гнёзды. Гэта сапраўдныя агрэсары. Калі гняздо гатова, яго патрэбна пільнаваць, інакш не застанецца нават ламачынкі.

Ф а м а. А то выдасца ціхуткая раніца. Руплівы гаспадар выходзіць на двор і застывае на прыступках. Яго вуха ловіць пяшчотныя пералівы званочка. Ён хутка вяртаецца ў хату і са светлай усмешкай паведамляе: «Ужо звініць у небе госцік наш». І ўсім зразумела, пра каго сказаў гаспадар. І старыя, і малыя высыпаюць на двор. «Дзе ён, мамка?» — шэпча дзяўчынка. «Вунь, вунь, дачушка, чорны камячок трапечацца»,— пяшчотна кажа маці.

А д а м Я г о р а в і ч. Гэта сапраўднае свята.

М а к с і м. Далей, далей.

С я р г е й. Зазвінела песня жаваранка — значыць, прыйшла сапраўдная вясна. А там з вышыні — гартаннае крум — і ўсе шукаюць у небе жураўліны ключ. Радуюцца людзі, бо мінула пара ранішнікаў-марозаў. Ёсць надзея паласавацца маладым агурочкам.

З о я. Або раптам закрычалі на вуліцы дзеці і кінуліся ў бок выгану. Можа — пажар? Ды не. Гэта прыляцеў бусел. Калі ўпершыню ўбачыш яго ў палёце — прабяжы: будзеш лёгкі на ногі.

В е р а. А беларускія салаўі... Хіба яны ўступаюць курскім? Ніколі! Нездарма ж, калі нашы салаўі робяць ночы асабліва палкімі і спакуслівымі, наступае сезон вяселляў — сёмуха.

М а к с і м. Праспявайце вясельную песню.

В е р а. Давайце «Прыйшоў на вяселле...»

З о я. Фама, падыграй на мандаліне.

З о я і Ф а м а *(спяваюць)*.

Прыйшоў на вяселле наш сваток,
Павязаўшы крыжам ручнічок.
А казалі, сват наш вельмі харош,

Ажно ў свата доўгі буслаў нос,
Ды ў свата лыса галава,
Рыжая казліна барада.
Барадою, сватка, патрасі,
Маладзіцам чаркі паднясі.
Калі ж, сват, гарэлкі не дасі,
Караваю трасцу ты з'ясі!..

М а к с і м. Гэта неперайма льна!

С я р г е й. Дзяўчаты, праспявайце пасадную.

З о я. Фама, мандаліну ў рукі!

Ф а м а. Ёсць! *(Праігрывае.)*

В е р а і З о я *(спяваюць).*

Ой, ляцелі гусачкі цераз сад.
Ды вялелі дзевачцы на пасад.
— Ці ёсць у цябе, дзевачка, родны брат?
Няхай цябе завядзе на пасад.
— А што вам, гусачкі, да таго?
Ёсць у мяне татачка для таго.

М а к с і м. Колькі шчырай лірыкі, пачуцця, нават драматызму! Плакаць хочацца.

В а д з і м. А на справе яно так і ёсць. У час пасаду маладая галосіць, дружкі спяваюць гэтую песню, і атрымліваецца так, што ўсе плачуць.

С а в і ц к і. Увесь драматызм у тым, што пасад — гэта рубікон для дзяўчыны: пераступіла яго — няма звароту назад. А наперадзе, магчыма, яе чакае тое, аб чым гаворыць песня «Мужык жонку б'е, бічуе...» Ні свёкар, ні свякруха, ні дзевер не бароняць яе ад мужа, які катуе жонку, каб перарабіць яе на свой лад. Наадварот, яны яшчэ памагаюць. Адна толькі залоўка просіць брата пашкадаваць жонку, бо так будзе і ёй на чужой старане.

М а к с і м. Дык калі ж людцы заспяваюць радасныя песні? Дакуль мы будзем толькі канстатаваць?! Ці не час ужо прыступіць да справы?

Савіцкі. А да каго вы, уласна, адрасуецеся?

Максім. Да сябе, да вас, да іх *(паказвае на астатніх гасцей)*, да ўсіх.

Савіцкі. Але ж гэтых усіх трэба падрыхтаваць, арганізаваць.

Фама. І нехта павінен узяць на сябе гэтую місію.

Савіцкі. А хто, па-твойму?

Фама. Народ.

Савіцкі. Так.

Адам Ягоравіч. Выбачайце, вы — бальшавік?

Савіцкі. Камуніст.

Адам Ягоравіч. Як жа тады пагадзіць афіцэрскія пагоны з ідэямі камунізма?

Савіцкі *(усміхаючыся)*. А гэта ні больш ні менш як ахоўная афарбоўка.

Адам Ягоравіч. Але ж вы скончылі школу прапаршчыкаў, дзе стараліся выхаваць у вас вернападданніцкія пачуцці.

Савіцкі. Стараліся, ды марна. І такіх непадатлівых многа.

Адам Ягоравіч. Вас пашлюць на фронт?

Савіцкі. Праз тры дні еду.

Адам Ягоравіч. Вось і будзеце ваяваць.

Савіцкі. Толькі не з нямецкімі салдатамі.

Адам Ягоравіч. Хто вы па свайму паходжанню?

Савіцкі.

І кожны, хто мяне спытае.
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць, бо я мужык!..

Адам Ягоравіч. Як жа вы трапілі ў школу?

Савіцкі. Вельмі проста. Дваранскіх сынкоў не хапае — вось і мы спатрэбіліся.

Максім *(сам сабе, палымяна)*.

Што хоць мной кожны пагарджае,

Я буду жыць, бо я мужык!

Адам Ягоравіч. Ну, дарагія, я вас на некаторы час пакіну. Дзяўчаты, за мною.

Выходзяць.

Максім *(да Савіцкага)*. Як я вам зайздрошчу!

Савіцкі. У чым?

Максім. У вас ёсць пэўная мэта, дзеля якой вы жывяце, змагаецеся.

Савіцкі. А хіба вам мэта недасяжная?

Максім. Рад бы ў рай, ды грахі не пускаюць.

Савіцкі. Гэта чаму?

Максім. «Даўно ўжо целам я хварэю...»

Чытае да канца. Усе слухаюць затаіўшы дыханне.

Савіцкі. Вы, Адамавіч, пазайздросцілі мне. А хіба служэнне народу мастацкім словам не высакародная мэта? Толькі трэба, каб гэта слова паліла сэрцы людзей, клікала на добрыя справы.

Максім. Яна, гэта мэта,— маё жыццё, мая радасць. Які я сёння шчаслівы. Новыя забілі крыніцы ў маіх жылах!

Зноў прыступ кашлю прымусіў курчыцца маладое цела. Прысутныя ўражаны. Хутка ўваходзіць Адам Ягоравіч, за ім Зоя і Вера з талеркамі. якія ставяць на стол.

Адам Ягоравіч. Ведаеш жа, што табе нельга хвалявацца.

Налівае з тэрамаса пітво, і Максім п'е. Кашаль паступова сціхае.

Максім. Ты дакараеш мяне, баця, што я хвалююся. А што за жыццё без гарэння?

Хоць дзень, але яркі, іскрамётны!Ператварыцца ў Белікава — не ў маёй натуры.

Адам Ягоравіч дастае з буфета бутэльку і чаркі.

Адам Ягоравіч. Дарагія госці, сядайце за стол.

Усе садзяцца. Гаспадар налівае чаркі.

Вып'ем.

Савіцкі *(устае)*. Вып'ем за шчаслівыя ў недалёкім будучым народы.

Усе выпіваюць.

Адам Ягоравіч. Зоя, будзьце гаспадыняю.

Усе. Просім!

Зоя. Частуйцеся, госцейкі, не саромейцеся. Вось селядзец з цыбулькаю, з перчыкам. Вось вяндлінка з хрэнам, не са старым хрэнам, а з маладым, пякучым, шчыпучым. Вера, чаму не выпіла? Чула тост?

Вера. Каб табе больш засталося? Не, няма дурных! *(Выпівае.)*

Фама. Ведайце, сябры: калі Вера чаго не хоча, кажыце адваротнае.

Зоя. Годзе. Фама, хрэн падзейнічаў?

Адам Ягоравіч. Вып'ем па другой. *(Налівае.)*

Савіцкі. Вып'ем за поспехі Максіма Адамавіча, нашага беларускага Баяна. Пажадаем, каб яго зброя — верш, стала яшчэ вастрэйшай і біла б ворага напавал!

Воплескі, п'юць.

Вадзім. Ну, сябры, нам пара ўжо.

Максім. Не, не, яшчэ рана!

Фама. На першы раз хопіць.

Вадзім. Максім, дзе ты думаеш правесці лета?

Адам Ягоравіч. На паўднёвым беразе Крыма.

Вадзім. А я думаў запрасіць цябе да сябе, у самую прыгажосць беларускага прывольля. Пабудзеш і на вяселлі, і на купальскай ночы.

Зоя і Вера *(спяваюць)*.

Купалінька, купалінька,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка?

Твая дочка ў садочку,
Дочка ў садочку
Ружу поле, ружу поле,
Ручкі, ножкі коле.
Кветачкі рве, кветачкі рве,
Вяночкі ўе.
Наце, наце вам, дзяўчаткі,
Кожнай па вяночку.

Вадзім. Пабудзеш на сенакосе, пачуеш песню-стогн.

Вера і Зоя *(спяваюць)*.

На балоце касец косіць,
Ён махае ды галосіць:
— А ці мая каса тупа?
А ці мая жонка скупа?
Наварыла гаршчок кашы,
Укінула тры крупінкі.
Няхай голас галасуе,
Няхай мая жонка чуе.

Вадзім. Пабудзем у полі ў час жніва. А колькі насушым чарніц, баравікоў, яблыкаў, груш! Адам Ягоравіч, глядзіце, каб усё гэта было куды ссыпаць!

Адам Ягоравіч. Прыйдзецца заарандаваць лабаз у купца Калашнікава.

Вадзім. Смех смехам, але тваё слова, Максім Адамавіч.

М а к с і м. Я так прыемна ўсхваляваны, што не знаходжу слоў, як дзякаваць табе, Вадзім.

С я р г е й. І мы будзем прыязджаць. Там жа недалёка.

С а в і ц к і. Мне, відаць, не давядзецца. Але нічога, я думкамі буду з вамі.

Ф а м а. Там, Максім, можа, і зорку Венеру сваю знойдзеш.

М а к с і м *(са светлай усмешкай).* Буду шукаць.

В а д з і м. Пайшлі, сябры. Ну, бывайце. Шчыра дзякуем.

Развітваюцца.

М а к с і м *(да Савіцкага).* Аркадзь Паўлавіч, давайце пісаць адзін аднаму.

С а в і ц к і. З вялікай прыемнасцю.

Ціснуць рукі.

А д а м Я г о р а в і ч. Не забывайце нас.

М а к с і м. Так, сябры, кожны ваш прыход будзе для нас вялікім святам.

Усе пайшлі. Максім праводзіць і хутка вяртаецца.

А д а м Я г о р а в і ч. Вось і яшчэ адзін вечар мінуў.

М а к с і м. Незабыўны вечар!

А д а м Я г о р а в і ч. Стаміўся?

М а к с і м. Нічога, гэта прыемная стомленасць.

А д а м Я г о р а в і ч. Якая абаяльная моладзь!

М а к с і м. Яна хутка дачакаецца залацістага, яснага дня!

А д а м Я г о р а в і ч. Ідзі адпачываць. Сёння ў цябе надзвычай багаты на ўражанні дзень.

М а к с і м. Мне тут трэба яшчэ скончыць.

Адам Ягоравіч выходзіць у другі пакой. Максім садзіцца за стол, думае, потым піша. Заходзіць Адам Ягоравіч.

Адам Ягоравіч. Максім, пашкадуй сябе. *(Маўчанне.)* Ён нічога не чуе. *(Падыходзіць да сына і кладзе руку яму на плячо.)*

Максім *(азірнуўся)*. А... Гэта ты? Чаму не спіш?

Адам Ягоравіч. Ідзі і ты.

Максім. Ну вось, скончыў нарэшце... Слухай... *(Чытае.)*

Маладыя гады,
Маладыя жаданні!
Ні жуды, ні нуды,
Толькі шчасце кахання.

Помніш толькі красу,
Мілы тварык дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы.

Цёмны сад — вінаград,
Цвет бяленькі вішнёвы,—
І агністы пагляд,
І гарачыя словы.

Будзь жа, век маладзы,
Поўны светлымі днямі!
Пралятайце, гады,
Залатымі агнямі!
Праўда, бацяя, я буду жыць?!

Адам Ягоравіч. Будзеш! Вечна жыць будзеш!

Заслона.

1927

## ЗМЕСТ



ВАСИЛИЙ САВВИЧ ГОРБАЦЕВИЧ
КРАСНЫЕ ЦВЕТЫ БЕЛОРУССИИ
Пьесы
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *Н. А. Давыдзенка.* Мастак *А. Г. Званароў.* Мастацкі рэдактар *А. І. Труханава.* Тэхн. рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* Карэктар *Т. В. Трубач.*

ІБ № 2007
Здадзена ў набор 20.01.83. Падп. да друку 04.07.83. АТ 08664. Фармат 75×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,50+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 7,54. Ул.-выд. арк. 7,57. Тыраж 4000 экз. Зак. 3312. Цана 80 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.